Д-р мэд. Ант. КРАСКОЎСКІ

# Аб чалавечым целе
## здаровым, хворым і способах яго лячэбнай самаабароны.



ВІЛЬНЯ — 1924.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Д-р мэд. Ант. КРАСКОЎСКІ

# Аб чалавечым целе
## здаровым, хворым і спосабах яго лячэбнай самаабароны.



ВІЛЬНЯ. — 1924.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

## *Дарагія браткі-Беларусы!*

Дзякуючы Богу і добрым людзям, „простая тутэйшая мова“, а лепш кажучы, родны беларускі язык, жывучы вякамі і захоўваючы сабою чысьцейшую стараславянскую мову, ажыўляецца і ўмацняецца ўсялякімі кнігамі апошніх гадоў, якіх глаўнейшая задача—пашыраць асьвету.

Кідаючы гэтыя свае зярнаты кніжнай працы на беларускую ніву, душа мгя жыве ўцехаю, што з нашаю зямною сьмерцю не загінуць плады нашай працы і дадуць пачатак вялікага ўраджаю кніжнага на патрэбную асьвету роднага народу беларускага. Прыглядайцеся, братцы, да акружнай зямлі, ўсе людзі, гаворачы мовай бацькаўскаю, маюць і грамату такую-ж, а па ёй, як па драбінцы, цягнуцца да асьветы на ўсясьветных мовах, выпераджаючы адзін аднаго. Глядзі, братку, на што цябе выпераджаюць іншыя людцы. Не паддавайся! Бярыся хутчэй за навукі, пачынаючы з роднай мовы. Вучы ўсялякія навукі, кідаючыся на тыя больш, да якіх дар ты чуеш Божы. Паміж іншых, зірні і на гэту кнігу аб самым сабе і для пачатку веды лякарскай.

АЎТОР.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

„Мы жывема, хлеб жуема, ваду п‘ема“,—так гутарыць народная прыказка, да якой можна далучыць, што мы дыхаем, ходзім, працуем, думаем і г. д. Наагул, чалавек ёсьць такая „машына“, каторая сама сабой кіруецца, іншымі кіруець і іншыя ёю кірують, так што, як кажа другая прыказка, „ўвесь сьвет — вялікі чалавек“, а дзеля гэтага і кожны чалавек, вучачы грамату, а з ёй і іншыя заданьні істнаваньня ўсяго сьвету, павінен у той самы час бліжэй прыглядзецца і да жыцьця кожнага чалавека, як здаровага, так і хворага, і да спосабаў лячэбнай самаабароны чалавека. Уступ.

---

## I.

Чалавечае цела мае верхнюю часьць з чэрапам, каторую завуць галавой, пад ёю шыя, пад шыяй грудзі, плечы, рукі, пад грудзьмі жывот, унізе ногі, а паміж ног дзетародныя часьці, мачаводы і задні праход. Чалавечае цела.

Усё цела чалавека абцягнена скурай, пад якой у жанчын больш, а ў мужчын менш ёсьць сала, каторае акругляець усе надворныя часьці цела, асабліва ў маладых людзей і якое на старасьць гінець, зьнішчаецца і скура быццам высыхаець, моршчыцца. Скура. Сала. Маршчыны.

Як і ў кожнай „машыне“, ўсе далікатнейшыя, лягчэйшыя часьці трымаюцца на мацнейшых, так і чалавечае цела маець у сабе каля 240 касьцей, зложаных у адзін моцны шкялет. Гэтыя косьці паміж сабой зьвязаны ці швамі (напр. косьці чэрапа), ці замкамі (як у лакці, ў калене і іншых суставах) і ўсе разам абцягнуты аксамітна-ясна-белаю надкасьцяною тканінай, з якой у суставах перакідаюцца масткамі з касьці на косьць моцныя сухажыльлі, а з гэтымі апошнімі зра- Шкялет. Косьці. Сухажыльлі.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

стаюцца, перацягваючыся ў розныя бакі, як гума гібкія, мягкія мускулы, таксама як косьці, абцягнутыя сінавіяльнай, як павуценьне, тоненькай плеўкай, у каторай у мясцох, дзе суставы найбольш труцца паміж касьцей і мускулаў, ёсьць торбачкі са смазачнаю водна-клустай жыжкаю.

Мускулы.

Касьцяны мозаг.

У сярэдзіне (ў разрэзе) косьці рук і ног круглыя, трубчатыя і ўтрымліваюць у сабе чырвоны рэдкі клусты мозаг, у якім растуць і разьвіваюцца чырвоныя крываныя клубочкі. Канцы трубчатых касьцей таўсьцейшыя і ў сярэдзіне дзіркаватыя (з пустоткамі), губкавідныя, быццам зложаныя з тоненькіх, як лісткі, сьценак, уложаных па законах прыроды так добра, што гэткая ўкладка найляпей адпавядае ўсім патрэбнасьцям мэханікі, і яны могуць падтрымліваць найбольшую вагу пры найбольшай лёгкасьці й моцы касьці.

Храсткі.

Канцы касьцей, асабліва скабы і хрыбеткі (пазваночнікі) згладжаны храсткамі, ці паступова пераходзяць у храсткі, якія ў малых дзяцей замяняюць сабою большасьць касьцей, а з узростам чалавека ўсе больш цьвярдзеюць, касьцянеюць.

Мозаг.

У сярэдзіне касьцей чэрапа і хрыбеткаў (пазваночнікаў) месцамі знаходзіцца бела-шэрая мазгавая матэрыя.

Нэрвы.

Ад мазгоў і мазгавой жыжкі цягнуцца ўва ўсе часьці цела нэрвовыя галінкі, як драты тэлеграфу, зьвязаныя паміж сабой у мазгох так, што чалавек чуець кожную частку свайго цела, напр., маленечкі ўкол, ці шнар; праз тыя-ж самыя нэрвы ён кіруе кожным мускулам і ўсялякім рухам цела, якія залежаць ад яго волі. Ёсьць рухі і мімавольныя, як біцьцё сэрца, рух кішок і шмат іншых.

Крываныя жылы.

Каля нэрваў, найбольш з сярэдняга, бесьпячнейшага краю рук і ног, цягнуцца крываныя жылы, каторыя, як і нэрвовыя галінкі, пераходзяць ува ўсе часьці цела так, што па аднэй жыле кроў цячэ ад сэрца ў канцы часьцей цела (гэтыя жылы завуцца артэрыямі), а па другой цячэ да сэрца (гэтыя жылы завуцца венамі).

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Сэрца.

Тая, схованая пад левай часткаю грудзей у сярэдзіне чалавека жыла, каторая пампуе няўпынна кроў з сярэдняй часьці жылаў ува ўсе канцы цела, называецца сэрцам. Сэрца ў людзей знаходзіцца ў левай палове грудзей пад скабамі і складаецца з дзьвюх частак: правай і левай.

Пульсацыя.

Правая частка сэрца сьцягвае з усяго цела кроў і пампуе ў бок лёгкіх, скуль ачышчаная кроў пампуецца праз левую частку сэрца ўва ўсе часьці цела. Гэтае пампаваньне найляпей чуецца, калі прылажыць вуха да левай паловы грудзей.

Органы пачуцьцёў.

Галава чалавека мае, як мы ўжо казалі, ў чэрапе мазгі, у якіх зьмяшчаюцца (што ўжо шмат разоў праверана лякарскаю навукай) галоўныя цэнтры кіраваньня чалавечым целам, ядры нэрвовых клетак (як тэлеграфныя апараты), што кіруюць нашымі органамі пачуцьцёў, як языком, вушмі, вачмі, нашай мовай, рухамі ног, рук і г. д. Нэрвовыя галінкі найбольш ідуць з мазгоў, перакрыжоўваючыся так, што ў левай часьці мазгоў зьмяшчаюцца цэнтры правае паловы цела і наадварот, напр., пры паралюшы (бязьдзейнасьці) правае паловы мазгоў, застаецца бяз руху левая часьць цела і г. д. Таксама і ў хрыбце (пазваночніку) мазгі дзеляцца на часткі, з якіх кожная кіруе тою ці іншай часткаю цела; з працы тэй ці іншай часьці цела, дактары даведваюцца, як папсавалася вядомая частка мазгоў, каб ужыць усе спосабы на яе вылечваньне.

Нос.

На папярэдняй часьці галавы пасярэдзіне твару пад скурай ёсьць нос, падзелены на дзьве часткі так, што кожная мае сваю ноздру, праз якую чалавек можа дыхаць, бо ноздры маюць хады ў рот і далей у лёгкія. Пры беразе сярэдняй часьці носа знаходзіцца шмат нэрвовых цыбулек, якімі распазнаецца пах; тутака-ж растуць валаскі, якія, як шчоткачкі, затрымліваюць сабою пыл і тым прачышчаюць удыхаемае паветра.

Вуха.

З кожнае ноздры праходзіць ува ўнутранае вуха тоненькая Астапава трубка, праз каторую паветра даходзіць ува ўнутранае вуха з тэй самай моцай, як і праз вонкавае (надворнае), бо інакш чалавек чуў-бы праз вушы толькі шум; кожнае ўнутранае вуха знаходзіцца

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

на аднэй вышыні з носам і таксама, як тэлефон, ці грамафонная мэмбрама, мае плеўку, або так званую барабанную перапонку, перад якой у вонкавай вушной трубцы зьбіраецца, часам, шмат жоўтае клустасьці, званае серкаю, і тым больш, чым меней мыецца вуха і пакідаецца ў ім вада. За барабаннаю плеўкаю ўва ўнутраным вусе, датыкаючыся да яе, як у грамафоннай мэмбране іголка, вісяць далікатныя костачкі, падобныя па сваёй форме да стрэмечка, кавальні і малаточка, а далей ёсьць, падобны да ракавіны сьлімака, вушны лабірынт, у каторым нацягнуты тоненькія нэрвовыя стрункі лікам да 4500 штук у норме, каторыя адбіваюцца рэхам у мазгох на кожны гук, даляцеўшы да вуха, а праз гэтыя стрункі і вушныя нэрвы кожны гук чуецца і мазгамі.

Вочы.

Паміж вушмі і носам у вочных ямках чэрапа ёсьць вочы, падобныя да люстра, з павуценна-нэрвовай сеткаю ззаду, шкляным целам пасярэдзіне і акулярнай лінзай, чэчавіцай сьпераду. Праз гэтыя вочы розум, мозаг чалавека чуе і разумее тое, што вочы бачаць.

Валасы.

Навокала вачэй растуць веялкі (рэсьніцы), над вачмі—бровы, а на галаве валасы, якія таксама растуць (але ня гэтак густа) і па ўсім целе, апрача далоняў і падошваў ног; у мужчын растуць звычайна вусы й барада, што спатыкаецца і ў жанчын, але досіць рэдка.

Рот.
Лёгкія.

Пад носам знаходзіцца рот з губамі; ў сярэдзіне яго зубы, язык, што пазнае смак, а далей глонаўка й горла, з якога пачынаюцца бронхі — храшчавыя трубкі да дыхальных мяхоў, падзеленых на малюсенькія, як мыльная пена, пузыркі. Гэта, так званыя, лёгкія, праз якія чалавек дыхае, г. зн. забіраець чыстае, карысьнейшае для яго паветра (кісларод) і выдыхаець горшае (з вуглеродам), як, да прыкладу, паравоз выкідаець з трубы дым з адпрацаванай параю. Лёгкія, самі па сабе, дзеляцца на 5 частак (доляў): 3 часткі ў правай палове грудзей і 2 ў левай, а паміж іх, крыху бліжэй да левых частак—сэрца.

Стравапровод.

За дыхальным горлам, перад хрыбтом цягнецца стравахадная трубка, праз якую, перакінутая языком,

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

глытаецца і праходзіць у жывот усялякая страва, якую толькі ўжываець чалавек. Гэтая трубка канчаецца жыватом. Яшчэ ў роце, цьвёрдая страва расьціраецца зубамі і мяшаецца з сьлінаю, г. зн. пачынае пэратраўляцца, або перарабляцца; гэтае пэратраўляньне, галоўным чынам, робіцца ў жываце, дзе з залозаў, якія знаходзяцца ў сьценках самага жывата і пад ім, цякуць патрэбныя сокі, квасы, пэпсіны.

Жывот.

Далей страва выпіхаецца ў кішкі, спачатку ў дванаццацьпальцавую, ў каторую трапляець праз жылку з жаўцявога мяшочка, зьбіраючаяся з печаняў, зялёнкавата-жоўтая жоўць, якая, дапамагаючы пераварываць клустасьці, бывае прычынаю абфарбаваньня калу ў жоўты колер. Далей страва, ўжо зусім рэдкая, пераліваецца ў тонкія кішкі, з тонкіх у таўсьцейшыя, нарэшце, ў простую і, па волі чалавека, выкідаецца вон.

Кішкі.

Згары, над кішкамі, як фартушок, вісіць сальнік, тоненькі ў худых людзей і багаты салам у таўстых. Запаленьні гэтага сальніка, асабліва ад раны, ці царапіны вельмі небясьпечны (пэрытоніт); часта здараецца запаленьне сальніка ў, параненых пры радзінах, жанчын (радзільная гарачка).

Сальнік.

З правага боку ад жывата, тамака, дзе тоненькія кішкі пераходзяць у таўсьцейшыя, ёсьць сьляпая кішка, як глухая торбачка з канцом тонкім, як хвосьцік, так што, калі ў яё трапіць разам са стравою цьвёрдая костка ці іншая рэч, што не паддаецца траўленьню ў жываце, дык можа быць запаленьне гэтай сьляпой кішкі, а адзіны тагды спосаб яго лячэньня — опэрацыя, — трэба рэзаць жывот, даючы на сон (хлёраформу), выкідаць гэту сьляпую кішку і тым ратаваць жыцьцё чалавека.

Сьляпая кішка.

Пад лёгкімі і сэрцам, папярок тулава, ляжыць тонкая плева „дыяфрагма“, якая адгароджвае грудзі ад жывата; ад яе і хрыбта цягнуцца па хрыбце караценшыя плевачкі, якія падтрымліваюць жывот і кішкі.

Дыяфрагма.

Па ўсіх кішках і іншых частках цела, як танюсенькае павуценьне, раскідана сетка так званых лімфатычных судзінаў, якія, зьліваючыся паміж сабой, робяць большыя ці меншыя залозы; найбольшая з іх у пахвіне, пад пахамі і пад вушмі,—праз іх цячэ лімфа, г. зн.

Лімфатычныя судзіны.

Залозы.
Лімфа.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

сок пераваранае стравы, які корміць усяго чалавека і кожную яго клетачку.

Клетка. Кроў.

Трэба ведаць, што чалавек зложаны з малюсенечкіх клетачак, як вялікі будынак з цэглаў, чарапіцаў і г. д.; кожная такая клетачка жывець і корміцца сокамі стравы—лімфай—і паветрам, якое разносіцца па ўсім целе крывёю праз лёгк!я, дзе кроў найбліжэй спатыкаецца з паветрам, бярэ ў сябе тое, што патрэбна для цела (як кіслард), ужывае яго; а непатрэбнае (як вуглекіслата) выкідаецца лёгкімі.

Печані.

Страўныя сокі трапляюць у кроў праз печані, ў якіх ачышчаюцца ад заразак і атруты; нашыя печані, гэта быццам фабрыка для ачышчэньня стравы, як фільтры на вялікіх вадакачках у гарадох.

Белыя крываныя цельцы. Чырвоныя крываныя цельцы. Почкі. Мача.

Паміж жыватом і кішкамі вісіць селязёнка, (каса), што вырабляе белыя крываныя клеткі, (бо нашая кроў складаецца з крываное суравіцы, белых і чырвоных крываных зярнят ці клетачак). Чырвоныя-ж крываныя клетачкі ці цельцы вырабляюцца й вырастаюць у мазгох трубчатых касьцей. Блізка паясьніцы за кішкамі, як вялікія бабы, ляжаць почкі, ў якіх з даходзячых да іх крываных жылаў працэджваецца мача, а праз мачавыя жылкі цячэ яна ў мачавы пузыр, з якога ад часу да часу выцякае вонкі.

Дзетародныя часьці цела. Мужчынскае насеньне.

Якраз у тым месцы, дзе выцякае мача, знаходзяцца множальнікі роду чалавечага—дзетародныя часьці цела, ў мужчын вісячыя паміж ног у машонцы, як 2 галубіныя яечкі, ў якіх зачынаецца і гадуецца мужчынскае насеньне — „спэрматароды“, падобныя да маленечкіх галавасьцікаў, якіх можна знайсьці вясною ў стаячай вадзе (жабяча ікра).

Гэтае чалавечае семячка вельмі малое, як кожная клетка чалавечага цела; яго можна бачыць толькі праз спэцыяльныя павялічальныя трубкі—мікраскопы. Спэрматароды, ўзгадаваныя ў яечках, выцякаюць праз семяправодныя жылкі ў семянны пузырок, каторы, як невялічкая залоза, ляжыць пад мачавым пузыром.

Палюцыя. Спэрматарэя.

Часам, у маладых людзей гэты семянны пузырок апаражняецца мімаволі чалавека, — гэта завецца палюцыяй, і баяцца яе няма чаго, калі яна бывае не часьцей

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

як 2—3 разы на месяц; калі-ж бывае часьцей, ці насеньне льецца разам з мачой (што завецца спэрматарэяй), тагды трэба лячыцца ад гэтай хворасьці.

Мужчынскае насеньне выцякае праз асобную жылку там, гдзе і мача; сьценкі гэтай жылкі, часамі, набрыняюць, як губка, і наліваюцца крывёю, — тагды гэтая часьць мужчынскага цела, што мае назоў „мужчынскага дзетароднага органу“ (панароднаму „посік“) робіцца цьвёрдаю як косьць, дзеля чаго мужчына, хочучы мець дзяцей, лягчэй можа ўлажыць яго ў „похву“ жанчыны.

Дзетародны орган. (Посік).

Похва.

Гэтая жаноцкая похва знаходзіцца пад мачавыпускальнай трубкай; а за гэтай похвай, пад мачавым пузыром у жываце, ляжыць матка, падобная да йгрушыны. Ў тэй часьці гэтае грушы, якой яна зраслася з похваю, ёсьць шыйка з дзірачкай, крыху пашыранай у сярэдзіне маткі, дзе з бакоў, як рогі, цягнуцца дзьве семяправодныя жылкі да двух, прымацованых да бакоў маткі, яечнікаў, у якіх растуць і кожны месяц разам з крывёю цякуць з маткі дасьпелыя яечкі,—тагды дзён 3—4 здольныя да раджэньня дзяцей жанчыны, як кажуць, „маюць крыві“, пры каторых бываюць шкадлівымі палавыя зносіны з мужчынай.

Матка. Яечнікі. Жаноцкія яечкі.

У іншую пару, калі бываюць зносіны, ці так званы „cojatus“ мужа з жонкай, мужчынскае насеньне можа пераліцца ў матку; ў той-жа час, калі пераліваецца з яечніка жанчыны сьпелае яечка і зьліваецца ў матцы з мужчынскім насеньнем у адну клетку, — творыцца пачатак плоду, які, прыліпаючы да сьценак маткі, расьцець і дасьпяваець у матцы дзевяць месяцаў, калі, нарэшце, выкідаецца з маткі, як кажуць, „нараджаецца на сьвет“, застаючыся зьвязаным з маткаю яшчэ тым, што корміцца якіх 9—10 месяцаў, ці навет год малаком свае маці з яе грудзей.

Палавыя зносіны. Плод. Нараджэньне.

Гэтыя грудзі ў мужчын не разьвіваюцца, ў жанчын-жа вырастаюць, і, на нараджэньні дзіцяці, пачынаюць выдзяляць малако—гэты мацерны жыр найлепшая страва для грудных дзяцей. А з малаком маці дзіцё пераймае і веру і любоў да свае сям‘і і да Бацькаўшчыны.

Грудзі. Малако.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

II.

Хваробы. Аномаліі.

Часта здараецца, што чалавек яшчэ не нарадзіўся, а хвароба яго нібы ўжо чакае. Так бывае, што дзіця родзіцца раней часу (як кажуць, „няупорным“), або памёршым, ці паміраe падчас радзін, ці зараз пасьля іх; часта ад продкаў яно адтрымлівае, як спадчыну, хваравітыя аномаліі разьвіцьця ўсяго чалавечага цела, або асобных яго частак. Блага складзены арганізм лягчэй можа захварэць. Апрача няправільнасьцяў разьвіцьця ўсяго арганізму дзіцяці, незалежных ад яго бацькоў, спатыкаецца часьцей перадача ў зьмененай форме бацькаўскіх бракаў, нястаткаў,—у гэтым выпадку можа цярпець і нэрвовая мазгавая сыстэма, зьяўляючы той ці іншы нястатак, і крывяная сыстэма арганізму на чале з сэрцам,—перадаючы прыроджаныя парокі сэрца,—і грудзі, і іншыя органы цела. А палавыя органы, зьяўляючы розныя ступені разьвіцьця, часамі даюць прысутнасьць і мужчынскіх і жаноцкіх органаў у аднэй і тэй самай асобы, што хаця і ня спыняе далейшага жыцьця арганізму, але абмяжоўвае, ў рознай ступені, палавую працаздольнасьць.

Ананізм.

У канцы, нямала шкодзіць дзецям ненатуральнае карыстаньне палавымі органамі: ўсялякае баламуцтва, штучнае дразьненьне (рукамі ці йнач.) вонкавых палавых часьцей цела, г. зв. ананізм; таксама залішняе карыстаньне хаця-б і натуральным палавым смакаваньнем, шкодна адбіваецца ня толькі на бацькох, але і на іх дзецях.

Вэнэрычныя хваробы. Мягкі шанкер.

Асабліва благія вынікі вэнэрычных хваробаў, з якіх найбольш шкодны сыфіліс, або цьвёрды шанкер; мала менш шкодны трыпэр (гонорэя, пранцы) і яшчэ меней шкодны, як мясцовая рана, мягкі шанкер.

Сыфіліс.

Сыфіліс перадаецца праз выклікальніка сыфілісу малюсенькую, вужакападобную, бледную сьпірохэту і найчасьцей праз палавыя зносіны.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Сыфіліс праз 2—3 тыдні выяўляецца ў постаці ацьвярдзеньня (цьвёрды шанкер) і язвы на адпаведным месцы заражэньня (інфэкцыі), уплываючы на дзеяльнасьць усяго арганізму; ў далейшым выяўляецца тыповымі плямамі, балячкаю лімфатычных залозаў (бубонамі) з агульным паступовым распадам, з абраненьнем розных часьцей арганізму. Ад сыфілістычных бацькоў родзяцца дзеці з ранамі навакол рота і ў іншых органах цела, або падобныя раны паказваюцца ў хуткім часе пасьля нараджэньня на мясцох абапрэласьцяў, або лёгкіх царапінаў; у вялікшых дзяцей вырастаюць рэдкія зубы; найчасьцей-жа спадачны сыфіліс выклікае пагібель дзіцяці пры аборце на 3—4 месяцы.

Цьверды шанкер. Сыфілістычныя плямы. Бубоны. Аборт.

Трыпэр, паказваючыся на першым-жа тыдні вострым запаленьнем вонкавых мачапалавых органаў, пад уплывам заражэньня бобкападобнымі зярняткамі, г. зв. „гонококамі“ і ня вылечаны ў сваім часе, гадамі можа мучыць арганізм, абварункоўваючы ў далейшым цяжкія рэўматычныя запаленьні суставаў і сэрца; па спадчыне можа быць прычынаю запаленьня вачэй і павярхowых сьлізістых абвалочак мачапалавых органаў, падрываючы арганізм з першых-жа дзён яго жыцьця.

Трыпэр. Гонококі.

Пачаўшы аб вэнэрычных хваробах, залежных ад заражэньня тымі ці іншымі мікроарганізмамі, трэба ад'значыць, што падобныя мікроарганізмы—гэта вельмі малыя істоты, якіх ня можна ўбачыць простым вокам; ўсе гэтыя „пясчынкі“, „клубочкі“, „палачкі“ адносяцца і да зоолёгічнае групы жывых, рухомых істот, і да батанічнае групы грыбкавідных і плесьнепадобных, нярухлівых расьлін. Яшчэ не прайшло й сотні гадоў, як мэдыцына знайшла способы іх адшуківаньня і выдзяленьня ў хворым арганізьме людзей і жывёлаў, зьведаўшы і пазнаўшы напэўна, пасьля шматразовых праверак, што пэўнага віду мікроарганізмы выклікаюць адпаведную, пэўнага роду, хваробу.

Мікроарганізмы.

Гэтак групай ботанічных хваробатворчых арганізмаў выклікаюцца такія хваробы, як, напр., малочніца—драждж́авы, ячменепадобны грыбок, даючы шмат густых галінак, як малочная плеўка, на паднябеньні блага дагледжаных дзяцей і хворых, абварункоўвае агуль-

Малочніца.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Мікоз. Спlaunch

ае хварэньне пад назовам „мікоз“. Падобны да апісанага, грыбок „спаратрыхоза“ выклікае адпаведныя падскурныя верады; грыбок „потніцы“ — тыповы, ўпарты пры лячэньні лішай; „трыхофітны“ грыбок, разрастаючыся ў валасістай часьці цела, служыць прычынаю паршаў; плесьнявідны, косткападобны грыбок, разьвіваючыся найчасьцей у касьцях людзей, як цяжкая, амаль невылячымая, асабліва ў запушчаных выпадках, хвароба—„актыномікоз“, болей упарты чымся „тубэркулёз“ (сухоты), які таксама разьвіваецца ад падобных да моху палачак—мікроарганізмаў, што маюць ўдаўжкі 3—4,5 мікрону і ўшыркі 0,3—0,5 мікрону (мікрон=0,001 мілімэтра). Гэтак малыя, гэтыя мікромэтрычна мерымыя, страшэнныя ворагі людзей, што іх навет ня можна бачыць простым вокам кожнага паасобку, а толькі праз мікраскопы—спэцыяльныя павялічальныя апараты, пры павялічэньні ў 1000 і болей разоў.

Мікраскопічныя досьледы.

Спэцыяльным спосабам афарбоўкі гэтых малюсенькіх жывёлак можна ляпей бачыць, апрача таго, пасеяўшы іх у асобных бутэльках, г. зв. прабірках на абчышчаных перагатавальнаю парaю жывіцельных матэрыях, як бульён, малако, бульба, жалятына, агар-агар і інш., і выгатаваўшы іх, у спэцыяльных шафачках (або тэрмостатах) пры 20°—40°, можна аддзяліць іх адну ад аднэй. Розныя мікроарганізмы як мага лепей распазнаюцца, і дактары абмяжоўваюцца тым, што ня бачачы хворага, могуць сказаць, чым ён хварэе.

Сыбірская язва. Стафілякок. Стрэптокок. Сіне-зялены гной.

Апрача таго вельмі патрэбна бывае хірургу даведацца ў сваім часе, чым выклікана тое ці іншае гнойнае запаленьне: ці гэта зроблена палачкай „сыбірскае язвы“ — прычына цяжкіх „фурункулаў“, —ці ёсьць толькі менш шкодны, падобны да вінаграду, „стафілякок“, ці ланцужкападобныя кулёчкі рожыстых запаленьняў, г. зв. „стрэптококі“, ці палачкі „сіне-зялёнага гною“, памярцьвеньня, ці менш шкодны, які-небудзь, від з ліку шматлічбовых мікроарганізмаў, што лятаюць у паветраным пыле і здольныя расьці на спагадных жывіцельных матэрыях, у блага абароненай ране, зморанага хваробаю, чалавечага арганізму.

Дыфтэрыт.

Разам, з толькі што паданымі мікроарганізмамі,

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

можна ад‘значыць і дыфтэрытную палачку, якая разрастаецца як малочніца, або сьмятана, плеўкай на малым язычку, паднябенных дужках і міндалінах, хварэючых ад яс найчасьцей дзяцей; выдзяляючы вельмі моцную атруту „токсін“, дыфтэрыт, можа лёгка атруціць чалавечы арганізм; але ўжо адхварэўшы на яго вельмі трывалы ад паўтарэньня хваробы.

Сыраватка.

Дзякуючы гэтаму, пачалі карыстацца ўпырсківаньнем, у паступова павялічваных дозах, штучна прыгатоўленага токсіну ў кроў каня, а, пераканаўшыся ў патрэбнай адпорнасьці каня ад заражэньня вялікімі дозамі гэтае атруты, забіваюць яго, але так, што ўсю кроў высмоктаваюць, а тую, што застаецца разам з чыста прыгатоўленай сыраваткай, ўпырсківаюць хворым, як спэцыяльнае лякарства, яное лёгка і напэўна лечыць ад дыфтэрыту.

Стаубняк.

На вялікую шкоду такімі добрымі спосабамі, як дыфтэрытная сыраватка, не ўладае, пакуль што, сучасная мэдыцына, хаця шпаркі ход навуковых досьледаў падае надзею ў будучыне, а некаторыя досьледы вызначаюцца навет і цяперака, напр., процістаўбнячная сыраватка, што ўжываецца проціў стаўбнячных палачак, падобных да барабанных, праходзячых у арганізм людзей найчасьцей праз раны і выклікаючых цяжкое атручэньне нэрвовае сыстэмы ўсяго арганізму пры страшэнных балючых спазмах, астаўбненьні ўсяго цела; але ўплыў адпаведнае процістаўбнячнае сыраваткі не такі добры, як процідыфтэрытнай, у розных выпадках хваробы, хаця ўпырсківаньне яе ў часе апошняе вайны ўсім раненым, прыбываўшым у цэнтральныя шпіталі, папераджала захварэньне стаўбняком і значна паменшыла процэнт яго ахвяраў.

Брушны тыфус.

З іншых, найбольш пашыраных, дзякуючы сваёй рухлівасьці, зоолёгічных мікроарганізмаў, трэба ад‘значыць палачкі брушнога тыфусу, якія найчасьцей трапляюць у арганізм хворага разам з непераваранаю, гразнаю (з бактэрыямі) вадной, або з, абмытымі, тэй самай вадою, прадуктамі, нячыстым начэньнем, вопраткаю, або праз рукі якія стыкаліся з заразнымі крыніцамі і хворымі. Трапіўшы ў чалавечы арганізм, бактэ-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

рыі тыфусу згуртоўваюцца, галоўным чынам, у жаўцявым пузырку, дзе, зусім ня шкодзячы, часамі і пасьля аздараўленьня хворага могуць цэлыя гады заставацца й расьці ў тым самым пузырку жоўці жывога чалавека і, выдзяляючыся разам з калам, заражаюць навокала нехварэўшых людзей. У хворага брушным тыфусам гэтыя бактэрыі разьядаюць тонкія кішкі, выдзяляючы атруту, і толькі пасьля загаеньня гэных кішок тэмпэратура зьніжаецца і хворы папраўляецца. Звонку брушны тыфус праяўляецца характарнай малінава - чырвонай аблямоўкай языка, павялічаным (спачатку) бражэньнем у тонкіх кішках і хваравітасьцю гэных апошніх (асабліва з правага боку) пры рэдзенькім кале. У канцы першага тыдня зьяўляюцца розныя брушна-тыфусныя плямы. Тэмпэратура ступянёва падымаецца першы тыдзень, трымаецца высака другі і на трэці падае; хаця адходы ад гэтае формы досіць частыя.

Запаленьне.

Да слова, пра тэмпэратуру трэба сказаць, што ў дапусьцімай дозе (39°—40° па Цэльзію) ёсьць зьявай барацьбы арганізму з, патрывожыўшым нармальнае жыцьцё уплывам з боку, — тагды абаронцы дабрабыту чалавечага арганізму, белыя крывяныя клубочкі, гуртуючыся ў вялікай лічбе па полі барацьбы, выклікаюць запаленьне; падобнай, самаабаронай клетак арганізму спыняецца правільная роўнавага тэрмарэгулятараў нэрвовае сыстэмы, а, пры ўнармаваньні жыцьцядзеяльнасьці, тэмпэратура зьніжаецца.

Тэмпэратура.

Нармальная-ж тэмпэратура 36° — 37,2° (зранку вышэй, падвечар ніжэй).

Паратыфусы. Кілкасная атрута.

Крыху лягчэй за брушны тыфус, гэтак званыя паратыфусы „А“ і „Б“, якія выклікаюцца заражэньнем мікраарганізмам падобнымі да адпаведных тыфусных бактэрыяў, што найчасьцей трапляюць у нутро чалавека з папсованым мясам, як і бактэрыі „бутулінусу“, якія заносяцца папсованымі кілбасамі і прасьцей называюцца бактэрыямі хваробы кілбаснай атруты.

Паваротны тыфус.

Да групы тыфусных хваробаў залічаюць і паваротны тыфус, прычына каторага—вужакадобныя сьпірохэты, подобныя да сыфілістычных, спатыкаюцца ў крыві хворых падчас вялікіх схватак павялічанай тэмпэратуры,

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

якія паўтараюцца амаль праз тыднёвыя пярэрвы, падаючы да нормы (на градус. $36^0$—$37^0$),—гэтыя сьпірохэты, высмактаныя блашчыцамі, або блохамі ў хворых і пераданыя імі-ж на здаровых людзей, абварункоўваюць зьяўленьне паваротнага тыфусу.

Сыпны тыфус.

Падобна да гэтага, блашчыцы й вошы пераносяць таксама невядомыя яшчэ бактэрыі сыпнога тыфусу, які выяўляецца разам з характарным бледна-чырвоным абляганьнем навакол языка, вялікай тэмпэратурай дзён 14, вышэйшай у першыя дні, пераменным у вушох шумам і глухаватасьцю ў далейшыя дні хваробы, пасьля першапачатковай ламаты касьцей ног (асабліва ў лытках) і ў паясьніцы, а на 5-ты дзень зьяўляецца характарная, часамі, па ўсім целе пашыраная, дробная „розеолёзная“, ці буйнейшая „пэтыхіяльная“ сып, якая, найчасьцей, на 10—12-м дні хваробы гіне.

Адпорнасьць арганізму на паўторнае захварэньне сыпным тыфусам дала мне падставу выкарыстаць, падобна дыфтэрытнай, спэцыфічную сыраватку, прыгатоўленую з крыві паздаравеўшых хворых, г. значыць зусім здаровых рэконвалесцэнтаў у 1915 годзе, ўлягэры Клейн-Вітэнбэрг у Нямеччыне. Мной рабілася адпаведная сыраватка і ўпырсківалася больш як 240 сыпнатыфусным хворым; рэзультат быў добры, $^0/_0$ сьмяротнасьці значна паменшыўся (на $22^0/_0$), але абмяніць маладаступную чалавечую сыраватку на сыраватку жывёлаў, пакуль што, не ўдалося дзеля таго, што ім, жывёлам, зусім нельга прышчапіць тыфусу. Гэткім чынам, магчымае на практыцы, спэцыфічнае лячэньне сыраваткаю, пакуль што, ня мае шырэйшага ўжываньня.

Толькі арганізм з моцным сэрцам і пры правільна рэгуляваным лячэньні, з папярэджаньнем у свой час запаленьня лёгкіх і іншых аслажненьняў можа лягчэй перанесьці гэтую, амаль не паўторную ў жыцьці, цяжкую хваробу.

Крываука.

Часамі, побач з тыфусамі ходзяць асабліва цяжкія хваробы, як халера і крываўка (дызэнтэрыя), асабліва ўлетку, часьцей у пэрыяд дасьпяваньня фруктаў, калі, не абмыўшы іх пераваранай вадою, неахай-



З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ныя людзі, не зважаючы на асеўшы на фрукты пыл з гняздаваньнем заразных мікроарганізмаў, ужываюць іх. Крываўка выклікаецца праз бактэрыі, як палачка Шыла-Крузэ, Фленмэра і інш., ўсяго да 76 відаў. Бактэрыі крываўкі выклікаюць рознай формы кішкавыя запаленьні, з якіх самае небясьпечнае, выкліканае мікроарганізмам Шыла-Крузэ, які разьвівае лушчэньне сьлізістае абвалочкі тонкіх кішок, вялікія крыватокі пры спаражненьні, што на даўгі час спыняюць мажлівасьць правільнага кармленьня арганізму; ў гэтым выпадку часта пасабляе спэцыфічная, процікрываўкавая сыраватка, хаця й не з такою ўдачаю, як процідыфтэрытная пры дыфтэрыце.

Халера. Бязумоўна, горш за крываўку—халера, дастаўшая назоў ад стара-жыдоўскіх значэньняў: „холь"—дрэнная, „ера"—хвароба, якая сапраўды вельмі дрэнна ўплывае на чалавечы арганізм, і на якую эпідэмічна хварэе вялікі % насяленьня са значнай сьмяротнасьцю. Пры халеры, што абясьсільвае ванітамі і частымі вольнасьцямі, каскавідны вібрыён хваробы расплываецца й пашыраецца навакол гэтак шпарка, што ў хатніх, небальнічных варунках надта цяжка спыніць пашырэньне халеры.

Вакцыны. Хаця, ў апошнія часы з невялікім пасьпехам страхуюць нехварэўшых амаль не на паўгода (што падчас барацьбы з эпідэміяй вельмі важна) прышчэпкаю забітых халерных культур, г. зв. вакцынаў, падобна да таго, як тыфуснымі й паратыфуснымі галінамі (г. зв. полівалентнымі вакцынамі) змагаюцца з тыфусамі.

Ашаленьне. Падобнага роду прышчапленьне, або іммунізацыя з помаччу адпаведных прышчэпак практыкавалася і даўней з „атрутаю" (токсінам) выклікальніка ашаленьня, каторы, пакуль што, хаця напэўна не пазнаны, як іншыя, але ўжо вядома, што месьціцца ён у мазгох і можа быць выдзелены на жывёлах ў рознай ступені і ў рознай, усё больш падрастаючай, дозе ўводзіцца у хворыя шаленствам арганізмы, — гэткім чынам у спэцыяльных Пастэраўскіх Інстытутах (у Вільні на Садовай вул. № 21, у доктара Арлоўскага) вылечваюць ад ашаленьня.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Мэнінгіт.

Перш за ўсё з ліку заразных мікроарганізмаў, што лёкалізуюцца ў мазгу, трэба ад‘значыць драбнюсенькія, шаравідныя выклікальнікі мэнінгіту ці г. зв. запаленьня мазгу, якіх можна знайсьці, высмоктаваючы шпрыцам праз пракол голкаю паясьнічнага хрыбта, хрыбетна-мазгавую жыжку. У гэтай хваробе пры язвах мозгу ў вялікшай ці меншай ступені, з адначаснымі моцнымі галаўнымі болямі, хворы адкікае назад галаву і характарна згінае ўзад хрыбет. Спэцыфічная сыраватка тут незаўсёды пасабляе.

Чума.

Яшчэ менш уплывае на папраўку хворых процічумная вакцынацыя (прышчэпка) і сыраватка. Чума— гэта хвароба шырока вядомая за межамі абшару навукова-мэдыцынскае веды, хаця й не спатыкаецца ў нашай, занадта сьцюдзёнай для яе, Беларусі. Выклікальнікі чумы, па форме падобныя да бочак, палачкі, нярухомыя, вельмі маленькія, ў спрыяючых варунках растуць ланцужкамі, і вельмі заразьлівыя. У заражаным арганізьме чума выяўляецца ў запаленьні лімфатычных залозаў (чумныя бубоны), язвамі і запаленьнем лёгкіх, лёгка абварункоўвае агульнае заражэньне арганізму і сьмерць.

Сап.

Падобная ёй, выклікаемая тоненькімі палачкамі, пры падобных язвах і запаленьні лёгкіх, небясьпечная і для людзей, а ня толькі як спэцыфічная для коняў, хвароба—сап.

Рожа.

Хаця, часамі, і сьмяротныя, але менш небясьпечныя язвы, з характарнай мяжой чырвонай, запаленай скуры, рэзка адмежаванай ад белай здаровай, — выклікаюцца, згуртаванымі ланцужком, драбнюсенька, клубочкавіднымі мікробамі рожы, ў змаганьні з якой значную карысьць падае спэцыфічная сыраватка.

Запаленьне лёгкіх.

Пнэўма-кокі, г. е. па 2 згрупаваныя, точкападобныя мікроарганізмы, якіх адшуківаюць у сьліне і плязе хворых на запаленьне лёгкіх, зьяўляюцца выклікальнікамі гэтае хваробы, хаця катаральнае запаленьне лёгкіх бывае часта, як аслажненьне іншых інфэкцыйных хваробаў, асабліва, калі здараецца скразьнікам,

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

або іншым шляхам застудзіць,—„прастудзіць“—грудную клетку.

Грыпа — гішпанка“. Часта запаленьне лёгкіх спатыкаецца пры грыпавых захварэньнях, якія выклікаюцца мікраскапічнымі бактэрыямі інфлюэнцы (цяпер агульна-пашыраны назоў „гішпанка“, па месцы апошняе эпідэміі); хвароба небясьпечная толькі для слабых лёгкімі й сэрцам арганізмаў.

Коклюш. На першы пагляд вельмі падобныя да грыпозных палачак выклікальнікі коклюшу, хваробы вельмі ўпартай, што абварункоўвае вельмі балючыя прыступы кашлю; асабліва небясьпечная для дзяцей малога веку.

Малярыя, г. зв. трасца. Канчаючы пералічэньне найбольш распаўсюджаных і частых выклікальнікаў хваробаў, трэба адначасаваць, што ў цёплай, вільготнай мясцовасьці, ў прысутнасьці малярыйных хворых, камар „апофеліс“, напіўшыся крыві хворага, трымаючы ў сваім арганізьме і ў арганізмах сваіх малых патомкаў выклікальнікаў малярыі, г. зв. плязмодыяў, якія, пры ўкусе заражаным камаром здаровага чалавека, выклікаюць на гадзін 12 малярыйныя прыступы, што можа здарацца праз дзень, праз два, ці кожны дзень у залежнасьці ад таго, які від плязмодыя пранікнуў у кроў (дэтальна, ў чырвоныя крывяныя клубочкі) чалавека, і калі гэтыя плязмодыі, дасьпяваючы і прарываючы крывяны клубочак, абварункоўваючы ў той самы час войстры прыступ трасцы, разыходзяцца па іншых чырвоных цельцах і, заховываючыся ў гэных да пасьпяваньня, ў той час спыняюць часова трасцу, калі перад ёй і пад час яе ня было скарыстана спэцыфічнае лячэньне, ад якога плязмодыі гінуць.

Да ліку заразных хваробаў з невядомымі выклікальнікамі трэба аднесьці:

Сьвінка. Завушніцу, якая пашыраецца эпідэмічна і выклікае запаленьне калявушных залозаў пры ўзвышанай тэмпэратуры, чаму твар хворага робіцца падобным да сьвінога, дзеля чаго й хвароба завецца йнакш сьвінкаю.

Одра (Кор). Одра (кор) — таксама эпідэмічная з невядомым выклікальнікам хвароба, ў часе каторай пасьля 3-х

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

дзён высокай тэмпэратуры з катарам, кашлем і чырваненьнем вачэй зьяўляецца сып у постаці белаватых лусак на сьлізістай абвалочцы рота і нёба, а праз ½—1½ пары і чырвоная плямістая сып на ўсім целе, расківданая, або цесна сядзячая на нармальнай скуры; дні праз 3 сып пачынае лушчыцца і тэмпэратура падае.

Шкарлятына.

Шкарлятына таксама багата сып'ю, але больш дробна-зернаватай і не выступаючай на падбародку, губах і носе; гэтая сып зьяўляецца ўжо на 2-гі дзень трасцы і яе п展ераджае моцна паказнае запаленьне гардзёлкі, міндале-падобных залозаў, з характарным чырваненьнем і больлю пры глытаньні і рыганьнем. Язык, спачатку абкладзены, белы, дзён праз чатыры таксама характарна чырванее (г. зв. „шкарлятынозны“ язык). У цяжкіх выпадках, разьвіваецца „шкарлятынозны дыфтэрыт“, г. ё. язвы на міндалевідных залозах. Шкарлятына таксама можа абварункоўваць запаленьне нырак, запаленьне і пухліну суставаў і, заражаючы ўвесь арганізм, пры некаторых, надта цяжкіх эпідэміях, дае вялікі процэнт сьмерці. Гэтак званая шкарлятынозная сыраватка — неспэцыфічна і не заўсёды ўплывае на палепшаньне здароўя, асабліва тады, калі яна ўжываецца не спачатку хваробы, а пад канец, пры аслабеньні ўсяго арганізму.

Чырвонка

Нешта сярэдняе паміж сып'ю одры і шкарлятыны зьяўляецца пры гэтак званай „чырвонцы“, хваробе больш лёгкай, але выклікаючай хваравітыя ацьвярдзеньні і пухліну лімфатычных залозаў. Выклікальнік чалавечай чырвонкі таксама, пакуль, нявeдамы.

Воспа.

Нарэшце, найстрашнейшая з усіх хваробаў, кладучая тыповую ад'знаку, — сьляды быўшых балючак,— воспа; часамі, разам з выцяканьнем крыві ў гэныя балючкі, якія чарнеюць ад крыві, і званая тагды чорнай воспай, надта небясьпечная. Балючкі воспы, характарныя сваімі паглыбленьнямі ў асяродку, асабліва на 9-ы дзень трасцы, што памяншаецца пасьля 12-х дзён, калі пухиркі падсыхаюць і пачынаюць лушчыцца.

Ветраная воспа.

Ветраная воспа г. ё. больш лёгкая форма воспы,

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

якая амаль не пакідае па сабе сьлядоў, пры карацейшым часе хваробы.

Прышчэпка воспы.

Добра яшчэ, што людзі абараняюцца з вялікім пасьпехам спэцыфічнаю прышчэпкаю, якая страхуе арганізм ад воспы на 4—7 гадоў, пасьля чаго прышчэпку трэба зрабіць нанова; калі-ж у другі раз прышчэпка ня прымецца, хаця адна й тая самая вакцына прымаецца ў іншых, дык гэта паказвае, што арганізм досіць трывалы, ці, інакш кажучы, „іммунны“ проці воспы.

Сэптыцэмія.

У канцы трэба сказаць, што і незаразьлівыя мікроарганізмы, калі адзін, або яшчэ горай, некалькі відаў адначасна будуць занесены на аслабеўшы ад хваробы, ці ад якога іншага цяжкага жыцьцёвага здарэньня (як рады), арганізм, напрыклад, пры заражэньні ў сярэдзіне палавых органаў нячыстымі інструмэнтамі ці рукамі, [якія падаюць помач парадусе, разьвіваюць агульнае заражэньне, г. зв. сэптыцэмію, змаганьне з якой надта цяжкое і незаўсёды дае добры вынік. Добра, калі мікробы, згрупаваныя ў адным якім-небудзь месцы арганізму, асумкоўваюцца ў верад, які опэрацыйна можна разрэзаць і вылячыць, а то й сам ён можа быць рассмоктамы мацнеючым арганізмам.

Мікробы кішачнага бражэньня.

Трэба яшчэ ад'значыць, што апрача шкодных мікроарганізмаў ёсьць і карысныя, жывучыя ў нашых кішках і спрыяючыя траўленьню; віды гэных мікроарганізмаў могуць перамяжацца ў залежнасьці ад спажыванай стравы.

Інкубацыйны пэрыяд.

У канцы агульнага агляду заразных хваробаў трэба зазначыць, што кожны мікроарганізм, трапіўшы ў вялікшай ці меншай лічбе ў арганізм чалавека, не адразу спатыкае моцна выказаную процічыннасьць, самаабарону больш ці менш адпорнага арганізму, пры ўзвышанай тэмпэратуры, ды іншых праявах хваробы; спачатку мікробы множацца (звычайна даюць яны новае пакаленьне праз 20 мінут); гэты пэрыяд, схованай сьпярша хваробы, завецца інкубацыйным пэрыядам і бывае розны ў розных хваробах, дзеля чаго патрэбна і розная працягненасьць карантыну, г. ёсьць поўнай ачысткі арганізму ад заразы, пасьля чаго яго можна

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

лічыць бясьпечным для іншых. Гэта каротка паказана ніжэй:

| Назоў хваробы. | Інкубацыйны пэрыяд. | ЧАС КАРАНТЫНУ. Для хварэўшых. | Для стыкаўшыхся з хворымі |
|---|---|---|---|
| Азіяцкая халера . | 1—4 дні | ад цьвёрдага калу 14 дзён. | 14 дзён |
| Брушны тыфус . . | 2—3 тыд. | 3 тыдні. | 2 тыдні |
| Паваротны тыфус. | 5—8 дзён | 2 „ | 10 дзён |
| Ветраная воспа . . | 13—17 „ | калі адпадуць коркі. | 16 „ |
| Крываўка . . . . . | 3—8 „ | ад нармальнага калу 14 дзён. | 14 „ |
| Дыфтэрыт . . . . | 2—7 „ | 4 тыдні | 14 „ |
| Завушніца . . . . | 4—25 „ | 22 дні | 22 дні |
| Інфлюэнца . . . . | 1—4 „ | 1 тыдзень | 1 тыдз. |
| Коклюш . . . . . | 5—6 „ | 6 тыдняў | 20 дзён |
| Кор (Одра) . . . . | 8—14 „ | 4—5 „ | 15 „ |
| Чырвонка . . . . | 2—3 тыд. | 2—3 „ | 16 „ |
| Купарозная пнэўмонія . . . . . | 5—48 гад. | 1 тыдзень | 6 „ |
| Малярыя . . . . . | 6—21 дз. | 3 тыдні | 6 „ |
| Воспа . . . . . . | 10—14 „ | калі адпадуць усе коркі | 17—20 „ |
| Рожа . . . . . . . | 1—2 дні | 1 тыдзень | 5 „ |
| Сап . . . . . . . | 3—5 „ | 2 „ | 10 „ |
| Сыбірская язва . . | 4—7 „ | 2 „ | 10 „ |
| Сыфіліс . . . . . | 20—25 „ | 6 месяцаў | 30 „ |
| Шкарлятына . . . | 3—14 „ | 6—7 тыдн. | 12—14 „ |
| Сабачае шаленства | 14—60 „ | 2 месяцы | 2 месяцы |
| Сыпны тыфус . . | 1—2 тыд. | 14 дзён | 14 дзён |
| Чума . . . . . . . | 2—7 дзён | пакуль бактэрыі з крыві ня згінуць | 10 дзён. |
| Эпідэмічны, цэрэбра - сьпінальны мэнінгіт . . . . | 4—5 „ | 10 дзён. | 10 „ |

**Увага**: У пэрыядзе карантыну, пажадаты 2—3 ванны з дэзынфэкцыяй вопраткі, хусьцьця і пасьцелі.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Ўспамянуўшы аб „дэзынфэкцыі“ трэба растлумачыць, што пад гэным словам разумеецца *„ачыстка ад заразы“* як самага арганізму пры помачы спэцыфічных сыраватак або лякарстваў, так і дэзынфэкцыя вонкавая— і цела хворага, і акружаючых асобаў і рэчаў, і памяшчэньня, і ўсялякага месца, гдзе можа знаходзіцца



Рыс. 1. Усялякія формы мікроарганізмаў.

гняздо заразы. Для дэзынфэкцыі цела і не-мэталічных рэчаў ужываецца 1 : 1000 рошчына сулемы, 3—5%-ая рошчына карболкі, мыла, асабліва пры ачышчэньні цела са шчоткаю ў цёплай, пераваранай вадзе.

Споры. Стэрылізацыя.

Вопратка ў рошчына добра „стэрылізуецца“, г. зн. вываруваецца кіпеньнем пры 100° у працягу ½—1 гадзіны (некаторыя мікроарганізмы, як: сыбірскай язвы, стаўбняку, трымаюць у сабе „споры“, г. ё. зярняткі, або яечнікі, падобныя да макавых галовак, з якіх выходзяць новыя пакаленьні, і гэныя споры гінуць толькі пасьля кіпеньня каля ½ гадз.), а таксама ачышчаецца і стэрылізацыяй у спэцыяльных апаратах (аўтоклавах) пры цякучай вадзе на 120°—130° і пры цісьненьні ў 2—3 атмосфэры. Мэталічныя і нікеляваныя рэчы і ін-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

струмэнты, і шкляныя шпрыцы можна стэрылізаваць, выціраючы і палошчучы эфірам і сьпіртам (найляпей 50⁰—70⁰), але ўсё-ж кіпячэньне найпэўней. Папера, скура і шарсьцяныя тканіны ня псуюцца толькі пры стэрылізацыі сернымі або фармалінавымі парамі ў спэцыяльных памяшчэньнях, ці ў першым лепшым заразьным пакоі пры помачы фармалінавага апарату; 20% сьвежаю рошчынаю вапны, ці простай неачышчанай карболкай дэзынфэкцыруюць брудныя месцы (рэтырады), рыныштокі і ямы.

Вадаправоды.

А ў вялікіх местах вадастокі прапускаюць праз фільтры і дэзынфэкцыяй ачышчаюць у спэцыяльных заводах. Таксама, і сабраная ў цэнтральную меставую вадакачку, вада прапускаецца праз каменныя і пясчаныя, або іншыя фільтры, ачышчаецца ад інфэкцыі і тым, у значнай меры, скарочвае пашырэньне эпідэміі.

Трыхіна.

Апрача схованых у арганізьме чалавека, нявідных простым вокам, арганізмаў ёсьць і відныя простым вокам паразыты, як трыхіна (крупкі, крупчака), што трапляе ў цела чалавека разам з мясам хворае сьвіньні, у якой паміж мясной тканінай (ляпей відаць пры павялічэньні) знаходзіцца ў капсульцы скручаны клубочкам чарвячок.

Глісты.

Таксама і ў кале чалавека, часьцей у дзяцей, спатыкаюцца паразыты — глісты,—або круглыя, белыя, даўгія, як алавок аскарыды, або маленькія чарвячкі (вострыцы), або даўгія, як белая цясёмка, ўсё вузейшыя ад канца да галавы стужачныя глісты, якія часьцей трапляюць у чалавека праз рыбу, або валовае мяса; круглыя яечкі іх, прыліпаючы да акружаючых рэчаў, служаць спосабам пашырэньня іх на іншых людзей.

Клешч-каросты.

Нарэшце, клешч каросты, які пранікае праз скуру і выклікае сьвярбячку — ёсьць найбольш упарты паразыт, ад якога вельмі цяжка вылячыць.

Ушкоджаньні.

Апрача ўсяго вышэйпаданага, чалавечы арганізм часта бывае ўшкоджаны якім-небудзь самавольным, або несамавольным староньнім чынам, напр., агнястрэльным, ці халодным аружжам, або тупымі рэчамі; здараюцца й вывіхі суставаў. Бываюць таксама розныя пухліны й новатворы, што паўстаюць ад няправільнага

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

разрастаньня пэўных відаў тканінаў (напр., рак і інш.), якія спатыкаюцца ў розных органах. Падыманьне цяжараў праз сілу чалавека выклікае расшырэньне брушных мускульных пакроваў (г. зв. кілу), і кішкі нібы вывальваюцца пад скуру. Часамі, трапіўшая разам са страваю ў сьляпую кішку, костка рыбы, чарэсьні, адколак эмалі ад судзіны, або якая іншая прычына выклікае запаленьне сьляпой кішкі.

Опэрацыя сьляпой кішкі.

Здараецца, што ў жаўцявым, або мачавым пузыры зьяўляецца асадак, які зьбіваецца ў каменьчыкі; ува ўсіх падобных выпадках патрэбна пільная помач хірурга і навет опэрацыя, г. ё. напраўка ці выдаленьне папсованай часткі арганізму, найчасьцей, пры помачы хірургічных інструмэнтаў, перад тым прадэзынфэкцыраваных так сама, як і іншы опэрацыйны матар'ял.

Наркоз.

Для палягчэньня хворага, часамі, засыпляюць яго штучна пры помачы хлёраформу або эфіру, ці мясцова абязбольваюць замарожваньнем хлёра-эцілам, ці кокаінным наркозам.

Катары.

Благая, ня добра пераваранaя страва і ўсемагчымыя хімічныя ўплывы (асабліва алькаголю) выклікаюць войстрыя катары жывата й кішак, могуць пакідаць і хронічныя запаленьні, таксама, як шкодныя пары й газы (асабліва ўжываньне табакі), — запаленьне бронхаў і хронічныя катары іх. У рэзультаце ўсіх вышэйпаданых уплываў, спыняюцца правільныя функцыі розных органаў у чалавечым целе, і печані, і ныркі паказваюць у вялікшай ці меншай ступені запаленьні.

Склероза.

Найчасьцей пад гадоў 40, усё роўна, як палудай у самавары, абвапняюцца, крываносныя судзіны, а галоўным чынам цэнтр іх — сэрца, і пачынаюць псавацца, зьяўляюцца ад'знакі склерозу, які тым больш прысьпяшаецца, чым больш арганізм прафільтраваў і зног антагонізмаў.

Памяшаньне розуму (вар'яцтва). Нэрвовыя хваробы.

Пры ўсім гэтым, у тэй ці іншай меры церпіць і нэрвовая сыстэма, якая ў некаторых людзей пад уплывам з боку над'звычайных афэктаў і пад цісьненьнем варункаў жыцьця, псуецца так, што думкі чалавека блутаюцца, працуюць няправільна, ненармальна, і чалавек хварэе, ці дрывіць, ці буйным вар'яцтвам, ці хро-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

нічным (хворы завецца вар'ятам), а ў больш лёгкіх выпадках хварэе толькі ў рознай ступені нэрвовым расстройствам, як нэўрастэнія і гістэрыя (апошняя часьцей бывае ў капрызных людзей, якія ня ўмеюць, ці ня могуць, стрымаць сябе). Ў кожным выпадку, як душэўныя (псыхічныя), гэтак і нэрвовыя хваробы бываюць і ў рознай меры разьвіцьця хваробы, і, ў тэй ці іншай меры, часьцей выяўляюцца на псаваньні нэрвова-мазгавой сыстэмы. Гэтак, напрыклад, здараюцца зьявы вострых псыхічных захварэньняў з буйнымі прыступамі, (калі на гэткіх хворых у бальніцы надзяюць спэцыяльныя сарочкі з даўгімі рукавамі, якія завязваюць назад, каб хворы ні сабе, ні іншым не зрабіў шкоды), пасьля якіх не паказваюцца магчымыя досьледнаму пазнаньню пераінакшаньні ў мазгу, і бывае наадварот—праяўляемыя ў мазгу дэфэкты паралельны, з адпаведнымі хваравітымі расстройствамі, псыхіцы.

Ішыяс. Паралічы.

Таксама і войстрыя зьявы нэўральгіі (боляў на ходзе тых ці іншых нэрваў), як, напр., „ішыяс",—запаленьне галоўнага нэрва нагі, які праходзіць праз сядальную частку, часта не пакідае знакоў, у той час, як часьцічныя паралічы, поўпаралічы й цэлыя паралічы (г. зн. згуба здольнасьці руху і іншых пачуцьцяў адпаведна папсаванай часьці арганізму), прыносяць як зьмены ў адпаведных цэнтральных нэрвовых клетачных ядрах у мазгу, так і перараджэньне гоняў (сьцёблаў) з атрофіяй, г. ё. пахудзеньнем паралізованых частак цела, недаразьвіцьцём, навакол ляжачых, мускульных тканін.

Падагра й Рэуматызм.

Здавалася-б, што да вышэйспомненых трэба было-б залічыць падагрычныя й рэўматычныя хваробы, што гэтак часта спатыкаюцца ў жыцьці й залежаць ад няправільнае, хваравітае крысталізацыі мочакіслых соляў у суставах і мускулах, выклікаючыя ў такіх хворых, асабліва за працаю, характарныя і, падчас, страшэнна калючыя болі (тоненькія, як голкі, канцы саляных крышталаў сапраўды могуць калоць), што хворымі найчасьцей лічацца за хваробу прастуды.

Прастуда.

Да слова аб „прастудзе" трэба зазначыць, што такой хваробы няма, але прастуджаньне, ці астуджань-

З фонду Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

не здараецца, калі ўсё цела, або яго часткі падпадаюць уплыву высокіх і нізкіх тэмпэратураў, якія шпарка зьмяняюцца. Гэтае можа аслабіць увесь арганізм, або яго частку так, што паўстае тое або іншае запаленьне; пад уплывам якога-небудзь выклікальніка хвасрбы ў аслабеўшай тканіне можа разьвіцца або мацнейшая крысталізацыя хваравітых соляў, або мікроб, знайшоўшы спрыяючы грунт для свайго разьвіцьця, — гэта і абварункоўвае пэўную хваробу.

Анкілёз.

Але таксама спрыяючы грунт для разьвіцьця хваробы можа зьявіцца і пасьля нячэўнага пабіцьця дзіцячага каленка, дзе паступова можа разьвіцца й разрасьціся тубэркулёзная палачка, так што праз месяц-другі хвароба можа ўжо выявіцца й, нявылечаная, выклікае нярухомасьць („анкілёз“) суставаў, а ў падобнага калекі ў будучыне могуць разьвіцца сухоты блізка ляжачых частак цела.

Тубэркулёз.

Зьявішча „анкілёзу“ найчасьцей тлумачыцца прысутнасьцю гдзесьці ў арганізьме тубэркулёзнага гнязда, складзенага з розросшыхся галінаў грыбка тубэркулёзнай палачкі Коха, якая бароніцца арганізмам чалавека, аддзяляючыся ад здаровай суседняй тканіны як-бы васковай плёнкай. У пэрыяды хваробы й слабасьці ўсяго арганізму, або частак яго (як напр., пры пабіцьці калена) тубэркулёзныя бацылы спатыкаюцца з не аднакім адпорам арганізму і дзеля гэтага разьвіваецца ў большай або меншай меры разбураючы працэс... Урэшце таксама разбурэньню людзкога арганізму памагаюць усялякія іншыя паразыты, якія жывуць як унутры, так і звонку. Яны вядуць цяглую барацьбу паміж сабою і, апроч таго, з арганізмам чалавека, асабліва ў выпадках слабасьці яго з той або іншай прычыны. Але тубэркулёзная грыбная палачка, пакрытая васкавой карою, найболей небясьпечна, бо пакідае значныя сьляды свайго істнаваньня. Пры разглядзе трупаў (па розных анатомічных прозэкторыях—трупярнях) у 90% выпадкаў знаходзяць сьляды быўшага тубэркулёзнага працэсу ці ў лёгкіх—асабліва ў вярхох іх, або ў залозах (залатуха), або на скуры (ваўчанка), або ў касьцёх, а ў дзіцячым веку найчасьцей на мазгавых плёнках. Ура ўсіх падоб-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ных выпадках тубэркулёзныя заразкі выклікаюць хуткую сьмерць і, наагул, з крывёю пападаюць у розныя часьці арганізму, затрымліваюцца там, дзе толькі магчыма знайсьці адпаведны грунт, і толькі ў рэдкіх супраціўных выпадках, як паказана вышэй, — паступенна мруць... Гэткім чынам, выключна тубэркулёзам (сухотамі) перамагаюцца толькі каля $8 - 10\%$, але лічба настолькі вялікая, раўнуючы з % сьмяротнасьці ад іншых хваробаў, што сухотам адным, пакуль што, належыць першае места сярод хваробаў якія нішчаць чалавецтва... Розныя віды іншых хваробаў, як тыфус, халера й чума, лягчэй ізолююца (аддзяляюцца) й перамагаюцца сучаснай мэдыцынай. Таму, ў агульным рэзультаце, яны ўносяць менш ахвяраў за тубэркулёз (сухоты), які пашыраецца праз заражанае (найчасьцей пляўкамі хворых) і пыльнае паветра (як на вуліцах).

Трахома.

Сярод заразных хваробаў таксама трэба назваць хваробу вачэй—трахому, якая ў запушчаных, брудных, сьлёзатачывых вачах выклікае рубцаваньне павекаў, зрашчэньне зрэнкаў, а пасьля й поўную сьлепату.

Іншыя хваробы асобных частак цела.

Апроч вышэйказаных, усім вядомых, хваробаў, ёсьць надта многа хваробаў вачэй, вуха, горла, носа, жаноцкіх і іншых органаў людзкога цела, як напр., пячонкі, почкаў, лёгкіх, мазгоў і інш. Акуратнае пазнаваньне й пэўнае лячэньне ўсіх хваробаў чалавечага цела найлепей магчыма, калі кіравацца да практычных спэцыялістаў, якія працуюць па местах, тым болей, што ў каротка-папулярным выданьні немагчыма перадаць ўсё тое, да чаго даўгімі гадамі, відавочна, на досьледах у лабораторыях (працоўнях), прозэкторыях (трупярнях) і клініках (бальніцах пры доктарскіх школах), даходзілі моцна падгатоўленыя дактары з помаччу спрактыкованых прафэсароў-спэцыялістаў у той, або іншай галіне мэдыцыны.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

## III.

Гігіена.

Але ў справе знаёмства з самым сабою ня трэба заплюшчаць вачэй на ўсім даступныя веданьні з сучаснай гігіены. Няхай гігіена будзе нянькай усіх новых пакаленьняў, хай бацькі, а з імі дзеці гігіенічна правільна вядуць сваё жыцьцё й жыцьцё людзей, што жывуць з імі. Ня трэба забываць, што лягчэй паперадзіць, — як лячыць, — хваробу, якая заўсёды пакідаець тыя або іншыя сьляды ў арганізьме чалавека і, ў канцы канцоў, раней або пазьней, зусім нішчыць цела чалавека. Гігіена папярэджвае ўсё гэта, яна навучае культурнага чалавека праходзіць сьмела паміж антыгігіенічнымі варункамі сучаснага жыцьця.

Гігіена дзяцей.

Гігіена, ў асобе бацькоў і абкружаючых, павінна спаткаць дзіцянё каля калыскі і навет перад нараджэньнем дзіцяці на сьвет. Бярэменная маці яшчэ ў старадаўніх народаў, як кажа гісторыя Грэцыі, спатыкала асабліва добрыя адносіны, павагу, пашану, з выбачэньнем часта натуральных яе капрызаў. Старадаўнія народы баранілі будучую маці ўсімі дзяржаўнымі законамі і глядзелі за тым, каб яна знаходзілася ў адпаведных гігіенічных і жыцьцёвых варунках.

Гігіена дзетараджэньня.

Але, як у старадаўныя часы, гэтак і ў сучасны нам момант, падобна да антыгігіенічнага дзетараджэньня ў зьвяроў, здаралася і кабетам радзіць так, напр., у далёкіх вёсках, альбо сярод бежанцаў (уцекачоў), або надта часта ў качавых пляменьняў, напр., у цыганоў, — матка родзіць дзіця ў выпадковых варунках жыцьця, дзе-небудзь пад кустом і, часам, як апавядаюць, з толькі што народжаным дзіцянём даганяец сваё качэўе. Прымаючы пад увагу, што сучасная мэдыцына вымагае, каб парадуха аставалася на ложку дзён 10, пры адпаведным дбаньні абкружаючых яе й

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

акушэркі, а нярэдка й доктара, немагчыма ня думаць, што вышэйпрыведзеныя прыклады антыгігіенічнага нараджэньня дзяцей не адбіваюцца шкодна на матцы й на дзіцяці. Навет пара году мае ўплыў на народжаных дзяцей. Тыя, што родзяцца ўвясну, або ўлетку шчасьлівейшыя: яны могуць часьцей быць на вольным паветры, сярод прыроды, сонейка лашчыць іх цела,— ўсё гэта спагадае больш хуткаму ўмацаваньню і разьвіцьцю маладога арганізму. Ды, запраўды, варта толькі зьвярнуць увагу на дзяцей (асабліва ў першыя месяцы іх жыцьця), якіх трымаюць зімой у цесных, душных пакоях, што найчасьцей спатыкаецца ў гарадох. Мы бачым сярод іх значны % сьмяротнасьці ад розных хваробаў (частыя праяўленьні дзізячага рахіту, недаразьвітасьць касьцей, надутасьць жывата, а часам, вадзянка галавы й бруха), і агульную адсталасьць як разумовага, гэтак і фізычнага разьвіцьця. Каб высьцерагчыся такіх ліхіх вынікаў, трэба: даволі чыстага паветра, тэмпэратурай $14^0$—$16^0$ да $18^0$ па Рэамюру. Дзеля чыстаты паветра, пажадана не падмятаць насуха падлогі, але, часта спаласканай анучкай, абціраць пыл усяе кватэры, як на рэчах, так і на шмат якіх хатніх кветках. Хатнія кветкі, асабліва ўночы, надта некарысны для чалавека, дзеля выдзяленьня непатрэбнага для яго вуглякіслага газу. Апроч таго, ўсялякія адкіды, а часта й макрата, распыляючыся ў паветры, прыносяць найбольш шкоды дзецям, калі ня ставіць плявальніцы й не пасьцілаць нічога на падлогу, дзеля абціраньня заўсёды гразных падэшваў. Зразумела, што вялікае сьціскаНЬне, адсутнасьць свабоднае вэнтыляцыі й дыханьне кожнай клеткі securityнованароджанага выклікаецца моцным, напалову кітайскім бінтаваньнем дзіцяці. Сучасная мэдыцына прапануець дзеля гэтае мэты, так зв. „кувэрты“, адкуль дзіця ня можа вылезьці самачынна, а дыхае і жыве свабодна. Калі трэба кувэрт зьмяніць, дзіця часова пакрываюць прымацованаю да ложка коўдраю. Уся вопратка дзіцяці павінна быць свабоднаю ў часе руху. Ніякіх гарсэтаў, або вузкіх боцікаў быць у дзіцяці не павінна.

Таксама адпаведна патрэбе арганізму груднога

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Кармленьне дзіцяці грудзьмі.

дзіцяці ўжываецца страва. Найлепей за ўсё карміць дзіця малаком з грудзей яго маткі, калі яна не хварэе на сухоты, або на якую іншую заразную хваробу, што павінна быць падцьверджана доктарам. Занадта хуткае перапыненьне кармленьня грудзьмі (да году) шкодна адбіваецца, як на дзіцяці, так і на матцы. Звычайна толькі з 5-га месяца, апроч груднога малака, пачынаюць даваць „гогель-могель“, (жаўток яйка сьцёрты з цукрам) пазьней (6—7 мес.) малако каровы і, навет, кансэрванае салодкае, а з 7-га месяца — аўсяную юшку, кампоты і зупу.

Кармленьне груднога дзіцяці стравою.

Калі-ж дзіцяці споўніцца 9—10 месяцаў, можна ўжываць кашу з манных хруп і какао. Да году звычайна спыняюць кармленьне грудзьмі і патроху пачынаюць прывучаць дзіця да штодзеннай стравы дарослых. Пры штучным кармленьні да апошніх часаў было прынята даваць у 1-ыя 4 тыдні $^1/_3$ зьнятага малака каровы (1 : 2), да 3-х месяцаў $^1/_2$ (1 : 1) і да 10-га месяца $^2/_3$ малака каровы на $^1/_3$ вады, або з месяца 7-га адвару з мукі ці круп, замест вады. Пэрыядычны друк 1921 г. абвясьціў, як найбольш рацыянальны спосаб штучнага дакармленьня, ўжываньне цэлага зваранага малака каровы, да якога дамешваюць 8. 5% цукру (1 стал. ложку цукру на шклянку малака). Даюць есьці новароджанаму ў першыя дні кожны раз, як прачхнецца, пасьля лепей карміць рагулярна праз 3—2 гадз., не часьцей (бо інакш, прынятая раней як трэба, порцыя малака, не пераварваецца, мяшаецца з старой і выгукае хваробы жывата). Уночы ад 10 в. да 4 ран. або ад 11 да 5 гадзіны карміць дзіцяці зусім ня трэба, (яно да гэтага прывыкаець, а калі прабуджаецца і bачыць—можна раз-другі даць вады з румянку), бо адпачываючы арганізм найлепей умацоўвае сон. Пры пачатковым і лёгкім спыненьні дзеяльнасьці жывата, новароджаным памагае настой румянку і клісьцір (леватыва). Вядома, што ступянёвы й асьцярожны пераход ад стравы груднога дзіцяці да звычайнай стравы дарослых бываець таксама розны, залежна ад розных жыцьцёвых варункаў кожнае сям'і. Матка, абавязак якой ня толькі не паўтараць шкоднай для дзіцяці

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

стравы, але й не перакармліваць яго, навет, малаком сваім, павінна добра ведаць гадзіны карменьня. (Чась-



Рыс. 2. Рыс. 3.

Выгляд шкялету сьпераду.

Агульны выгляд мускулаў бяз скуры, а на левай палове абрэзаны верхнія мускулы, каб лепей разглядзець глыбейшыя слаі.

цей як праз 2 гадзіны карміць немагчыма, бо як кормяць часьцей, жывот пухне й баліць, а дзіця вечна крычыць). Матка павінна навучыцца разумець кожны крык дзіцяці і ўмець супакойваць яго, вядучы дзіця



З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ад калыскі к дасьпеласьці па дарозе асабістага ўмацаваньня яго цела й розуму.




Рыс. 4.
Агульны від крываносных трубак: 1) Сэрца. 2) Галоуная артэрыя, у якую сэрца пампуе кроу для усяго цела, 3 і 4) яе галіны— галоуныя артэрыі рук і ног. 5) галіна для галавы, і 6) галіна для нырак.

Школьная гігіена.

Такім чынам, калі дзіця дасьпявае да школы, зьяўляецца небясьпека пашкодзіць раўнамернаму яго ўмацаваньню. Пэдагогічны сьвет пераважна зьвяртае

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ўвагу на разумовыя патрэбы вучняў і мала глядзіць, або зусім забываець аб нармальным фізычным разь-




Рыс. 5.

Агульны выгляд нутроу: 1) Дыяфрагма (плеука, што адгароджвае грудзі ад жывата. 2) Сэрца. 3) Легкія. 4) Печані. 5) Жывот. 6) Кішкі. 7) Сальнік.

віцьці іх, парушаючы тым, ці іншым устойчывасьць маладога арганізму.

Пад уплывам школы умацоўваецца рост, але грудная клетка адстаець у сваім разьвіцьці. Паралельна ёй

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

адстаець і вага цела, і яго адпор у жыцьцёвай барацьбо за істнаваньне. Дзякуючы гэтаму заўважаецца моцнае павялічаньне хваравітасьці, асабліва пры пераходзе з 1-ае клясы ў 2-ую. Гэты факт, (адмечаны Atelkej i Hertl'ем) падцьвярджае шкоднасьць нярухомага жыцьця ў душным паветры школьнага будынку, пасьля поўнае свабоды дашкольнага пэрыяду.

Школьныя хваробы.

Аднабочнасьць школьнае працы адбіваецца на вучнях, асабліва ў часе шкодных разумовых напружаньняў — экзаменаў замест звычайнай, раўнамернай натугі розуму. У гэты пэрыяд досіць часта заўважаюцца ў дзяцей розныя псыхічныя хваробы, нэрвовыя і, навет, самагубства.

Няправільнасьць цыркуляцыі крыві у шкаляроу.

Як лягчэйшы вынік надмернае мазговае працы ў школе, звычайна паралельнай анармальнаму перапаўненьню крывёю чэрапа, зьяўляюцца даўгія галаўныя болі. Боль галавы здараецца таксама і ад няхватку вэнтыляцыі і высокай тэмпэратуры (вышэй 15—16° R.) ў клясных пакоях. У вучняў старэйшае клясы, дзякуючы вышэйпамянутаму, часта ідзе носам кроў. Пры цесных каўнярох і пры заўсёды нахіленай над працай галаве набухаець шчытавідная залоза—зоб, пакідаючы, ў шмат якіх выпадках на ўсё жыцьцё, цяжкую нэрвовую хваробу. Па гэтых самых прычынах, сэрца, якое расьце ад 13—17 гадоў, дае часта нячыстыя тоны, а тазавыя органы няправільна запаўняюцца крывёю і г. д.

Скрыуленьне хрыбта.

Апошняе яўленьне бывае часьцей, калі вучні сядзяць за сталамі зусім роўнымі й за надта высокімі (Рыс. № 6). Іх пазванок расьце ў бок і ад доўгага пісаньня ў такім становішчы (асабліва небясьпечна ў рахітыкаў) падобнае скрыўленьне пакідаецца на ўсё жыцьцё. (Рыс. VIII). Як галоўныя прычыны гэтага трэба адзначыць: доўгае сядзеньне за дробнай працай, нядобрыя школьныя сталы, нерацыянальны спосаб пісаньня і дрэннае асьвятленьне.

Сьлепаватасьць.

Паралельна гэтаму і зрок псуецца: разьвіваецца сьлепаватасьць, якая з кожнай клясай павялічваецца, выклікаючы анатомічныя зьмены вока з пагоршаньнем зроку.

12—13 школьных гадоў навукі абымаюць маладыя

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

гады, калі найбольш адбіваюцца на людзях ўсе ўломы чалавечага жыцьця.

Аб папраўцы школьнай гігіены.

Кіруючыся на лепшую дарогу да папраўкі школьнай гігіены, трэба зьвярнуць увагу перш на тое, што „мазгавому пераўтамленьню“ вучняў,—як кажуць дактары,—апрача невялікай часткі іх, якая мае насьледны нахіл да гэтага ад бацькоў і дзядоў, большасьць вучняў павінна дзякаваць непрыпасоўцы маладога свайго арганізму да патрэбаў цяперашніх школьных вымаганьняў, а тым больш у сярэдніх школах. Праца, якой вымагаюць у школах, ня кожнаму дзіцяці можа ўдавацца, і ў цяперашніх школах як-бы ня ведаюць, што



Рыс. 6. Благі школьны стол (негігіенічны).

сілы вучняў (як і іх цела) ня могуць быць роўнымі, а дзеля гэтага няроўна на ўсіх разам у адзін час іхняга жыцьця можна накладаць роўную працу, патрэбную на скончэньне праграмы школьнае клясы. Гэткім чынам, ператамляючы мазгі іншых вучняў, школа надае ім пачаткі нэўрастэніі ды іншых нэрвовых хваробаў, якія калечаць, часамі, людзей на ўсё жыцьцё, а тым болей пасьля цяжкіх экзаменаў. На школьную гігіену мы павінны зьвярнуць вялікую ўвагу і вось дзеля чаго.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

У школьныя гады чалавечы арганізм яшчэ не акрэпшы, бо ён толькі расьце і фармуецца. У гэтыя-ж самыя гады дасьпяваюць і палавыя органы—задатк далейшага патомства,—якія трэбуюць вялікае затраты жыцьцёвых сіл, а дзеля гэтага вельмі патрэбна, ка варункі разьвіцьця арганізму былі якнайбольш выгад ныя. Трэба, каб матар'ял, з якога складаецца арганізм быў добрага гатунку; трэба, каб кожны орган цел добра муштраваўся і цераз гэта мацнеў-бы, каб будаў нічыя сілы, паложаныя ў аснову цела дзяцей, не пе ратамляліся працаю розуму, альбо іншымі аднабокім прычынамі. Нарэшце, трэба ведаць, што ў школьны гады лягчэй выдзяляюцца ўсялякія бацькоўскія хва робы, альбо заганы і нахілы.



Рыс. 7. Хваробатворчая праца шкаляра.

А таму, што ў той самы час патрэбна і большае фізычнае разьвіцьцё і большая, часамі над сілу, праца розуму, дык і выяўляецца банкруцтва натуральнага запасу сіл, калі рэшта іх была меншаю.

Плян агульнай школы.

Каб гэтага ня было, каб усялякія патрэбнасьці жыцьця ў школьным пэрыядзе былі карыснымі, дык трэба цяпер ведаць, якія школы павінны быць найлепшымі і найкарысьнейшымі як у сэнсе будоўлі іх (які

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

будынак, колькі наветра, сьвятла і г. д.), так і ў сэнсе спосабаў вучэньня.

Бо варта ведаць, што гігіеністы кажуць: кожная школа павінна мець свой будынак з тым, каб на кожную клясу прыпадала ня болей, як 50 вучняў і на кожнага шкаляра пачатковай школы ня менш, як 5 кубічных мэтраў паветра, а для сярэдняй школы 7 куб. мэтр. на вучня, і ў вышэйшай школе — яшчэ больш. А калі ў клясе вучыцца менш вучняў, дык і болей карыснага для іх паветра. Ня лічачы, часам, добрае вэнтыляцыі, як праз вокны, так і праз печы, калі паліцца ў іх, школьныя спальні трэбуюць паветра яшчэ ў два разы болей.

Сьятло ў школе павінна быць з левага боку і лічачы так, каб вокны й міжываконныя сьцены наагул займалі $^{1}/_{5}$ ўсяе велічыні падлогі. Каб можна было болей выкарыстаць будынкі нашых школаў і пашыраць асьвету ў нашай беднай Беларусі, пажадана будоўля школ, прырыхтованых да патрэбаў і пазашкольнай моладзі, ці старэйшых людзей у вячэрнія гадзіны, альбо ў сьвяты, задавальняючы гэтым духоўныя патрэбы масаў цераз агульныя лекцыі, концэрты, спэктаклі і г. д.



Рыс. 8.
Нармальная пазыцыя шкаляра.

Плянаваць трэба школы так, каб, апрача клясавых пакоікаў, быў калідор, рэкрэацыйная заля, пакоікі кіраўніка школы, вопратня ды іншыя патрэбныя памяшчэньні.

Карыстаючыся ласкавай згодаю вядомага беларускага дзеяча, архітэктара Дубейкоўскага, падаём тутака плян узорнае сярэдняе школы, апрацованы ім у 1918 г. калі пачата было будаваньне дому для Будслаўскае Беларускае Гімназіі (Рыс. 10, 11 і 12).

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Плян будынку ўзорнай школы мае аж надта даволі сьвятла, добрую вэнтыляцыю праз вокны і обэрлюфты ў вокнах і над дзьвярыма, кудою паветра, бяз цягі можа ісьці ў клясовы пакоік з рэкрэацыйнай залі, з вокнамі, якія-б праветрываліся на пераменкі, калі вучні павінны, пакідаючы клясы на патрэбную вэнтыляцыю, выходзіць да рэкрэацыйнай залі, а калі пагода пазваляе, то і на двор на забаўкі з усялякімі нявіннымі вольнымі гімнастычнымі рухамі.




Рыс. 9.
Найлепшая форма правільнага школьнага стала (да табліцы Эрысмана).

У самых клясах дошка павінна быць чорная, матавая, якая-б лёгка выціралася мокрай ганучкай, альбо лепш губкай, што прамывалася-б на кожнай перамене.

**Школьныя сталы.**

Ведаючы, што школьная праца вучняў каля плоскіх сталоў шкадліва вучням, сучасныя гігіеністы апрацавалі пляны розных школьных лавак, з якіх найлепшымі лічацца проф. Эрысмана. Па яго пляну школьныя лаўкі вымяраюць так:

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Табліца меры школьных сталоў (у мілімэтрах).

| НУМАР МОДЭЛІ. | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рост вучняу (у сантым) | ніж. 110 | 111—120 | 121—130 | 131—140 | 141—150 | 151—160 | 161—170 | 171 і выш. |
| 1) Наклон дошкі на 15° | 88 | 93 | 98 | 100 | 103 | 108 | 111 | 111 |
| 2) Розьніца | 180 | 195 | 210 | 225 | 240 | 260 | 280 | 300 |
| 3) Вышыня сядзеньня над падножкаю | 280 | 310 | 350 | 380 | 420 | 450 | 480 | 510 |
| 4) Ад падножкі да падлогі | 177 | 177 | 130 | 90 | 90 | 70 | 70 | 70 |
| 5) Агульная вышыня стала | 725 | 775 | 788 | 798 | 858 | 888 | 941 | 991 |
| 6) Даужыня стала | 1200 | 1200 | 1200 | 1200 | 1200 | 1200 | 1300 | 130 |
| 7) Аддаленьне дошкі ад падплечніка | 180 | 190 | 200 | 220 | 230 | 245 | 270 | 300 |
| 8) Дыстанцыя (мінус.) | 30 | 30 | 30 | 30 | 30 | 30 | 30 | 30 |
| 9) Выщыня лаукі над падлогаю | 457 | 470 | 480 | 487 | 510 | 520 | 550 | 580 |
| 10) Даужыя лаукі | 1100 | 1100 | 1100 | 1100 | 1100 | 1100 | 1200 | 1200 |
| 11) Шырыня лаукі разам з мінус-дістанцыяй. | 210 | 220 | 230 | 250 | 260 | 275 | 300 | 3300 |
| 12) Ніжні край ніжняе падпоркі у поясе над сядзеньнем | 120 | 130 | 140 | 150 | 160 | 170 | 185 | 200 |
| 13) Шырыня ніжняе падпоркі | 50 | 50 | 50 | 50 | 50 | 50 | 50 | 50 |
| 14) Верхні край верхняе падпоркі над сядзеньнем | 270 | 290 | 310 | 330 | 345 | 360 | 75 | 390 |
| 15) Шырыня верхняй падпоркі над плечамі | 70 | 80 | 90 | 90 | 90 | 90 | 90 | 90 |
| 16) Шырыня пахілай часьці стала | 340 | 360 | 380 | 400 | 420 | 420 | 430 | 430 |
| 17) Шырыня роунай часьці стага | 110 | 110 | 120 | 120 | 120 | 120 | 120 | 120 |
| 18) Шырыня палічкі на кнігі | 190 | 190 | 190 | 230 | 230 | 230 | 260 | 260 |
| 19) Шырыня адваротнай часьці стала | 180 | 180 | 180 | 180 | 180 | 180 | 180 | 180 |
| 20) Далечыня ад палічкі на кнігі | 145 | 145 | 145 | 140 | 140 | 140 | 140 | 140 |
| 21) Шырыня падножкі | 600 | 600 | 600 | 600 | 600 | 600 | 600 | 600 |

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Кнігі й навуковыя падручнікі.

Пры гэтым вельмі важна зьвярнуць увагу на тое, каб кнігі былі на белай паперы, бяз бляску і каб літары ня вельмі труднілі вочы, а дзеля гэтага найгігіенічнейшымі лічацца вялікія літары на 1,75 мм., з адступам паміж літарамі 0,75 мм., паміж словам 2 мм. і паміж радкамі 2,5 мм.

Кнігу і іншыя навуковыя падручнікі гігіенічней трымаць сант. на 35 ад вачэй і [проста напроці вачэй так, каб іх і галавы ня трэ' было шмат паварочваць.

Пісаньне гігіенічнейшае простае, а не старамоднае крывое, бо, дзякуючы апошняму, большасьць чытачоў хварэе сьлепаватасьцю.




Рыс. 10. Від на поунач.

Распарадкі школьнай працы.

Зьвяртаючы ўвагу на парадкі школьнай працы, трэба ведаць, што добры поступ школьнай працы найбольш залежыць ад практычнейшага і гігіенічнейшага распарадку працы дзяцей школьнага веку й лепш калі пры гэтым, як у японцаў, напрыклад, вучыцялём нароўні з бацькамі вучняў будзе дана заданьне прыглядацца до кожнага дзіцяці, каб ведаць здольнасьці яго да тае ці іншае галіны навукі, і тую часьць навукі, як талент, трэба выкарыстаць і пабольшыць, як найлепшы „дар Божы“, гэтым чынам, спэцыялізуючы ўжо з сярэдзіны сярэдняй школы; лягчэй можна будзе, падтрымліваючы вышэйшую навуку, памагчы лепшаму поступу навукі вучнёўскай, на ўцеху бацьком, школе і роднай краіне.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Ведаючы, што ў Швэцыі вельмі лічацца з гігіенаю школы, зьвяртаю ўвагу на гэткія распарадкі школьнай працы ў гэтым краі:

Гадзіны працы вучняў-школяроў.

| | Ад 10 гадоў да 18: | | |
|---|---|---|---|
| На сон вызначана . . . | 10—11 | гадзін | — $8^1/_2$ |
| „ апрананьне, распрананьне і ўмываньне | 1 | „ | — 1 |
| „ яду і адпачынак . . | 3 | „ | — 3 |
| „ гульні й іншыя рэчы, па волі вучняў . | 3—4 | „ | — $2^1/_2$ |
| „ працу розуму, як у школе, так і ў хаце . | 6 | „ | — 9 |
| „ тыднёвы лік гадзін разумовай працы ў школе . . . . . . . | 29 | „ | —35 |
| у хаце . . . . . . . | 7 | „ | —19 |



Рыс. 11. Від на захад.

Але навуковы поступ працы розуму павінен быць аднолькавы з поступам змацненьня фізычных сілаў арганізму, бо апошнія павінны не загубляцца на патрэбы духоўныя, ведаючы, что толькі ў здаровым целе жыве здаровы дух, — ляпей калі адна часьць чалавечага арганізму не загубляецца на карысьць іншае часьці, калі ўсё разам роўна разьвіваецца.

Вядомыя гігіеністы, ня хочучы абніжаць вагу вучыцялёў, аднак зьвяртаюць вялікую ўвагу ў школьнай

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

працы на фізычныя патрэбы цела, ўвагу ня меншую, як на патрэбы розуму. Гэтым чынам патрэбна выкарыстаць прыстойныя вучням гульні, каб у пераменкі яны (найлепей на вольным паветры) маглі-б вольнымі рухамі (не шкадлівымі ні сабе й нікому) ажыўляць і змацняць свае фізычныя сілы, не напружваючы і ня мучаючы розуму, як гэта здараецца на лекцыях пэдантычнае працы—школьнай гімнастыкі, калі яна адбываецца, часам, у душным пакоіку і аднолькава пры няроўных сілах вучняў, не раўнуючы, быццам салдацкая муштра.

Гімнастыка.

Але трэба ведаць, што й гімнастыка мае ў сабе шмат карыснага, тым больш, калі, не пераўтамляючы вучняў пад добрым і разумным наглядам, бязумоўна ўзмацняе сілы іхняга цела.

Гімнастыка бывае ўсялякая, як напр., швэдзкая, нямецкая, вядомая сваімі муштрамі на спэцыяльных струмантах і трапэцыях, лепшыя штукі якой паказваюцца цыркавымі камэдыянтамі.

Як добрую, роўную і меней шкодную трэба прызнаць сусьветна - вядомую і слаўную сярод славян *сакольскую* гімнастыку бяз ніякіх струмантаў, апрача гладкага кіёчка. Заданьне гімнастыкі—ўзмацаваць роўна ўсе мускулы цела (якіх усяго 3.500), навучыць распараджацца імі з найменшаю тратаю сіл і найбольшаю карысьцю, выпрацоўваючы лоўкасьць і прыгожасьць рухаў.

Спорт.

Разам з гэтым трэба падтрымліваць гэтак сама і ўсялякі „спорт“, як напрыклад: купаньне — вельмі карыснае для дыханьня, кровазвароту, ўзмацаваньня мускулаў і скуры ўсяго чалавечага цела, — язда чайкаю з двума вёсламі, танцы на чыстым паветры (ня ў пыле) бяз зацягваньня ў гарсэты ці тугога сьціскаецьня сябе паясамі. Коўзаньне на коўзалках, язда на лыжах і конях, як меней карысныя віды спорту і, як найменей карысную, язду на калаўротах (вэлісапэдах), бо яна, часамі, прысьпяшае (найболей сярод таўсьцейшых) слабасьці сэрца й хуткую сьмерць.

Гімнастыка з гірамі карысна тады, калі яны не зацяжкія.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

# Mᵉ BUDSLAŬ - HIMNAZIJA

## PLAN PRYZIEMLA




Рыс. 12. Спроектованы архітэктарам Л. Дубейкоускім плян гімназіі з 6-х

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Апрача таго, выключаючы цыркавую небясьпечнасьць, барацьба, бокс, кракет і інш. забаўкі пажаданы па выпрацаваньні сілы й лоўкасьці цела.

Усе фізычныя практыкаваньні карысьнейшыя на чыстым паветры, ў лёгкай вопратцы, якая-б ня зьвязвала вольнасьці рухаў і дыханьня. Зараз-жа пасьля яды цяжкія фізычныя рухі шкадлівы. А для тых, што лёгка прастуджваюцца, радзяць класьці ваўняныя сарочкі проста на цела. Добра, калі пазашкольныя гульні і ўсялякія віды спорту адбываюцца агулам на адным пляцы, выпрабляючы гэтым прывычку да солідарнасьці.

Гэтак сама пажадана агульнасьць і ў школьнай працы, болей прыбліжаючы сям'ю да школы, бо не сям'я для школы, а школа для сям'і служыць павінна. А дзеля гэтага, ў школах вельмі патрэбны добрыя рады бацькоўскіх галасоў нароўні з вучыцялямі, не памаляючы іх тым самым у справах чыста навуковых ды тэорэтычных дэталях і, разам з тым, прыпамінаючы, што ня ўсе патрэбнасьці школы задаваляюцца без грамадзянства.

Гігіена агульная.

Апякуючыся над жыцьцём малых дзяцей і вучняў, гігіена павінна кіраваць і далейшым жыцьцём чалавека, стаўляючы адну задачу: заглянуць у кожны куточак, дзе чалавечы розум спатыкаецца з тымі ці іншымі грахамі проці „санітарыі", якая клапоціцца аб лепшым утрыманьні жыцьця, як чалавека, так і ўсіх ваколічных прадстаўнікоў зьвярынага й расьліннага царства.

Гігіена паветра.

Гэткім чынам, гаворачы, напрыклад, аб паветры, зьвяртаецца ўвага на тое, што шкадлівы ня толькі газы, ня толькі чад, дым і ўсё тое, ад чаго нас ратуе непапсованае чыстае паветра, але й менш чулыя пахі, як та-

клясау прадстауляе сабою на нашым рысунку толькі ніжиюю часьць дому (I паверх), бо у верхняй часьці гэтага рысунку відаць сходы на 2-гі паверх, дзе над кватэрай школьнага стоража, па пляну паважанага архітэктара, знаходзіца кватэра інспэктара школы, замест пакою для вучыцялеу (агульнага) есьць пакой і для вучыцелек. Прасторная рэкрэацыйная заля, злучаная дзьвярыма з кожнаю клясаю, вучыцельскім пакоем, канцэлярыяй, квятніком, вопратняй, маючы два, як-бы запасныя, выхады (унізе рысунку), пакідае вучняу блізу што пад бесьперарыуным наглядам вучыцельскага пэрсаналю і у зауседнай стычнасьці з ім.

Вонкавы выгляд школьнага дому паказаны на рысунках 10 і 11.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

бачны дым, кухоннае паветра, вільгстнае паветра розных куткоў, якія ня маюць належнае вэнтыляцыі, на што людзі вельмі часта мала зьвяртаюць увагу. А тымчасам усё гэта падточвае чалавечае жыцьцё, бы чарвяк яблыка, памагаючы розным хваробам губіць нашае цела. Дзеля гэтага-ж вось чыстае паветра, як лякарства, патрэбна чалавеку, з варункам калі яно не даецца раптоўна „цягам" або скразьнікам, бо ў гэткім выпадку можа застудзіцца тая або іншая часьць цела.

Вядома, што вокны, дзьверы і сьцены ўсіх будынкаў, як дзеравянных, так і каменных (ня вільготных і не абмазаных лякам, альбо жалеза-бэтонам) большменш прапушчаюць паветра. Ў гэтым лёгка пераканацца ўзімку, калі мы бачым, што нагрэтае ўвечары паветра раніцай астуджваецца (нармальная тэмпэратура 13—16°). Але чым больш сьвежага паветра, тым карысьней для здароўя, бо калі-б жывога чалавека, альбо якога-нібудзь зьвера, даўшы колькі трэба яды, зачыніць у шчыльна зьбітую каморку, так, каб не даходзіла туды сьвежае паветра, дык праз нейкі час ён загінуў-бы, атруціўшыся выдзяленьнямі свайго цела, а калі паветра дастаецца, але слаба у бядачнай цеснаце, дык пашыраецца ангельская хвароба-рахіт у дзяцей,— косьці на нагах крывяцца. Старэйшыя, ў гэткім выпадку, таксама слабеюць.

*Гігіенічная будоуля дамоу.*

Дзеля таго вось гігіена зьвярнула ўвагу і на здаровасьць будоўлі дамоў, даючы свае, карысьнейшыя для здароўя, парады. Вымагаецца, каб дамы будаваліся на каменных або цэгляных падвалінах, моцна зьлітых цэмэнтам і ня доўгім радком, а стоўбікамі, паміж якімі павінна быць прадушына, праз якую, часам, мог-бы пралезьці чалавек дзеля розных дамавых паправак; гэткія прадушыны павінны зачыняцца дзеравяннымі дзьверцамі.

*Падваліны (фундаманты).*

На падваліны кладзецца толь, альбо шкло, каб вільгаць ня сунулася ўгару па сьценах; проці вільгаці таксама трэба глядзець, каб зямля пад будоўлю была вышэйшая й сушэйшая, а калі вада ўсё-ж такі блізка да дому падходзіць, дык капаюць равы, закладаючы гліняныя трубы, альбо хвашчыну дзеля спуску вады і

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

часамі памагаюць глыбокія студні, выкапаныя каля будынкаў і закрытыя зьверху, калі вада з іх непатрэбна ды небясьпечна, каб часам не ўваліўся ў іх хто-нібудзь з дзяцей. Апрача прадушын у падвалінах, г. зн. фундамантах, зачыненых на зіму шчыльней, гэткія-ж самыя прадушыны з фундамантамі робяцца й пад сярэднімі сьценамі дамоў, а таксама і сьцены паміж двома пластамі падлогі, з якіх верхні павінен быць са шчыльна забітых дашчок, наглуха закітованых і пафарбованых, дзеля таго, каб вада, калі мыецца падлога, не зацякала і не гнаіла насьцілкі паміж падлогамі, робячы гнёзды заразе, тым горш, калі ў высокіх дамох пад падлогаю верхняе кватэры ляжыць столь ніжняе.

Сьцены. Сьцены будынку таксама найлепей рабіць дзераванныя, альбо з гліняных цэглаў і ў некаторых мясцох (далей ад печы) з прадушынамі, якія-б цягнуліся ад печы трубкаю пад падлогай і ў сьцяне, выганяючы сабою вільгаць. Шчыльныя будынкі з жалеза і бэтонацэмэнту ня так падходзяць да чалавечага жыцьця, бо чалавек, як і кожнае жывое стварэчьне, жывучы, выдыхае пару, якая, застаючыся ў хаце, асядае на сьценах вільгацьцю; каб гэту вільгаць выганяць, дык трэба адчыняць вокны і дзьверы, і найлепей тады, калі паліцца ў печы, ўхіляючыся пры гэтым ад скразьніка. Вільгаць добра выганяецца вуглямі і негашанай вапнаю, пастаўленымі ў кошыку каля вільготнага кутка.

Страха. На жылых будынках гігіена вымагае шчыльнае страхі з прадушынамі, каб у летнюю пару праз іх пушчаць халаднейшае паветра, а ўзімку зачыняць іх, затрымліваючы ў хаце больш цяплыні.

Сьвятло. Мы ўжо казалі аб карысьці сьвятла ў школах; гэтак сама і ў кожным куточку жыльля патрэбна сьвятло, бо яно забівае заразкі і ажыўляе сілы чалавечага арганізму, а дзеля гэтага трэба рабіць вокны так, каб яны мелі найменш адну часьць плашчыні на 10, а лепей на 5 часьцей падлогі таго пакою, да якога пушчаюць сьвятло праз вокны.

Гаспадарчыя будынкі. Гігіена прыглядаецца таксама і да будынкаў, патрэбных для нашага гаспадарскага быдла; кіруючыся гэтым, лепшыя на сьвеце гаспадары маюць для быдла,

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

часамі, лепшыя будынкі за некаторыя жылыя хаты ў нашай беднай Беларусі, дзе таксама маглі-б лепей будавацца, ведаючы, што холад, слата і мокры гной пад нагамі быдла вельмі шкодзіць яго здароўю і, праз гэта, карысьці гаспадара таксама; напрыклад, апрача дарэмнае траты ў макраце корму, каровы менш даюць малака, лепшыя гатункі быдла драбнеюць, ці саўсім прападаюць і г. д.

Саўсім іншае, чымся ў нас, бачым у лепшых гаспадароў, найболей у захадніх народаў; напрыклад, голяндцы трымаюць свае каровы ў хляве, падобным да людзкога пакоіку з ваконцамі, цэмэнтовай падлогаю, з якое рэдкі гной сьцякаець па канаўках у спэцыяльную з цэмэнтованымі берагамі яму, дзе таксама кожны дзень выкідаецца гной, а быдлу падсьцілаюць сьвежую салому; а пушчаная ў хлеў, праз кран вадаправоду, вада поіць быдла, абмываючы яго і хлеў. Гэтак сама дагаджаюць коням, сьвіньням і інш. Ведама, што гаспадары маюць ад гэтага вялікія карысьці, і голяндзкія каровы вядомы ўсяму сьвету, таксама як ангельскія, ў пяшчоце гадованыя, сьвіньні.

Гэтак сама даглядаюцца і хатнія (свойскія) птушкі; трымаюць іх у цяпле (лепшыя гаспадары будуюць спэцыяльныя птушнікі: для кўрэй, індыкоў, гусей і качак з печамі й так, каб маглі яны мець патрэбныя выгады, як свой, агароджаны сеткаю (ад дзікіх жываедных птушак), падворачак з доступам да гною кампостных ямаў, (дзе шмат ёсьць патрэбных ім чарвячкоў, пясочак і г. д.); птушнікі штодня вычышчаюцца.

Пры лепшым даглядзе хатняй гаспадаркі, ўсялякі гной, чыста схованы ў кампостныя ямы, лепей перадаецца, перагніваючы, для поля і ня так шкадліві для самога гаспадара з яго сям'ёю, бо трудней дастаецца ў калодзежы й рэкі балота з кампостных ямаў; а трэба памятаць, што з гэтых калодзежаў альбо рэкаў бярэцца патрэбная чалавеку вада.

Пітная вада.

Ведама, што лепей, калі калодзежы капаюцца глыбокія, кручаныя (дрылёваныя) трубамі да найглыбейшае (а ня верхняе, „падглебнае“) вады, якая толькі найчысьцейшая і найсмачнейшая трапляецца. А ў рэ-



З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ках таксама можна чысьціць ваду, але трэба, каб зараза на сонцы праплыла ракою вярстоў 15—20.

Хатнія нячыстоты.

Для пітной вады могуць быць шкадлівымі й хатнія нячыстоты, а дзеля гэтага яны павінны адкідацца да цэмэнтованых ямаў, куды можа сьцякаць і кал патрэбнікаў (рэтырадаў). Наагул добра зьвяртаць увагу на тое, як лепей выглядае будоўля ў лепшых гаспадароў і старацца, каб і ў нас было ня горш.

Могілкі.

Таксама можа шкодзіць пітной вадзе і гной з могілак, калі ён дастаецца да патрэбнае людзям і быдлу вады. Вядома, што большасьць заразкаў хутка гіне ў зямлі, але заразкі сыбірскае язвы, тубэркулёзу (сухотаў), тыфусу, чумы й інш. могуць пратрымацца ў магіле год і болей; такім чынам, увесь гэты час праз ваду, што цячэ цераз могілкі, разносіцца зараза.

Каб бараніцца ад гэткае заразы, трэба заразныя ямы абеззаражваць паводле радаў дактароў, а могілкі адносіць далей ад жылых будынкаў і старацца вызначаць для могілак вышэйшыя месцы-ўзгоркі, на сухім, жвіраватым пясочку, высока над вадою, закопаваючы нябожчыкаў на $2^1/_2$ аршыны (да 2-х мэтраў) у зямлю. Бо труп першыя тры месяцы ванюча разгніваецца ад заўсёды жывучых у кішках дробненькіх грыбкоў, пасьля разьядаецца лічынкамі мух і чарвей, а нарэшце, разьядаецца плесьневымі грыбкамі, так што далей застаюцца толькі косьці й валасы, а ўсё іншае распадаецца на вуглявы квас, ваду і азотны квас.

Гэткім чынам, цела дзіцяці раскладаецца гады ў 4, а старэйшых людзей у гадоў 7.

Жыравосак.

У мокрай зямлі трупы васкавеюць — з іх робіцца жыравосак,—і ў гэткай форме застаюцца, часамі, цэлыя сталецьці, трымаючы даўжэй вышэйсказаныя заразкі.

Муміфікацыя.

У сушэйшай, буйна-жвірыстай зямлі, а таксама трупы людзей, тручаных фосфарам, мыш'яком і сьпіртам, часамі, муміфікуюцца (засыхаюць).

Крэматорыі.

Каб хутчэй кончыць гніеньне трупаў, вельмі важнае ў многалюдных местах, дзе каля могілак цясьніцца народ, з даўных часоў вядзецца звычай паленьня трупаў гарачым паветрам у спэцыяльных печах— „крэматорыях“,—так што застаецца толькі попел, які

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ссыпаюць у спэцыяльныя ва́зы — „урны“, — бясьпечна трымаючы даўжэйшы час, альбо замуроўваючы на могілках.

Апрача гігіенічнае карысьці, лепшыя людзі лепшых грамадзянстваў заўсёды павінны апекавацца тым куточкам зямелькі, дзе няшмат займаючы, шмат захована дарагіх у нашым жыцьці людзей, куды праз той ці іншы кароткі часок і мы самі ляжам.

---

Агульная гігіенічная рада.

А пакуль чалавек жыве і прыглядаецца да ўсяго ў вакольным жыцьці яго, дык хутчэй будзе магчы гігіенічней заапекавацца сабой і сваімі блізкімі, абстаўляючы свае жыцьцё так, каб ў хаце ня было нічога занадта навалена, каб часьцей і акуратней можна было ўсё вычысьціць, каб будынак яго жыльля быў на сушэйшай, здаравейшай зямлі, каб сьмяцьцё адкідалася далей і трудней вярталася ў хату, счышчаючы скоблечкай і падсьцілкамі падэшвы перад хатаю, ўжываючы на свае жыцьцёвыя патрэбы ваду чысьцейшую (найбесьпячнейшаю лічыцца вада, працэджаная праз фільтры й пераваранаю). Страва павінна быць такою, каб пасьля яе ня чуў чалавек сябе блага (асьцерагацца таго, што шкодзіць); нельга запушчаць хваробы зубоў і страваправоду, па якіх хутчэй і ўсялякія іншыя хваробы ганяюцца. А абутак і вопратка павінны быць гэтак зроблены, каб нідзе ня сьціскалі цела ды выгадней прылягалі да цела пры ўсялякіх яго рухах і пры рознай рабоце.

Дзеля дакладнейшай веды аб гігіене, цікавейшым радзіў-бы заглянуць у кнігі Эрысмана і Флюгэ (ёсьць на розных мовах) ды Добрамыслава й Манушына (толькі на расейскай мове).

---

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

## IV.

Лячэньне.

Кідаючы агульны пагляд на спосабы самаабароны й лячэньня чалавечага арганізму, мімаволі можна заўважыць яшчэ ў глыбокай старадаўнасьці праявы мэдыцынскае веды ў гігіенічных, г. значыць здароўе бараніўшых, загадах кіраўнікоў розных рэлігіяў (напр., у старым пяцікніжжы Маісея), якія, найчасцей, у старадаўныя часы лячылі людзей.

Знахары. Гіпноз.

І, паступова прыбліжаючыся да нашых часоў, мы можам спаткаць яшчэ самыя нізкія праявы штукарства ў сучасных „знахароў“, якіх можна знайсьці ня толькі ў глушы, але і ў местах, і якія зварачаваюць на сябе ўвагу незразумелымі шапаценьнямі (падчас нязьвязнымі і бяз ніякага сэнсу фразамі, й малітвамі да Бога) і кабалістычнымі знакамі, ўплываючымі на хворага, як праўдзівы гіпноз, калі знахар спрактыкаваны ў гэтай справе, або сам натуральны гіпнотызёр.

Дзеля таго, што гіпнотызм нярэдка ўжываецца ў сучаснай навуковай мэдыцыне—ў руках спрактыкованага доктара ён будзе добрым спосабам лячэньня душэўных і нэрвовых хворых.

Лячэбнае зельле.

Але часьцей вясковыя знахары карыстаюцца рознымі зельлямі, і добра, калі яны хоць крыху бываюць спрактыкованыя ў гэтай лячэбнай ботаніцы (г. зв. фармакогнозіі, — навуцы аб лячэбных зельлях) і ня шкодзяць хворым сваімі дозамі „на вока“, ўжываючы часамі і моцныя лякарствы, як напр., найбольш спадабанае імі „вароняе вока“ (стрыхінны гарэх), з якога можна выкрышталізаваць і выдзяліць столькі стрыхіннай солі, што ёю лёгка забіць чалавека.

Праўда, істнаваўшым і чынным у Расеі заканадаўствам ня толькі знахарства, але й наагул „лячэнь-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

не“ нікому не забаранялася; дык-жа гэта раўназначна дазволу дзецям гуляці з агнём.

Гэтак знахарства, ці народная мэдыцына на Беларусі ад‘значыла ніжэйпаданыя лячэбныя расьліны, з каторых шмат якімі карыстаецца і сучасная навуковая мэдыцына.

1. З групы дрэва-куставых:

Багун.

**Багун** (Ledum palustre L., болотный багун, дикій розмарин),— гэта прыгожа красуючы, заўсёды зялёны куст, пахнець надта добра й расьцець у хвойных лясох і лясных балотах Беларусі. Галіны яго зразаюць улетку і з тых, на каторых ёсьць насеньне, абшчыпаюць лісьцьцё. Настоем багуну лечаць ад трасцы, кашлю, а таксама ўдушша; ўжываюць як прысыпкі і прымочкі процію каросты. Даўней ужывалі яго ад наскурных нарываў, жабы й коклюшу. Моцны адвар гэтае расьліны карысны пры лячэньні крываўкі.

Барбарыс.

**Барбарыс звычайны** (Berberis vulgaris, барбарис обыкновенный), даючы жоўтую фарбуючую матэрыю, якую цяпер ізноў ужываюць у мэдыцыне; лубяны слой кары сьцёблаў і асабліва каранёў мае горкае, тонічнае й ледзь слабячае свойства; кіслае піцьцё з ягадаў вельмі карысна пры запаленьнях, тыфусе й жаўцявых трасцах. Ягады зьбіраюць увосень і сушаць; у гэтай постаці яны захоўваюць усе свае свойствы.

Барвінак.

**Барвінак** (Vinca minor L., барвинок), які расьце дзіка ў лясох і садох усяе Беларусі, вельмі прыгожы, заўсёды зялёны кустоўнік $3^1/_2$—7 вяршкоў вышыні; краскі яго буйныя, сіняга колеру. У мэдыцыне ўжываецца толькі лісьцьцё, якое зьбіраюць да красаваньня. Яно мае горкі смак у сьвежым відзе й вяжучы пасьля сушкі. Настой на вадзе з яго мае горкасьць і ўдзержавае танін. Настой барвінку карысны ў тых выпадках, калі патрэбна моцна-вяжучае лякарства.

Бяроза.

**Звычайная белая бяроза** (Betula alba), адно з найбольш распаўсюджаных і любімых на Беларусі дрэваў, мае розны ўжытак у народнай гаспадарцы, а таксама і ў леках. Асабліва заўважна па цэлебных свойствах г. зв. эсэнцыя з бярозавых почак, якую прыгатаўляюць гэткім спосабам: увясну зьбіраюць маладыя, ледзь рас-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

крытыя почкі і сушаць іх на сонцы; зусім сухія почкі настойваюць сьпіртам (на 1 фунт почак бяруць 4 ф. сьпірту), бутэльку завязваюць паперай і на некалькі дзён ставяць на сонцы, часта ўзбалтаваючы, а потым, пасьля 2-х месячнага настойваньня, зьліваюць шэра-зялёна-жоўтую жыжку, цэдзячы праз белую флянэль. Да 2 ф. эсэнцыі з бярозавых почак дадаюць 1 залатнік амонію, калі-ж ён зусім растопіцца, прымешаваюць яшчэ 3 зал. камфоры. Ад трасцы бярозавую эсэнцыю даюць унутро дарослым па сталовай ложцы на раз, дзецям разводзяць вадой. Ад кашлю па 1 гарбатняй ложачцы на 4 гарб. ложкі вады. Ад боляў жывата па 3 гарб. ложкі з 6 гарбатнімі ложкамі вады. Пры ўдарах (пабіцьцях), ад рэўматызму й ламаты ўціраюць у балючае месца эсэнцыю рукой; пры ранах уліваюць кроплямі эсэнцыю ў парэзы, сьціскаюць адначасна краі раны і пакрываюць яе анучкай, намазанай сьвежым, чыстым, нясоленым і растопленым салам. Ад болі зубоў намочаваюць кавалачак цукру эсэнцыяй і кусаюць яго хворым зубам, або эсэнцыяй намочаваюць чыстую палатняную анучку, зложаную 6 — 8 разоў, альбо вату, і кладуць яе на хворы зуб такім парадкам, каб яна ляжала паміж шчакой і хворым зубам. Лісьцьцё бярозы мае тыя самыя свойствы, што й почкі, толькі ў меншай ступені. Кара бярозы ўжываецца ад залатухі і пры скурных хваробах. Бярозавы дзёгаць таксама ўжываецца, як вонкавае лякарства проціў рэўматызму й ламаты. Са старой кары сухой перагонкай адтрымліваюць лячэбнае масла. Сок маладых дрэваў мае крывічысьцільныя, слабячыя і мачагонныя свойствы.

Брушніцы.

**Брушніцы** (Yaccinium Yitis idaea L, брусника)—вечназялёны маленькі кустоўнік з вядомымі ўсім чырвонымі ягадамі, з якіх прыгатаўляецца прахаладжальная вада, карысная хворым трасцаю, а з цукрам — прыемнае піцьцё для здаровых. Вывозіцца ад нас у Нямеччыну для прыгатаўленьня штучнага віна.

Чорная бузіна (Бэза).

**Чорная бузіна** (бэза, Sambucus nigra L.) расьцець усюды, навет у цяністых месцах. Зьбіраюць з яе ягады й краскі. Пры сушэньні красак на продаж, іх трэба зьбіраць, пакуль не ападуць маленькія красачкі, і хутка

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

сушыць іх у халадку. Птушкі дзёўбаюць ягады, дзеля чаго іх ня трэба пакідаць доўга на кустох. Кустоў бузіны не кранець ніводная з хатніх жывёлаў, а ягады нясуць сьмерць для курэй і краскі шкодны індыком. Краскі бузіны маюць патагоннае й болесупакойваючае свойствы, дзеля чаго ўжываюцца, як гарбата, ад прастуды і, як прыпаркі й паласканьне, ад боляў горла. Насеньне маець слабячае і глістагоннае свойствы; з яго выціскаюць масла, вядомае ў аптэках пад назовам Oleum armillorum Sambuci. Нацёртая маладая кара, прыложаная да шчакі ўнімае боль зубоў. Проціў розных высыпкаў, верадоў і лішаёў у некаторых мясцовасьцях п'юць настой бузінных красак. Настой з сухіх красак у колькасьці ад $^5/_8$ до 2 залатнікоў на бутэльку вады найбольш ужываемае патагоннае, але настой са сьвежых красак дзеець, як слабячае й мачагоннае лякартва, роўна як і настой лісьцьця ў колькасьці $4^1/_2$ залатнікоў на бутэльку вады, але апошні ўжываецца радзей. Найбольшую лячэбную моц мае кара бузіны, (з якой саскробаваецца верхняя шэрая скурка); дэкокт (адвар) з яе ў колькасьці 9—10 залатнікоў на бутэльку вады часта вельмі памагае пры вадзянцы, роўна як і бузіннае віно, прыгатоўленае з зялёнае кары, ў колькасьці 22 залатнікоў на бутэльку белага віна; гэтыя лякарствы — слабячыя, але, з павялічаньнем порцыяў, выклікаюць ваніты.

Чырвоная бузіна.

**Чырвоная бузіна** (Sambucus racemosa L.) расьце ў нас на Беларусі ўсюды і не баіцца наймацнейшых маразоў. Красуе ў траўні; ягады чырвоныя, дасьпяваюць у жніўні. Выціснуты з ягадаў сок мае патагоннае свойства; з насеньня дабываецца масла, якое ўжываюць на лячэбныя мэты.

Вішня.

Звычайная **кіслая вішня** (Prunus Cerasus L.) больш цэніцца ў мэдыцыне, ніж салодкая (чарэсьня); калівы яе патрэбны часьцей на прыгатаўленьне розных лякарстваў (сокаў-сыропаў). Смала, што выцякае з дрэва і блізу што зусім падобная да арабскае камэдзі, распушчаная ў вадзе, ўжываецца пры лячэньні крываўкі. Лісьцьцё вішні кладуць у бочкі пры саленьні агуркоў; малады ліст гэтай вішні, высушаны ў халадку і скру-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

чаны на сагрэтай жалезнай блясе, ўжываюць замест гарбаты. З ягадаў вішні, апрача варэньня, наліўкі, сыропу й морсу, адтрымліваюць фэрмэнтацыяй (бражэньнем) соку з цукрам і вадой дасканальнае віно.

Дуб. **Звычайны дуб** (Quergus Robur L.)—распаўсюджанае і найважнейшае дрэва ў нашай Бацькаўшчыне, вяжучыя свойствы кары якога робяць яго, паміж іншым, вельмі карысным для лячэбных мэтаў. Ужываць кару ўнутро] трэба вельмі асьцярожна ад 1/2 да 1 залатніка пры дэзынтэрыі, цынготных крывіцячэньнях і стратах крыві, што бываюць ад слабасьці органаў. Замест парашку з кары, можна даваць дэкокт (адвар) з 3 — 4 залатнікоў цёртае кары на бутэльку вады. Дэкокт, прыняты ў нутро ці ўжыты як кліcьцір (леватыва), таксама вельмі карысны, як вяжучае лякарства пры крываўцы, выцячэньні сьлізяў, у тых выпадках, калі гэта здараецца не ад запаленьня, а ад нястачнай жыцьцёвасьці органаў; можна таксама ўжываць яго пры язвах у горле, як паласканьне. Моцны дэкокт са сьвежае дубовае кары аздараўляе паверхню язваў і пасабляе іх зарубцаваньню. Можна таксама абсыпаць язвы мешанінай парашку дубовае кары з парашком вугля, што карысна, як вяжучае і дэзынфэкцыйнае (ачышчальнае) лякарства пры гангрэнозных і сукровічных язвах. Настой з парашку ссушаных і змолатых жалудзёў даецца дзецям ад залатухі; гэты настой, апрача таго, ўзбуджае дзеяльнасьць органаў, разьбівае пухліны і зьніштажае ўздуцьце жывата. Чарнільныя дубовыя гарэшкі валадаюць вяжучымі свойствамі ў навялікшай ступені. З жалудзёў адтрымліваюць здаровую й смачную каву, дзеля чаго, сабраўшы іх увосень, абчышчаюць ад лупіны і, раздрабіўшы, сушаць спачатку на вольным паветры ў халадку, а пасьля пры ўмяркованай гарачыні ў печы; пасьля сушкі пражаць (пякуць), мелюць і вараць з прымешваньнем дзьвюх частак кавы; жалудзі карысны ад ангельскае хваробы й сухотаў. Ванны з кары радзяцца сухотнікам і ад лому ў касьцёх, а астуджаны адвар яе ўжываецца ад выпадзеньня ў дзяцей праходнае кішкі і ад антонавага агню,—ў апошнім выпадку абавязкова трэба карыстацца радай доктара.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Адваранае дубовае лісьцьцё прыкладваюць да адмарожаных месцаў.

Ажыны.

**Ажыны-ягады** (Rubus fructicosus, ежевика), якія растуць шмат дзе на Беларусі; даюць асьвяжаючы, кісла-салодкі сок; моцны адвар з іх, прыгатоўлены на мёдзе—вельмі добрае паласканьне пры хваробах горла й дзёсен; хворым радзяць жэле (халадзец) з гэтых ягадаў.

Каштан.

**Ад звычайнага (конскага) каштана** (Aesculus Hippocastanum L.) ужываюць кару і сьпелыя каштаны. Зьбіраюць і абдзіраюць кару з 3—5 гадовага дрэўца, якая падобна да хіннай кары; з прымесьсю рэвеню вылечвае найгоршыя трасцы. Вялікшае значэньне конскі каштан мае ў вэтэрынарыі (лячэньні быдла).

Журавіны.

**Журавіны** (Vaccinium Oxycoccos, клюква) — вельмі прыгожы кустоўнік, расьцець на тарфяніпчах і балотах; красуець у чэрвені і ліпні, краскі чырвоныя; ягады буйныя, чырвоныя, ўтрымліваюць кіслы сок, што дае з вадой, цукрам ці мёдам добрае прахаладжальнае пры трасцах і гарачках; ягады ўжываюць таксама ад кашлю. Лісьцьцё п'юць замест гарбаты, а мерзлыя ягады кладуць у вушы (толькі ня глыбока) ад чаду й болю галавы.

Крушына.

**Крохкая крушына** (Rhamnus frangula L.) спатыкаецца ў лясох усяе Беларусі. Зьяўляе сабою кустоўнік ці драўцо да $2^1/_2$ сажняў вышыні. Красуець у траўні; плод— буйная ягада, якая доўга застаецца чырвонай, да часу поўная сьпеласьці; ў верасні чарнеець і мае няпрыемны смак. Расьцець у лясох пад ценем дрэваў і на вільготных грунтах. Для лячэбных мэтаў зьбіраецца кара, якую зьдзіраюць крыху пасьля красаваньня, паверхні слой абчышчаюць і адтрыманая, пасьля гэтага, кара мае жоўты колер, пах брыдкі, смак горкі. Сьвежая кара крушыны мае занадта моцныя свойствы і выклікае ваніты, але засушаная яна ня гэтак моцна, а падобна да рэвеню. Настой ці адвар 6 — 12 залатнікоў кары на бутэльку вады — добрае слабячае; з тэй-жа мэтаю можна таксама даваць $^1/_3$—$^3/_4$ залатніка парашку ў варэньні ці на мёдзе. Моцны дэкокт з караня кру-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

шыны ў вадзе ці воцаце—добрае лякарства ад паршы. Насеньне крушыны маець мачагоннае свойства.

Жысьцяр, або жыстар, жысьцярына.

**Крушына слабячая** (жысьцяр, жысьцярына), Rhamnus cathartica L., жостер) таксама расьце па ўсёй Беларусі. Гэта калючы кустоўнік у 1 — $1^1/_2$ сажня вышынёй; лісьцьцё прадаўгаватае, блiскучае, доўга ня падае; плады круглыя, велічынёю з гарох, чорныя, смакам няпрыемныя, дасьпяваюць у верасьні. Калі расьціснуць ягаду гэтае крушыны, дык з яе пацячэ чырвоны клейкі сок, паступова цямнеючы й зелянеючы ад паветра. Ягады маюць моцныя слабячыя й глістагонныя свойствы; з ягадаў прыгатаўляюць: дэкокт з 8 — 12 ягадаў на фунт вады, выціснуты сок, падсалоджаны цукрам, мёдам ці патакай; сыропы з роўных частак цукру й соку—ад 7 да $23^1/_2$ залатнікоў. Як пілюлі можна прыймаць 10—20 сьвежых ці сушаных ягад, запіваючы іх якімколечы зьмягчальнам піцьцём, напр., цялячым бульлёнам, лянным насеньнем і г. д., дзеля папярэджаньня колікаў. Парашок з апаленага насеньня—таксама добрае слабячае; яго бяруць на прыём каля 1 залатніка ў пілюлях ці ў мёдзе, ў сыропе; можна таксама прыгатаўляць дэкокт з 2-х залатнікоў на адну ці дзьве шклянкі вады.

Ліпа.

**Дробналістая й буйналістая ліпа** (Tilia parvifolia. Ehrhart)—вядомае ўсюды дрэва, краскі якога зьбіраюць на прыгатаўленьне ліпавае гарбаты. Пры зборы ліпавых красак трэ' было-б аддзяляць прыкрасьнікі і ўжываць апошнія толькі ў тых выпадках, калі пажадана ўмацаваць патагоннае й мачагоннае свойствы красак, якія і бяз прыкрасьнікаў супакойваюць і могуць крыху палягчаць сутаргі. Прыемны настой гэтых красак дапамагае ад мігрэні, ванітаў і расстройства жывата; яго ўжываюць таксама пры хронічных ляксах (ганячках), коліках, цяжары ў членах і трасцавым холадзе. На бутэльку вады кладуць $^5/_8$—$1^1/_2$ залатніка красак. Калі пры хронічнай ганячцы будзе раздражненьне сьлізістай абвалочкі, на якую вяжучыя лякарствы ня ўплываюць, дык можна дасягнуць добрых рэзультатаў, ужываючы зьмягчальны настой з ліпавае кары; гэты настой таксама вельмі карысны ў постаці прымочак да ранаў

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

і абпаленай скуры. Лісьцьцё можна ўжываць як зьмягчальнае лякарства. Сьвежапрапалены ліпавы вугаль ужываецца ў постаці парашку, падобна вуглю з топаля, процiў дэзынтэрыі і дыспэпсіі, ім прысыпаюць таксама раны й абпаленыя месцы дзеля абеззаражаваньня.

Маліна.

**Маліна** (Rubus idaeus L.), карысная расьліна, і разводзяць яе вельмі мала, адпаведна істнуючай патрэбе. Трэба разводзіць найбольш пахучыя гатункі з чырвонымі ягадамі. У Амэрыцы лісьцьцё маліны ўжываюць ад зацяжных ляксаў (ганячак); яго заварваюць, як гарбату, якую п'юць з імбірам; ужываюць яго таксама пры няправільных жаноцкіх штомесячных ачышчэньнях і родавых болях. Кажуць, што гэта дасканальнае, хаця малавядомае лякарства.

З маліны прыгатаўляюць ваду, сьпірт, сыроп і воцат. Сыроп ужываецца ў гарачках. Сухія ягады прапісваюцца ад кашлю й боляў у грудзёх. Настой сушанае маліны—сільнае патагоннае лякарства. Для сушкі маліны адбіраюцца ягады крыху недасьпеўшыя.

Ялавец.

**Звычайны ялавец** (Juniperus communis L.)—кустоўнік, які дасягае ў вышыню 2 сажняў, але расьце звычайна нізка; вельмі распаўсюджаны ў лясох Беларусі.

Плод ялаўца—вядомая ялаўцова ягада—дасьпявае на другі год, дзеля чаго на кусьце адначасна можна бачыць зялёныя й чорныя ягады. Гэтыя ягады маюць саладкаваты, палючы, горкі, ароматычны смак, утрымліваюць у сабе ўдастатку эфірнае масла, дзеля чаго маюць шырокі ўжытак у мэдыцыне. Свойства іх узбуджальнае, органам даюць яны моц і жыцьцёвасьць, чаму вельмі карысны пры слабасьці жывата, завалах, залатушных хваробах; асабліва добра дапамагаюць у постаці мачагоннага лякарства, калі толькі няма запаленьня; й вельмі карысны пры вадзянцы. Дзеля лячэньня ўжываецца настой са жмені ягадаў на 5 шклянках вады; таксама вельмі карысны расціраньні эфірным ялаўцовым маслам; вывар са стружак ялаўцовага дрэўца, прыгатоўлены з 14 залатнікоў іх на $2^1/_2$ фунтах вады, добрае патагоннае. З прыгатоўленых у цукры ягад

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

адтрымоўваецца здаровы, на смак прыемны морс, умацоўваючы жывот. Ягады, звараныя з каваю, п'юць ад рэўматызмаў і каменя ў мачавым пузыры.

Рабіна.

Ад **звычайнай рабіны** (Sorbus aucuparia L.), вельмі распаўсюджанага, надта любімага і прыгожага дрэва, зьбіраюць сок, які даюць, часамі, замест рвотнага й слабячага; морс вараны з ягад, прымаюць дзеля ўзбуджэньня выпарыны, а па вяжучаму свойству, ад крываўкі. Кара́ галінак рабіны, настаяўшыся на гарэлцы, даецца пры пэрыядычных трасцах.

Чорная парэчка.

**Чорная парэчка, (смуроднік,** Ribes nigrum L., смородина ч.) дае ў аптэкі лісьцьцё й каліва. Адваранае лісьцьцё й маладыя галінкі ўжываюцца, як хатні спосаб, ад лому ў касьцёх, ад крываўкі і пакусаньня шалёным сабакай; ад крываўкі ім таксама лечаць і быдла.

Чырвоная парэчка.

Ад **чырвонае парэчкі** (Ribes rubrum L.) у аптэку йдуць толькі сьпелыя ягады, з якіх прыгатаўляюць здаровае прахаладжальнае піцьцё, асабліва карыснае ў часе летняе гарачыні і пры трасцы.

Сарочыны ягады.

**Сарочыны ягады** (Solanum dulcamara L., сладко-горький паслен) — чапляючыся кустоўнік з выхілістым каліваам, часта сьцелючымся ад 14 вяршкоў да $3^1/_2$ аршынаў; краскі ліловыя, ягады цёмна-чырвоныя. Расьліна мае брыдкі пах; усе часткі яе атрутныя. Карэньне мае ў сабе больш лячэбнай моцы.

Ягады маюць атрутнае, снатворнае свойства, выклікаюць ваніты, анямеласьць языка, сутаргі і аднімамаюць розум. Дэкокт з нарэзаных галін у прапорцыі $3^1/_2$—$4^1/_2$ залатнікоў на $2^1/_2$ фунты вады, якую паступова павялічваюць, даходзячы да 14—21 залатніка на $2^1/_2$ фунты вады, даецца ў працягу пары. Гэтыя ягады ува ўмеркаваных дозах маюць узбуджальныя, патагонныя, ачышчальныя і крыху наркотычныя (дурманныя) свойствы; іхні ўплыў розны, гледзячы на арганізм і ступені яго расстройства, але звычайна яны дзеюць проста на страватраўчыя органы й пабочна на нэрвовую сыстэму. У павялічаных дозах яны выклікаюць пот, ваніты, мачу і шмат калу, пасьля чаго пачынаюцца сутаргі й галавакруценьне. Найбольш карысны гэтыя

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ягады пры хронічным рэўматызьме, застарэлым катары, болі ў касьцёх, пры лішаёх і іншых наскурных хваробах. Трэ' толькі ўжываць іх у строга вымераных дозах і ў працягу досіць доўгага часу. Лісьцьцё мае мягчачае свойства, і з яго робяць прыпаркі да звычайных нарываў і ўдараў.

Найбольш вядомае ўсім дрэва — **звычайная сасна**, (Pinus silvestris L.), мае вялікі ўжытак у лякарскай справе. Почкі сасны, настоеныя на вадзе, віне ці піве, даюць дасканальнае проціўцынготнае лякарства. Тарпатыча, здабытая праз праколы слупа сасны, ўзбуджае нэрвовую сыстэму і асабліва сьлізістыя абвалочкі. Калі прыймаць яе ў мёдзе або ў чым іншым паступова павялічваючы дозы ад $^1/_4$ залатніка да $4^1/_2$ залатнікоў, дык яна вельмі памагае пры хронічным катары лёгкіх, мачавога пузыра, пры выцячэньнях сьлізі, нэўральгіях і хронічным рэўматызьме. Тарпатынную эсэнцыю, якую здабываюць способам перагонкі, паступова павялічваючы дозы (ад некалькіх кропляў да $^1/_2$ залатніка) прымаюць, што вельмі добра ўплывае на нэрвовую сыстэму, але большая доза можа папсаваць почкі (ныркі),

Сасна.

Дзёгаць мае тыя самыя свойствы тарпатыны і ў больш моцнай ступені выклікае наскурныя й мачавыя выдзяленьні, але, пры паражэньні дыхальных галін, трэба ўжываць дзягцярную ваду, г. з. настой вады на дзёгці. Сасновы крэозот, які адтрымліваецца пры перагонцы дзёгцю, карысны толькі дзеля вонкавага ўжытку. Калі рашчыніць яго ў разоў дзесяць большай колькасьці гарэлкі, дык яго можна карысна ўжываць проціў гангрэны, дзеля прамываньня найгоршых ранаў і язваў і дзеля стрымліваньня крывітокаў. Кропля крэозоту, палажаная на гнілы зуб, супакойвае боль, але псуе хутка зубы. У мэдыцыне карыстаюць больш буковы крэозот, як лякарства ад сухотаў. З перагнанага дзёгцю здабываецца таксама карболавая кісьля (карболка), вядомае дэзынфэкцыйнае лякарства. Наагул, народная мэдыцына ўсімі хвойнымі дрэвамі карыстаецца, як лячэбнымі расьлінамі.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Талакнянка.

**Талакнянка** (Arbutus uvaursi, **мядзьвежыя вушкі**, вадзяніца) — сьцелючыся, вечна-зялёны кустоўнік, што расьце ў паўночнай часьці Беларусі; мае гэткую постаць: каліва даўжынёю ад 5 да 20 вяршкоў; лісьцьцё скурнае, адваротна-яйкавае, па краёх валасістае, краскі белыя й чырвоныя, красачныя каліўцы чырвоныя, ягады таксама чырвоныя. Красуе ў траўні — чэрвені, ягады дасьпяваюць у жніўні і верасьні. Лісьцьцё і краскі талакнянкі маюць горкі смак і моцна вяжучае свойства. Кара, лісьцьцё й ягады талакнянкі маюць мачагонныя свойствы; ўжываецца, галоўным чынам, дэкокт, прыгатоўлены з 7 залатнікоў лісьцьця на 5-ёх шклянках вады. Талакнянка вельмі карысна пры хваробах мачавога каналу, вылечвае труднае мачавыпусканьне, што бывае з катарам мачавога пузыра, і памагае пры каменнай хваробе.

Топаль (ясакар).

**Бальзамічны топаль** (Populus balsamifera L.), як і ўсе топалі, дае мягкую смалу, але смала гэтага топаля самая лепшая. Дзеля прыгатаўленьня бальзамічнага сьпірту зьбіраюць почкі ў той час, калі яны робяцца клейкімі і настойваюць іх у закрытай судзіне моцнай гарэлкай або сьпіртам; дзеля чаго ставяць іх на некалькі тыдняў на сонцы або ў іншае цёплае месца. Калі жыжка загусьцее і зробіцца цёмна-шэраю, дык яе фільтруюць і заховаваюць у закрытай шклянай судзіне. Гэты сьпірт льюць кроплямі на сьвежыя раны, калі з іх яшчэ цячэ кроў і накладаюць на іх выгладжаную лянную ганучку й вату, палітую сьпіртам. Праз 2—3 дні рана загоіцца, калі ў яе ня трапіць што-нібудзь разьядальнае. Маладое лісьцьцё прыкладаюць да пухлінаў і ўжываюць дзеля ўмацавальных ваннаў.

Асіна.

**Асіна** (таксама з тыпу топаляў), дае кару і лісьцьцё, якія маюць горкую [й вяжучую] прымету; попелам гэтага дрэва, які мае ў сабе шмат шчолачных соляў, карыстаюцца ад некаторых вэнэрычных хваробаў, адылі адварам кары вылечаваюць цынгу, каросту і іншыя наскурныя хваробы.

Чарніцы.

Вядомы кустоўнік—**чарніцы** (Vaccinium Myrtillus L.) даець любімыя народам ягады, адвар якіх, па вяжучай

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

іхняй прымеце, ўжываецца пры лячэньні ганячак усялякага роду; сырыя-ж ягады, тым больш сушаныя, пры неўмяркованым ужываньні выклікаюць завал. Шмат чарніцаў вывозіцца ад нас у Нямеччыну дзеля прыгатаўленьня фальсіфікованага віна.

Сьліва.

Выцякаючая са **сьлівы** (Prunus domestica L.) смала мае тыя самыя прыметы, што й вішнёвая. Густа звараныя пляды цёмных сьліваў (чарнасьліву) ўжываюць, як лёгкае слабячае, для дзяцей.

Чаромха (Калакалуша).

Адвар сьвежай **чаромхавай** (Prunus Padus L.) кары у народзе ўжываецца проціў эпідэмічных ганячак. Густы адвар кары і лісьцьця чаромхі ўжываюць ад чорнае немачы й падучае хваробы. Ягады чаромхі спыняюць крываўку, а моцным адварам іх лечацца ад вэнэрычных хваробаў.

Шыпшына.

**Звычайная шыпшына** (Rosa canina L.) ці, як яшчэ ў нас няправільна называюць, „дзікая рожа“, спатыкаецца на лясных палянках, ля ракі, й разводзіцца часта каля платоў. Гэта кустоўнік у 1 сажань і нават болей увышкі; мае доўгія калючыя галіны й пярыстае лісьцьцё, пахучыя краскі белага ці рожавага колеру, якія красуюць у чэрвені; пляды дасьпяваюць у верасьні--кастрычніку, маюць кісла-салодкі смак, мясістага, харошага, чырвона карáлевага колеру.

З гэтых пладоў, расьціраючы іх з цукрам, прыгатаўляюць вяжучы сыроп, які добра дапамагае дзецям пры ганячках; сьвежыя пляды ўжываюцца як глістагоннае лякарства. На паўдні Беларусі служаць лякарствам ад трасцы. Настой з красак дае патагоннае лякарства; з іх таксама гоняць рожавую ваду.

Ясень высокі.

Высокае дрэва **ясень высокі** (Fraxinus excelsior), які дасягае на Беларусі 25 аршынаў увышкі, дае з лісьцьця вясною клейкі сок. У гэты час і трэба для лячэбных мэтаў зьбіраць лісьцьцё ясеня; дзеля тых-жа мэтаў зьбіраюць кару з галін 3 — 4 гадавых дрэўцаў. Кара і лісьцьцё маюць горкі, вяжучы смак і ўдзержаваюць у сабе танін, дзеля чаго з кары прыгатаўляюць дэкокт (7—14 залатнікоў на 2½ ф. вады) які даюць у пярэрвах паміж пароксізмамі трасцы.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Пры лячэньні падагры й рэўматызму ўжываюць дэкокт з 12—23 залатнікоў сушанага лісьцьця на 2½ фунты вады, які п'юць вялікімі чаркамі два-тры разы на дзень пасьля яды. Дэкокт з насеньня (2½ — 7 залатнікоў на 2½ ф. вады) зьяўляецца мачагонным, а пры павялічаным ужываньні—слабячым лякарстрам.

Вось, больш-менш, поўнае пералічаньне дрэвакуставых лячэбных расьлін, з якіх першай пачала карыстаць народная мэдыцына—знахарства, а цяпер карыстаецца збольшага і сучасная навуковая мэдыцына.

---

З групы дробных (траўных) расьлін народная мэдыцына ад'значыла гэткія:

Ксяндзоў плех.

Звычайную жоўтую краску, якая расьце ўсюды і празываецца народам „**Ксяндзоў плех**". Карэньне ксяндзовага плеху (Radix Taraxaci) бяз паху, мае салодкагоркі смак і ўжываецца, як чыстая горкасьць у постаці экстракту або сьвежа-прыгатоўленага вадзянога настою.

Аніс.

Плады звычайнага **анісу** (Fructus Anisi vulgaris) з прыемным пахам і салодкім смакам, удзержаваюць каля $3^0/_0$ эфірнага масла. Яны належаць да ветрагонных лякарстваў, а таксама да адхарківаючых і ўжываюцца ў постаці збораў да „грудной" гарбаты.

Аконіт.

Клубні травы аконіту (ці барацьбіста), (Tubera Aconiti), распаўсюджанае па ўсёй Эўропе, якую таксама разводзяць як дэкорацыйную расьліну, выяўляюць слабы пах, каторы пасьля высушкі блізу што зусім зьніштажаецца, і горкі, палючы смак. Яны перахоўваюцца з акуратнасьцю і служаць дзеля прыгатаўленьня сьпіртавога экстракту.

Блёкат.

Лісьцьцё блёкату (Fiola Hyoscyami) зьбіраюць у часе красаваньня. Яно ад'значаецца наркотычным пахам, які пасьля прасушкі гіне, салёным, крыху гаркаватым і войстрым смакам. Ужываецца лісьцьцё блёкату, як наркотычнае лякарства, ў постаці парашку, экстракту й масла і перахоўваецца з акуратнасьцю не больш 1 году ў шчыльна закрытай судзіне, бяз доступу сьвятла і вільгаці.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Карэньне валяр'яны (або кацячае травы, кацячага карэньня, Radix Valerianae) расьце на вільготных сенажацях Беларусі. Рожавыя краскі гэтае травы ня ўжываюцца ў мэдыцыне, але-ж карэньне, якое мае прыемны пах (больш моцны ў сушанага) і салодка-горкі смак, удзержавае эфірнае масла і іншыя кіслоты і ўжываецца, як працісутаргавае і ўзбуджальнае для нэрвовай сыстэмы лякарства ў постаці вадзянога настою і экстракту.

Валяр'яна.

Лісьцьцё дурману, (Fiola Stramonii), які расьце блізу што ўсюдых, зьбіраюць ад чэрвеня да верасьня ў часе красаваньня; яно мае няпрыемны горкі й салёны смак, а высушанае траціць пах. Ужываецца лісьцьцё дурману парэзаным (як дадатак да курыльнае табакі), ў постаці парашку, цінктуры і экстракту, захоўваецца з акуратнасьцю.

Дурман.

Ад **канапель** таксама ўжываецца іхняе лісьцьцё (Herba Cannabis Indicae) ў постаці настояў, належачае да наркотычных лякарстваў. Зярняты-ж канапель, што маюць слабы пах і салодка - масьляны смак, удзержаваюць каля 35°/₀ добрага алею і, прамытыя вадою, ўжываюцца дзеля прыгатаўленьня эмульсіі.

Канаплі (індыйскія).

**Ландыш, Камвалея** (Convallaria majalis)—дзіка расьце ў цяністых лясох па ўсёй Беларусі; зьбіраюць у часе красаваньня ў траўні і чэрвені. Краскі ландыша ўжываюцца, як сардэчнае (супакойваючае) і мачагоннае лякарства ў постаці перахоўваемай з акуратнасьцю цінктуры, якая прыгатаўляецца настоем у 12 часьцях 90°/₀ сьпірту 10-х частак сьвежасабраных і расьцёртых у ступцы красак ландыша.

Ландыш (Камвалея).

Зярняты паўсюды засяванага **лёну** (Semina Lini) зьбіраюць зусім дасьпелымі, перахоўваюць ня больш аднаго году і ўжываюць у цэласьці і для прыпарак у постаці парашку, якога нельга замяніць жмыхамі. Зярняты выяўляюць сьлізісты і масьляны смак і ўдзержаваюць каля 6°/₀ сьлізі і каля 35°/₀ алею.

Лён.

Недасьпелыя макаўкі (Fructus Papaveris immaturi) ўсюдых распаўсюджанага снатворнага **маку** зьбіраюць у ліпні, хутка пасьля спаду красачных ліcткоў; яны ўдзержаваюць найбольшую колькасьць малочнага соку,

Мак.



З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

які на сухім зрэзе зьяўляецца ў постаці шэрае плеўкі,
ня істнуючай на зрэзах няўжываемых сьпелых макавак.
Пасьля высушкі, недасьпелыя макаўкі трацяць свой нар-
котычны пах, выяўляюць гаркаваты смак, ўдзержаваюць
нязначную колькасьць опію і, звольненыя ад зярнят,
служаць дзеля прыгатаўленьня сыропу. Белыя, сьпелыя
зярняты маку ўдзержаваюць да 50% алею, лёгка пра-
гаркаюць і, дзеля гэтага, штогод зьмяняюцца сьвежымі.

Мята.

Лісьцьцё **перачнае мяты** ці мяты сьцюдзянкі (Fiola
Menthae piperitae) разводзяць у розных постацях на
Беларусі; зьбіраюць у часе красаваньня мяты і вы-
сушаваюць; належыць яно да пахнючых лякарстваў і
ўжываецца ў постаці сьпіртавога настою, ў якім рас-
пушчаюць яшчэ эфірнае масла перачнае мяты, што
ўваходзіць таксама і ў мятныя куханчыкі, якія затрым-
ліваюць ваніты і меней затрымліваюць ганячку.

Палын.

Шматгадовая трава **палын** (Herba Absinthii), якую
зьбіраюць у ліпні і жніўні разам з калівамі і красач-
нымі кошыкамі, мае прыемны пах, горкі смак і ўдзер-
жавае эфірнае масла. Лісьцьцё палыну дае каля 20%
вадзянога экстракту. Палын належыць да пахнючых
горкасьцяў і ўжываецца ў постаці настояў.

Дзераза (Цякун).

Споры **цякуну**, або **дзеразы** (Sporae Lycopodii) —
вядомае шматгадовае расьліны, якую ў нас ужываюць
на ўбіраньне сталоў і абразоў на Вялікдзень, і якая
расьце па сухіх лясох і кустоўніках — ня маюць паху
й смаку, ўдзержаваюць да 50% алею і ўжываюцца
дзеля перасыпкі пілюляў з мэтаю захаваць іх ад склей-
ваньня,—як прысыпка і ў постаці мікстуры.

Папараць.

Карнявішчы бясполага пакаленьня мужчынскае
**папараці** (Filix mas) зьбіраюць увосень, звальняюць ад
карэньня, чарашкоў і няжывых частак, асьцярожна,
ўмяркована награваючы, высушаваюць так, каб заха-
ваўся зеленаваты колер унутранае тканіны, і штогоду
замяняюць сьвежымі карнявішчамі. Яны маюць слабы
пах, салодка-драпаючы смак і ўжываюцца проціў плос-
кіх глістоў, большасьцю ў постаці эфірнага экстракту,
які афарбованы хлёрафілам у зялёны колер. Калі-ж
зялёны колер унутранасьцяў карнявішча пераходзіць

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

у шэры, дык глістагонныя свойствы яго трацяцца і ён да ўжытку нягодны.

Аір.

Карнявішча **аіру** (Rhizoma Calami), што расьце па берагох рэк і вазёраў усяе Беларусі, зьбіраюць увосень, зрэзваюць карэньне, каліва, лісьцьцё і навет кару, разразаюць уздоўж напалову й сушаць пры нявысокай тэмпэратуры. Карнявішча аіру ўладае прыемным пахам, палючым смакам, дае каля 18% сьпіртавога экстракту, 3% эфірнага алею і ўжываецца, як пахнючая горкасьць, а таксама для ваннаў.

Румянак.

Краскі звычайнага **румянку** (пупаўкі), (Chamomilla vulgaris) сабраныя ў чэрвені, ліпні і жніўні, маюць прыемны пах, горкі смак і ўдзержаваюць 1—3% эфірнага алею.

Ужываецца румянак, як ветрагоннае і процісутаргавае лякарства ў постаці вадзяных настояў, а таксама звонку, для прыпарак, прымочак і клісьціраў.

Зязюлька.

Карнявішчы **зязюлькі** (ці **ятрышніку** — Tubera Salep) зьбіраюць у чэрвені, ў часе красаваньня; бяруць адны толькі маладыя карнявішчы разам з іх почкамі, абвараваюць пераваранай вадою дзеля зьніштажэньня прарасткаў і высушваюць на сонцы ці ў печы. Карнявішча зязюлькі амаль бяз паху, выяўляе сьлізісты смак, удзержавае каля 45% сьлізі, 27% крахмалу; належыць да абвалаківаючых лякарстваў і ўжываецца проціў крывавак у форме бясколернае і блізу што празрыстае, густаватае рошчыны сьлізі салепу, які прыгатаўляецца ўзбалтаваньнем 1 часткі буйнага парашку салепу спачатку з 10 част. сьцюдзёнае, затым яшчэ з 90 часткамі кіпню.

Спорнік (Чортаў клык).

**Спорнік,** або **Чортаў клык** (Fungus Secalis, Маточный рожок)—тыя чорныя зярняткі, што часта спатыкаюцца на каласох жыта,—зьбіраюць за 2 — 3 тыдні да жніва, высушаваюць пры звычайнай тэмпэратуры ці награваючы ня вышэй 50°, перахоўваюць у шчыльна закрытай скрынцы, бяз доступу сьвятла і штогоду зьмяняюць на сьвежы.

Хімічны склад спорніку вельмі багаты; між інш. ён дае 33% алею і 15% воднасьпіртавога экстракту. Ужываюць яго дзеля ўзбуджэньня матачных скаро-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

чаньняў, спыненьня крывітокаў з маткі, а таксама з лёгкіх, жывата, кішок, у постаці парашку, прыгатоўленага да часу, вадзянога настою і экстракту. Калі-ж спорнік трапляе ў жывот у вялікай колькасьці разам з хлебам, дык выклікае зьяву атручэньня ў форме сутарговага эрготызму (злая корча), дзеля чаго трэба яго сьцерагчыся.

Табака. Лісьцьцё **табакі**, (Fiola Nicotiana), якую разводзяць блізу што ўсюдых (у нас на Беларусі растуць досіць добрыя гатункі яе), зьбіраюць у ліпні, жніўні ад гадунцоў, з якіх яшчэ перад тым зразаюць каліўцы з краскамі, і сушаць, не перарабляючы іх, як гэта робяць з курыльнаю табакаю. Ужываюць табаку ў мэдыцыне, як наркотычнае лякарства—горкасьць.

Укроп. Ужываюць сьпелыя, высушаныя двузярняткі дзіка растучага й сеянага **укропу** (Fructus Foeniculi), якія выяўляюць прыемны пах, салодкі смак і ўдзержаваюць да 6% эфірнага алею, — як ветрагоннае і адхарківаючае лякарства ў постаці збораў да гарбаты і ў складзе слабячага збору „Сэн-Жэрмэну“.

Браткі. Ад усюды растучае краскі **браткоў** ці **залатухі** (Viola tricoloris) зьбіраюць траву ў часе красаваньня, ў траўні — верасьні, каторая паху ня мае, а толькі горкасьлізісты смак. Ужываюць гэтую траву ўнутро ў форме вадзянога настою (1 част. травы на 10 ч. вады) пры залатусе, а таксама у вэтэрынарнай практыцы, як абвалаківаючае лякарства пры запаленьні жывата і кішок.

Цьмін. Пляды вядомае двузярняткі **цьміну** (Fructus Carvi) характарызуюцца тымі самымі асаблівасьцямі, што і плады ўкропу і ўжываюцца ў форме збораў да гарбаты, як ветрагоннае лякарства.

Чарнагорка. Ад краскі **чарнагоркі** (Adonis vernalis) штогоду зьбіраюць сьвежае лісьцьцё і краскі разам з калівамі, якія перад ужыткам адкідаюць. Трава чарнагоркі паху ня мае, а толькі горкі смак, дзеля чаго і ўжываецца, як горкасьць, у постаці настояў і на зьмену валяр'яны, альбо з ёю, як добрае, моцнае сэрцавое лякарства з 5% адвару (сталовая ложка праз 2—3 гадзіны), альбо 10% настойкі (кропляў 15—10 цераз 6—8 гадзін).

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Апрача вышэйпералічыных, прасьледжаных мною і апублікованых асобнай брашураю („Bielaruskija lakarskija ziołki“, wydańnie „Krynicy“. Wilnia 1921) расьлінаў, нейкі грамадзянін Г. Антонаў, камандзіраваны ў 1887 годзе „С.-Петербургским Обществом естество-испытателей“ у Віцебскую губэрню дзеля зьбіраньня колекцыяў расьлін і для спэцыяльна-ботанічных сачэньняў, зьвярнуўшы ўвагу, паміж іншым, на лячэбныя, дзікія расьліны, якія ўжывае мясцовае насяленьне ў хатняй (народнай) мэдыцыне, сабраў і коратка апісаў 112 гэткіх расьлінаў, з якіх лічу няпішнім ад'значыць ніжэйпаданыя, з паказаньнем іх лякарскага ўжываньня народам, паводлуг даных грам. Г. Антонава:

Крываўнік.

**Крываўнік** (Achillea millefolium, тысячелистник, бараньня трава)—нявысокая травяністая расьліна, 1—1½ фута вышынёю, з няшырокімі, даўгаватымі лістамі, дробна расьсечанымі на масу маленечкіх частак. Краскі белыя, белаватыя альбо рожавыя, вельмі дробныя і сабраныя галаўкамі на вяршынцы расьліны. Цьвіце ўвесь чэрвень; трапляецца часта каля дарог, сьцежак, на ўзгорках, каля палёў, але не ў лясох.

Настой красак на гарэлцы ці кіпні (гарачай вадзе) ўжываецца пры недахваце крыві, ад беляў і спыненьня ў жанчын штомесячных рэгулаў; пры ганячцы, як узмацавальнае; халодны настой усяе травы—калі йдзе з носа кроў. Сок сьвежае травы ўжываецца звонку і ўнутро дзеля гаеньня ранаў. Наагул вельмі ўжывальная расьліна пры крывітоках і як крывічысьцільнае лякарства.

Рэпік.

**Рэпік** (Agrimonia eupatoria L. і Agr. pilosa Ledeb.) — досіць высокая травяністая расьліна, 1 — 2 футы, з чырвонымі, пярыстымі й зубчатымі лістамі, сабранымі ўнізе сьцябла, і невялічкімі жоўтымі красачкамі з 5 частачак, што сядзяць на сьцябле ў яго верхняй часьці. Цьвіце ў чэрвені й ліпні; трапляецца ў лясочках, па краёх лесу й пералесках.

Вельмі ўжывальнае, як гарбата пры грудных хваробах, таксама й дзеля ачышчэньня крыві, асабліва ад высыпкі ў дзяцей. Вонкавае ўжываньне мае настой

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

травы з краскамі дзеля паласканьня горла і абмываньня ранаў.

Гарлянка.

**Гарлянка, Гандзель** або **Казакі** (Ajuga reptans, живучка)—нізкая травяністая расьліна, ледзь ½ фута ці каля гэтага, з паўкруглымі (авальнымі) і густа расстаўленымі на сьцябле, ясна-сінімі, даволі буйнымі красамі; краскі няправільныя, накшталт трубкі з расшыраным і выцягненым уніз плоскім краем. Цьвіце ў траўні, расьце па сенажацях і ў гаёх, па берагох рэкаў.

Настой травы з краскамі ўжываецца пры пераменнай (пэрыядычнай) трасцы; адвар у малаку п'юць ад хваробы горла.

Шаленец.

**Шаленец**, шыльнік (Alisma plantago L., частуха)—вадзяная расьліна, вышынёю з аршын; лісты буйныя, авальныя, сядзяць каля караня, іншы раз у вадзе; сьцябло надта галіністае і на канцох галінкі маюць невялікія рожаватыя красачкі з 3-х частак. Сустракаецца часта на мялізнах і берагох вазёраў ды стаячых водаў.

Корань лічыцца адным з найужывальнейшых лякарстваў пры пакусаньні шалёнымі жывёламі (па шчыпчыку тры разы ў дзень).

Курасьлеп.

**Курасьлеп** (Anemone Sylwestris L. Annemorosa L., ветреница)—буйная і адзіночная белая красачка з 5-х частак сядзіць на вяршынцы сьцябла; ніжэй за яе — тры разрэзных лісточкі, а пры карані адзін (альбо ў Anemone Sylwestris некалькі) ліст на доўгім чарашку. Шмат знаходзіцца ў лясох і па лясістых берагох рэкаў.

Адвар сухое травы ўжываецца дзеля прамываньня вачэй пры „курачай сьлепаце". Тоўчанае лісьцьцё прыкладаюць да пульсу (на руку) ад трасцы.

Рамашка.

**Рамашка** (Anthemis arvensis L., Anthemis cotula L. i Chrysanthemum leucanthemum i inodorum)—чатыры вельмі распаўсюджаныя расьліны, якіх народ не адрозьнівае адну ад аднэй і прызывае *рамашкаю* (іншы раз „дзікаю", „сабачаю") і разам з тым памылкова лічыць за сапраўдны *рамонак* (Marticaria chamomilla), дзеля чаго і ўжывае таксама, як і яго, але наўрад ці з гэткай самаю карысьцяй. Сапраўднага „рамонку" (Marticaria chamomilla) грам. Антонаў у Віцебскай губэрні не знай-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

шоў, а вельмі блізкі да яго, M. discoidea DC., расьце ў м. Рэжыцы і лёгка адрозьніваецца ад усіх, падобных да яго, вышэйспомненых расьлінаў тым, што невялічкія галаўкі драбнюсенечкіх зеленавата-жоўтых красак маюць выцягненую *конічную* форму і ў сярэдзіне пустату, тады як рэшта 4 расьліны маюць плоскія падобныя да сподачкаў галаўкі красак, у сярэдзіне жоўтых, а па краёх белых; у разрэзе дзячко галоўкі шчыльнае, без пустаты.

Рамашка польная.

**Рамашка польная**,—жоўтая,—баравая,—хварбельная (Anthemis tinctoria L.) мае буйныя галаўкі каля *ясна-жоўтых* красак як унутраных, так і *крайніх* (язычкоў на краі галоўкі). Спатыкаецца па палёх, узгорках і баравых пясчаных пералесках.

Ужываецца ад залатухі, а таксама пры спыненьні рэгулаў пасьля радоў. Гарэлачны настой травы з краскамі п'юць пры корчах жывата.

Томка.

**Томка, томачка** (Anthoxanthum odoratum L.)—пахнючы каласок, трава; цьвіце ў пачатку чэрвеня; сьвежа сабраная й высушаная мае прыгожы прыемны пах (кумарын).

Прымешваецца да нюхальнае табакі; ў некаторых мясцовасьцях ужываецца ад удухі і грудных хваробаў.

Дзягель.

**Дзягель** (Archangelica officinalis Hffm. i Angelica sylwestris L.)—дзьве неадрозьніваныя народам расьліны, высокія, вельмі часта ў чалавечы рост, з вялізнымі разрэзнымі лістамі і масаю дробных рожаватых красак, сабраных парасончыкам на версе сьцябла й галоўных галін; дробныя плады, накшталт авальных аладачак, сядзяць папарна. Знаходзіцца ў лясох і гаёх; цьвіце ў канцы чэрвеня.

Народам ужываецца пры павальных (эпідэмічных) хваробах,—тыфусе, шкарлятыне, халеры, одры і інш.; пры ганячках корань носяць з сабою ў роце, лічыцца таксама перасьцерагальным ад здыханьня быдла. Гарэлачная настойка караня лічыцца спагадальнаю для страватраўленьня.

Палын, пялун.

**Палын, пялун** (Artemisia absinthium L.) — белаватая, *сівая* трава, з моцным блізу што дзеравяністым сьцяблом, дробнапарэзанымі, невялікімі лістамі і масаю дроб-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ных галовачак бледна-жаўтаватых красак, расьсеяных па ўсім сьцябле і ў рагох лісьцьця. Вельмі распаўсюджана па прывалях берагоў Дзьвіны. Цьвіце ў канцы ліпня і ў жніўні. Належыць да самых горкіх траваў. Гарэлачная настойка ўжываецца ад болю жывата, пры слабасьці страватраўленьня, дзеля ўзбуджэньня апэтыту, таксама ад болю печаняў і селязёнкі; настой на вадзе—ад трасцы й болю жывата.

Касьцілом.

**Касьцілом** (Artemisia campestris L., бурьян) — другі від палыну. Сьцябло цёмна-пурпуровае, моцнае, лісты надта тоненькія, як ніці, *цёмна-зялёныя,* краскі драбнюсенечкія, шэравата-пурпуровыя. Водзіцца на *пяскох* і пусташах па усёй Віцебшчыне, асабліва каля местаў. Нявысокая расьліна, часьцей распасьцёртая па зямлі ці па пяску.

Вадзяны адвар цьвітучае расьліны п'юць ад болю ў жываце і ад ламаты касьцей (адкуль і назоў); таксама ўжываюцца і прыпаркі з разваранае травы. Трава служыць дзеля курэньня ў пакоі хворага.

Чарнабыльнік, пялун.

**Чарнабыльнік, пялун** (Artemisia vulgaris L.)—найбуйнейшы і звычайнейшы гатунак палыну. Адрозьніваецца ад папярэдніх шырокімі, але моцна надрэзанымі на некалькі лапаў лістамі, зьверху цёмна-зялёнымі, зьнізу матавымі. Расьце ўсюды каля жыльля, ў местах і садох, вельмі высокі.

Вядомы, як крывічысьцільнае лякарства; ўжываецца ад усіх жаноцкіх хваробаў, што паходзяць ад расстройства жаноцкіх адпраўленьняў. Корань, у постаці парашку, ўжываецца ад падучае хваробы; адвар — як прымачка для пухлінаў.

Канячыя капытцы. Капытнік.

**Канячыя капытцы, Капытнік** (Asarum europaeum L., земляной ладан, копытень) — паўзучая й ляжачая па зямлі расьліна з круглымі лістамі, падобнымі па форме да капыта, й невялікімі краскамі пурпуровымі, поўзачыненымі, якія сядзяць па аднэй у рагох лістоў ці галін. Сьцелецца сярод апаўшага лонскага (з мінулага году) лісьцьця ў лістаўных лясох і гаёх, асабліва па склонах і цяністых лясных берагох рэкаў; цьвіце ў траўні.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Фармацэўтычны назоў — Asarum, Vulgago, Nardos rusticanus; корань моцна пахне, выклікае чыхаўку; сьвежа высушаны выклікае ваніты, даецца як проціатрута пры атручэньні шкадлівымі рыбамі, таксама ад запою; трава з каранём радзіцца проці залатухі. Коням даюць парашок караня пры глістох, рагатай скаціне — пры гніласных хваробах. Нагул, гэта расьліна моцна дзеець, а дзеля гэтага вымагае асьцярожнасьці ў прыёмах.

Буквіца.

**Буквіца** (Betonica officinalis L.) — досіць высокая травяністая расьліна, з прадаўгаватымі і круглазубчатымі лістамі на доўгіх чарашкох (недалёка ад караня) і густою доўгаю кісьцю пунцовых красак на вяршынцы сьцябла. Краскі досіць буйныя, двагубыя. Знаходзіцца ў лясох усюды.

Ужываецца, як гарбата з лістоў, ад кашлю, грудных хваробаў, пры мокрых прастудных хваробах, пры ламаце й натужнай ганячцы.

Чарада.

**Чарада** (Bidens tripartita L.) — нявысокая травяністая расьліна, з ясна-зялёнымі даўгаватымі лістамі, малазаметнымі цёмна-жоўтымі краскамі, што сядзяць галоўкай на версе сьцябла, і з надта чэпкімі плодзікамі, якія прыстаюць да вопраткі. Расьце ўсюды ў канавах, прудох, лужах, і наагул па вільготных і гліяістых месцах; вельмі звычайная расьліна.

Ужываецца як крывічысьцільнае. Ідзе ў склад асобнае гарбаты ад залатухі, разам з „Брат-з-Сястрою“ (Viola tricolor, Иван-да-Марья) і лістамі чорнае парэчкі.

Палявыя канапелькі.

**Палявыя канапелькі** (Brisa media L., слезки, трясунка)—прыгожая трава з зельляў з дрыжачымі маленечкімі каласкамі красачак на тоненькіх галінках. Звычайная расьліна.

Адвар або дэкокт гэтае травы ўжываецца ад пухлінаў на нагах.

Гарлянка.

**Гарлянка** (Brunella vulgaris L., пчелки), ў фармацыі—Prunella s. consolida minor. Вельмі звычайная, маленькая травяністая расьліна. Невялічкія круглаватыя лісты сядзяць на чарашкох папарна й супраціўна; сьцябло канчаецца цёмна-шэраю, блізу што чорнаю густою галоўкаю, з якой выстаўляюцца невялічкія блед-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

на-фіялетавыя двагубыя красачкі. Знаходзіцца ўсюды па дарогах, каля хатаў, платоў, па палёх.

Адвар травы з мёдам ужываецца дзеля паласканьня горла, калі баліць яно (адсюль і назоў).

Верас, вераск.

**Верас, вераск** (Calluna vulgaris Salisb.—Erica vulgaris L., фармацэўтычны назоў—herba Ericae).

Празываецца й *верас* і *вераск*, а ў шмат якіх месцах назоў „верас" адносіцца да хвойнага дрэўца—ялаўца (Juniperis). Нізенькая паўкуставая расьліна, грамадаю жывучая ў барох і на пясчаных месцах, з чорным сьцяблом, драбнюсенечкімі цёмна-зялёнымі лісьцікамі (й галінкамі) і сьветла-фіялетавымі дробнымі красачкамі. Цьвіце ў канцы ліпня і ў жніўні.

Вяршынкі расьліны з краскамі ўжываюцца, як прыпаркі, пры рэўматычных болях і пухлінах; разваранымі, як кісель, галінкамі абкладаюць пераломаныя, зьвіхненыя і апаленыя органы.

Уся расьліна можа быць ужыванаю на дубленьне і фарбаваньне скураў у жоўты колер.

Званкі. Званочкі.

**Званкі, Званочкі, Звончыкі** (колокольчики) — Campanula Patula L., таксама C. persicifolia і C. rotundifolia L.

Тры расьліны, што розьняцца велічынёю і фарбаю красак, але не адрозьніваюцца народам.

Вельмі ўжывальны ад падучае хваробы: сушаную траву параць і пякуць на патэльні, а над дымам трымаюць хворага. Карэнь ужываецца ад сабачага шаленства.

Капапелька, Канопля.

**Канапелька, канопля** (сапраўдная)—Cannebis satirae L.

Канаплянае масла (што адтрымліваецца з насеньня) з сольлю ўжываюць ад глістоў. Сок лістоў — як слабільнае.

Кмен.

**Кмен** (Carum carvi L.) — вельмі вядомая парасонічная расьліна, што лёгка пазнаецца па характарным смаку свайго насеньня. Расьце на палёх, сенажацях, каля дарог і г. д.

Насеньне ўжываецца, як узбуджальнае, ветрагоннае й павялічваючае малако лякарства, таксама як і ўсім вядомы прысмак пры пячэньні хлеба й дзеля гарэлкі.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

**Васількі** (Centaurea Cyanus L.)—усім вядомая расьліна ў жыце.

Васількі.

Вельмі ўжывальная пры крываўцы (дызэнтэры)—дарослым настой у гарэлцы, дзецям — у гарбаце, служыць таксама прымачкаю ад слабасьці вачэй. Краскі прымешваюцца да курыльнае табакі.

**Чыстацел** (Chelidonium majus L.). Характарная азнака гэтае расьліны — *жоўты сок*, які яна выпушчае пры зрываньні са *ўсіх* сваіх часьцей—караня, сьцябла, лістоў і красак. Лісты далікатныя, ясна-зялёныя, краскі правільныя ў 4 частачкі, жоўтыя. Спатыкаецца часта каля хатаў, у месцах, дзе шмат сьмяцьця, каля палёў.

Чыстацел.

Вельмі ўжывальны ў народнай мэдыцыне. Жоўты сок расьліны выводзіць бародаўкі, таксама і бяльмо (?); сьвежым сокам лечаць курачую сьлепату. Разьмятая трава з салам ужываецца ад каросты (сьвярбячкі), верадоў, залатухі. У адвары купаюць дзяцей з наскурнымі хваробамі. Быдлу даюць унутро ад чарвей і пры гарачцы.

**Палявая Пятрушка** (Corydalis solida L., хохлатка) — нізенькая расьліна з клубкавідным каранём, 2—3 дробна разрэзанымі далікатнымі лістамі і кісьцяй фіялетавых, прадаўгаватых і няправільных красачак на версе сьцябла; ўся расьліна ня вышэй, як 2 — 3 вяршкі. Цьвіце ў пачатку траўня. Грамадою расьце па склонах.

Палявая пятрушка.

Каранявыя шышачкі („бульбачкі") ўжываюцца ад пэрыядычнае трасцы.

**Касталом** (Cynoglossum officinale Z.)—даволі высокая й грубая расьліна засьмечаных месцаў, ваколіцаў гарадоў і мястэчак і г. д. Мае доўгія шэра-зялёныя пушыстыя лісты, жорсткае сьцябло, ўсаджанае на верхняй часьці шчыльна сядзячымі цёмна-пурпуровымі краскамі (каратка трубчатымі з 5-ма надрэзамі); плады невялікія (2—3 лініі), ўсаджаныя кручкамі й моцна чапляюцца за вопратку.

Касталом.

Расьліна гэтая мае вельмі многабочнае й распаўсюджанае ўжываньне, асабліва ў выпадках „фістульных" хваробаў і ад сабачага шаленства; добрая таксама ў постаці прыпаркаў пры нарывах і ў хірургічных выпадках. Цэлую сухую расьліну ўжываюць ад ламаты

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ў касьцёх (адсюль і назоў). Запэўняюць, што сьвежая расьліна, прывязаная да галавы, нішчыць вошы, а цэлая з каранём выганяе з хатаў пацукоў і мышэй.

Воўчае лыка.

**Воўчае лыка** (Dophe mezereum L., волчье лыко, волчьи ягоды) — нізенькі кустоўнічак, з адзіночным, рэдка галіністым, дзеравяністым сьцяблом, тонкім, але надта моцным. Прыгожыя рожавыя красачкі зьяўляюцца проста на сьцябле яшчэ раней за лісьцьцё, ў канцы красавіка; лісьцьцё выходзіць пасьля красак. У канцы лета на сьцябле сядзяць чырвоныя ягады, велічынёю з рабінавыя. Спатыкаецца ў лістаўных лясох.

Ад зубнога болю і для ўмацаваньня зубоў добра памагае кара, сырая, зьмятая і сьцёртая.

Жывакосьць.

**Жывакосьць** (Delphinium consolida L.)—дзікая трава ў жыце, радзей у аўсе, з няправільнымі цёмна-сінімі красачкамі (рагатыя васількі).

Сьвежы стоўчаны карэнь прыкладаецца да ранаў на нагах; сухім каранём прысыпаюць парэзы. Настой красак ужываецца, як прымачка пры хваробах вачэй, таксама ад кашлю, завалу жывата ці затрыманьня мачы.

Палечнік.

**Палечнік** (Digitalis grauрiflora All. наперстянка) — па форме вялікіх чырвоных і жоўтых красак велічынёю й відам, як вялікі напарстак. Травяністая, досіць высокая расьліна; лісты буйныя, цэлыя, доўгія й вузкія краскі сядзяць доўгім радком на вяршынцы сьцябла. Распаўсюджана толькі па ўзьбярэжжах Дзьвіны і на поўнач ад яе ня йдзе.

Разьмятае лісьцьцё прыкладаюць да ранаў і нарываў, як лякарства, што супакойвае боль і разьбівае.

Загадкі.

**Загадкі** (Erigeron acris L., мелколепестник)—нізенькая травяністая расьліна, з моцным простым сьцяблом, дробным лісьцьцём і галаўкамі красак; пры высыханьні (ці дасьпяваньні) галаўкі гэтыя моцна расходзяцца клубком, а пасьля разьлятаюцца пухам. Пух—драбнюсенечкае насеньне з лятучымі прыдаткамі.

Спатыкаюцца ўсюды па палёх, пусташах, засьмечаных месцах, па ўзгорках і краёх лесу.

Вадзяны настой травы ўжываецца пры цяжкім мачавыпусканьні і пры расслабленьні жывата. Раней

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

трава гэтая ўжывалася ад грудных хваробаў, а таксама грала важную ролю ў чараўніцтве і знахарстве (дзяўчаты гадаюць аб замужы, адкуль і назоў расьліны).

Грабелькі, Даждоўнік, Журавельнік.

**Грабелькі, Даждоўнік, Журавельнік** (Erodium cicutarium L. Herit.)—нізкая, але шырока распасьцёртая па зямлі расьліна, з каленчата-сагнутымі і крыху паднятымі сьцёблачкамі; лісьцьцё дробна-разрэзнае, красачкі някбуйныя ў 5 рожавых частачак; плады дробныя з вельмі доўгім хвастом, закручаным вінтом. Спатыкаецца ў засьмечаных месцах, у гародах, каля хатаў. Цьвіце блізу што цэлае лета.

Мае вельмі распаўсюджанае лячэбнае ўжываньне: і ад сутаргаў, і ад курачай сьлепаты, і для прысыпкі чарвівых ранаў у быдла. Адвар п'юць ад жабы і болю ў горле, альбо ўжываюць як паласканьне.

Сардэчнік.

**Сардэчнік** (Erythraea centaurium L., золототысячник)—прыгожая нізенькая трава (ня вышэй як $^1/_2$—$^3/_4$ фута) з простым прадаўгаватым лісьцьцём і некалькімі прыгожымі рожавымі праскамі, трубчатымі, на канцы 5-ма надрэзнымі, сядзячымі па аднэй у верхняй часьці сьцябла і галінак. Спатыкаецца па ўзгорках, гаёх, не асабліва часта і пакрысе. Цьвіце ў канцы ліпня.

Вадзяны настой травы і красак п'юць ад трасцы, болю ў грудзёх, ганячкі, пры слабым страватраўленьні, і наагул ужываецца—як гарбата—мешаніна гэтае расьліны з *бабоўнікам* (Menyanthes trifoliata) і *крываўнікам* (Achillea millefolia).

Малочніца.

**Малочніца** (Euphorbia helioskopia L.)—тоўстая травяністая расьліна з кругляватымі цёмна-зялёнымі лістамі й зялёнымі дробнымі краскамі, сядзячымі па некалькі на канцох галінак.

Пры разрываньні выпушчае белы сок. Вельмі ядлівая, дзеля чаго вымагае вялікай асьцярожнасьці у абхаджэньні з ёю. Расьце ўсюды на запушчаных гародах, па вёсках каля хатаў, у цяністых месцах. Карэнь — моцнае слабільнае.

Лепей варта адгавараваць ад ужываньня гэтае расьліны, асабліва ў сялянскім хатнім жыцьці, чымся радзіць.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Кашачы сардэчнік.

**Кашачы сардэчнік** (Euphrasia officinalis L., очанка)— маленькая расьліна з зубчатымі лісткамі і дробнымі жоўта-фіялетавымі краскамі, што сядзяць па аднэй. Спатыкаецца ў гаёх і па ўзгорках.

Гарбату з травы п'юць ад трасцы, ад болю жывата й горла; ўжываецца і пры хваробах вачэй.

Суніца.

**Суніца** (Fragaria vesca L., земляника). Гарачы настой травы з краскамі п'юць пры грудных, прастудных хваробах; халодны настой ужываецца, як піцьцё пры гарачцы. Гарбата з сушаных ягад добрая ад прастуды, для выкліканьня поту, таксама як маліна й рамонак.

Расходнік, разгон.

**Расходнік, Разгон** (Glechoma hederacea, бура, кошачья мята)—нізенькая траяністая расьліна, з круглаватымі тупа-зубчатымі лісткамі, сядзячымі папарна, і невялічкімі сьветла-чырвонымі краскамі ў рагох лісткоў; сьцябло паўзучае, сьцелецца іншы раз у аршын па зямлі і пушчае ўгару галінкі з лістамі і краскамі. Цьвіце ў траўні, па гаёх і лясочках. Адно з важнейшых крывічысьцільных і грудных лякарстваў. Сок сьвежае травы і гарбату з сухое п'юць ад болю ў грудзёх, горле і ў касьцях, пры болі горла ўжываецца таксама і малако, зваранае з сухою травою. Звонку ўжываецца пры нячыстых язвах, пры пухлінах, ад ламаты, залатухі, пры пераломах касьцей.

Пух

**Пух** (Gnaphalium dioicum E., скочыкі, магільнік, сушеница, безсьмертная трава, иммортель) — нізенькая расьлінка з пушыстымі белавата-зялёнымі лістамі каля караня і 2—5-ма цесна сядзячымі на версе сьцябла галаўкамі шчыльна сабраных драбнюсенечкіх, сухаватых красачак, пунцовых, рожавых і белых. Іхні колер у пачатку распусканьня пунцовы, але пасьля паступова бялее, і к часу пасьпяваньня насеньня краскі бываюць ужо саўсім белыя; ў гэты час галаўкі красак разьлятаюцца дробным пухам, гэта значыць насеньнем з лятучкамі з валаскоў. Цьвіце ў пачатку чэрвеня. Спатыкаецца блізу што ўсюды, на сухіх і баравых месцах, па ўзгорках, барох, на пясчаным грунце.

Трава з краскамі ўжываецца, галоўным чынам, для лячэньня быдла, лічаць што перасьцерагае быдла

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ад чумы; ўваходзіць таксама ў склад грудное гарбаты. (Мэдыцынскі назоў-Gnaphalium album, Pilosellaalba Pes., cati).

Залатушнік.

**Залатушнік** (Helichrysum arenarium L., змеевик лесной)—расьліна—як папярэдняя, але буйнейшая ўдвая ці ўтрая, з *ясна-жоўтымі* галаўкамі красак; колер іхні спачатку аранжавы, пасьля жаўцее, але белым ніколі ня бывае; лік галавок на версе сьцябла куды большы (да 20), як у папярэдняе расьліны. Цьвіце ў чэрвені і ў ліпні. Адна з самых распаўсюджаных і ўраджайных у Віцебшчыне расьлін; спатыкаецца блізу што ўсюды, пераважна па сухіх узгорках, пясчаных і баравых месцах.

Адвар травы з краскамі разам са *Зьвераббоем* (Hypericum perforatum) п'юць пры жаўтачцы, апрача таго—ад кашлю, болю ў грудзёх. Звонку ўжываецца пры паралічы, ад лішаёў, ад пакусаньня шалёным сабакаю, дзеля купаньня дзяцей пры жаўтачцы (як ванна), пры матачным цячэньні крыві. Мае моцнае мачагоннае свойства. Пакладзеная ў вопратку, расьліна гэта асьцерагае яе ад молі.

Пралеска.

**Пралеска, Падсьнежнік** (Hepartica tribola chaix Anemone hepartica L.). Расьце ў лясох і гаёх, асабліва па ўзгорыстых месцах і склонах. Цьвіце з канца красавіка, як толькі сайдзе сьнег. Прыгожыя красачкі, з 5 — 10 сінявата-ліловых частачак, выходзяць з зямлі на пушыстых доўгіх ножках; лісты широкія, трохлапыя выходзяць ужо пасьля красак, у сярэдзіне траўня.

Стоўчаную сьвежую траву даюць быдлу ад сыбірскае язвы. Ужываецца яшчэ ад трасцы, кашлю, залатухі, болю галавы.

Хмель.

**Хмель** (Humulus lupulus L.). Адвар лістоў ужываецца ад ганячкі; прыпаркі з хмелевых шышак (г. з. красак і пладоў) прыкладаюць да пухлінаў і нарываў.

(Сьцёблы могуць даваць матар'ял на пражу, як лён, каноплі і крапіва).

Дурнап'ян.

**Дурнап'ян, Блёкат** (Hyoscyamus niger L., болиголов.). Расьце ў гарадох і іхніх ваколіцах, на засьмечаных месцах і пусташах. Досіць высокая шэра-зялёная расьліна з моцным і крывым сьцяблом, пушыстымі лістамі

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

і гразна-фіялетавымі буйнымі краскамі; плады вялікія, маюць від збана з накрыўкаю і сядзяць усе шчыльна ў адзін радок па версе сьцябла.

Вядомы даўно ў мэдыцыне блёкатны алей дастаецца з гэтае расьліны, наагул вельмі ядлівае, дзеля чаго пры лячэньні ёю трэба быць асьцярожным; а ў выпадку атручэньня—найлепшая проціатрута—рвотнае.

Гарэлачны настой травы ўжываецца пры рэўматызьме; насеньне дурнап'яну лічыцца лячэбным ад зубнога болю, яго сыплюць на гарачыя вуглі і дым ад яго зьбіраюць у рот, альбо таксама аблепваюць гэтым насеньнем васкавую сьвечку і дым таксама скіроўваюць у рот.

Зьверабой. Сьвятаянскае зельле.

**Зьверабой, Сьвятаянскае зельле** (Hypericum perforatum і Hyp. guadraugulum L.)—два віды, неадрозьніваныя народам, дзеюць аднолькава.

Адно з найужывальнейшых народных лякарстваў. Гарэлачны настой прымаецца ад болю жывата, ад гарачкі, як процізаразнае лякарства; вадзяны настой — пры грудных хваробах, залатусе, сухотах, крываўцы, крывітоках; звонку — пры рэўматызьме, ламаце, каросьце, пабіцьці і для прысыханьня ранаў.

Дзевясіл.

**Дзевясіл** (Inula Helenium)—вялізная паўдзікая расьліна з вялікімі шырокімі лістамі (да фута) і вельмі буйнымі жоўтымі галаўкамі красак. Спатыкаецца часта па гарадох, каля палёў, і наагул толькі па выробленых месцах, блізка да хатаў, садоў і г. д. Цьвіце ў канцы ліпня.

Ужываюць ад каросты як масьць, зробленую з каранёвага парашку з салам; таксама мыюць рукі ў адвары караня. Сушанае лісьцьцё прыкладаюць да ранаў. Вадзяны настой караня прымаецца ўнутро пры грудных хваробах, худзізьне, ад болю жывата.

Рапоунік.

**Рапоўнік, Дзядоўнік, Брыль, Лапух** (Lappa tomentosa). Сюды таксама адносяцца яшчэ 3 віды, вельмі сходныя: Lappa minor DC. L. major Grt. і Lappa intermedia. Усе 4 характарны сваімі над'звычайна чэпкімі галаўкамі красак, што моцна чапляюцца за вопратку. Лісты вялікія, авальныя. Расьліна засьмечаных месцаў.

Адвар караня (radix Bardanae) п'юць пры сухотах;

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ім-жа мыюць галаву дзеля ўмацаваньня і ачышчэньня валасоў. З лісьцьця робіцца дэкокт для ўнутраных хваробаў; пры рэўматызьме сырое лісьцьцё прыкладаецца на хворую часьць цела.

Грымотнік.

**Грымотнік** (Latrhale aquamaria L., Петров крест) — вельмі арыгінальная пад'земная расьліна. Тоўстае сьцябло з 4 *белымі* лускаватымі тоўстымі лістамі крыецца пад зямлёю (нярэдка на глыбіні 1—2 футаў), а наверх над зямлёю высоўваецца толькі вяршынка з кісьцяй гразнарожавых красак. Цьвіце ў сярэдзіне траўня, у ліставых лясох, па склонах і берагох лясных рэчак. Расьліна рэдкая; знойдзена ў Рэжыцкім павеце па Лучасе, недалёка каля фэрмы Любашкова. Завецца *грымотнікам*, таму што зьнікае ад грому, гэта значыць у канцы траўня, ў часе, калі зьяўляюцца першыя грымоты.

У шмат якіх мясцовасьцях існуе перакананьне, што тоўстае, белае, лускаватае, пад'земнае сьцябло гэтае расьліны вельмі карыснае каровам і даецца ім дзеля большае малочнасьці, а таксама й коням пры худзізьне і зморанькі.

Арніка.

**Арніка** (назоў не народны, але надта пашыраны сярод абшарнікаў). Пад гэтым бязумоўна *фальшывым* назовам вядомы 2—3 вельмі ўжо блізкія і сходныя паміж сабою расьліны, больш за ўсё Leontodon autumnale L., затым Picris hieracioides, Leontodon hustile і часамі Hieracium (розныя віды), — ўсе з дробнымі жоўтымі краскамі, сабранымі ў галаўкі. А сапраўдная арніка, Arnica montana L., у Віцебшчыне ня знойдзена. А тымчасам, спомненыя расьліны, фальшывыя арнікі, маюць пад гэтым назовам вялізнае і пры гэтым вельмі ўдачлівае ўжываньне, якраз гэткае самае, як і сапраўдная арніка (пабеларуску *Буквіца*, *Касьцян*, *Купальнік*), гэта знач. вонковае, чыста хірургічнае, пры пераломах, вывіхах, пабіцьцях і г. д.

Краўпіца.

**Краўпіца** (Lythrum salicaria L., плакун-трава, дербенник). Апрача гэтага народнага назову мае яшчэ некалькі беларускіх назоваў: *Вербяніца*, *Кабыляк*, *Кабыля матка*, *Сьлёзьнік і Тройнік* (З. Верас. Батанічны слоўнік. Вільня 1924). Досіць высокая, прыбярэжная з



З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

вузкімі лістамі і густа рассаджанымі цёмна-рожавымі краскамі, ў кольцах на версе сьцябла. Водзіцца па берагох рэкаў, сярод кустоўнікаў; цьвіце ў ліпні.

Лічыцца карыснаю ад укушэньня гадаў; пры гэтым даюць парашок з сухіх лістоў і красак у хлебе, ўвідзе галачкаў (клубочкаў). Гарбату з травы п'юць пры падучай хваробе, таксама і для выклікань ня поту.

Брат-з-сястрою.

**Брат-з-сястрою** (Melampyrum nemorosum L., Иван-да-Марья) — вельмі распаўсюджаная лясная расьліна, з жоўтымі вузка-трубчатымі, няправільнымі краскамі й *сінімі* лісткамі *пад* краскамі (прыкрасьнікамі).

Трава з краскамі ўжываецца для ванны, ў якой купаюць залатушных і малакроўных дзяцей; вонкавае ўжываньне—пры грудных хваробах, ад каросты (сьвярбячкі); парашок з травы—ад ранаў і парэзаў.

Мята палявая.

**Мята палявая** (Mentha arvensis L.). Расьце па гаёх ручаёх, берагох рэкаў і вазёраў, на краёх лесу. Дробныя сінявата-фіялетавыя красачкі сядзяць кольцамі ў рагох цэлых, авальных, мяґкіх лістоў; уся расьліна мае слабы пах мяты. Цьвіце ў ліпні і жніўні і спатыкаецца вельмі часта (але гэта *не сапраўдная* аптэчная мята (Mentha piperita).

Трава з краскамі ідзе для паласканьня горла, калі яно баліць (таксама і адвар з мёдам). Лісьцьцё прыкладаюць пры пакусаньні шалёным сабакаю.

Бабоунік, бабок.

**Бабоўнік, бабок** (Menuanthes trifoliata L., вахта трилистная, трилистник болотный; фармацэўтычны назоў herba Trifolii firbini) — балотная расьліна з тоўстым паўзучым карнявішчам, трайчатымі (як у Дзятлінкі ці канюшыны) авальнымі лістамі на доўгіх чарашкох і белымі касматамі краскамі (у 5 частак), сядзячымі кісьцяй асобна, на асобнай ножцы. Водзіцца ўсюды па балотах і ў вялікім ліку; цьвіце ў траўні; плады (буйныя ягады) бываюць у жніўні.

Адвар і настой лістоў ужываюць ад ганячкі, харканьня крывёю, сухотаў, трасцы, малакроўя, кашлю, кілы (грыжы), болю зубоў; адвар з сольлю даюць авечкам і каровам ад кашлю. Наагул, гэта—адно з найужы-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

вальнейшых і найважнейшых лякарстваў у народнай мэдыцыне.

Мацярдушка.

**Мацярдушка, мята глухая, палявая** (Origanum vulgare, душица, бабина душица). Краскі дробныя, як у мяты, але *рожавыя*, і сядзяць ня кольцамі ў рагох лістоў, а на версе сьцябла; лісты невялікія, авальныя. Цьвіце з ліпня; спатыкаецца па кустоўніках, пералесках і г. д.

Вельмі вядомая і ўжывальная ў народнай мэдыцыне расьліна. Унутро ўжываецца пры няправільным месячным ачышчэньні ў жанчын, пры істэрыцы, нудпасьці, прастудзе і ад болю жывата; звонку—пры апаленьнях—ужываюць парашок расьліны з канапляным маслам; калі баліць галава, дык яе мыюць цёплым адварам і вымытую абвязаваюць хусткаю. Пасечнікі націраюць гэтаю травою вульлі для пчол.

Сардэчнік.

**Сардэчнік** (Parnassia palustris L., белозор)—нявысокая расьліна балацістых і вільготных сенажацяў, з круглаватымі лістамі (пры карані на чарашкох, а вышэй—абнімаюць сьцябло) і адзіночнай, даволі буйнаю белаю краскаю на канцы сьцябла, ў 5 частак, паміж якімі відаць сукосна стырчыць яшчэ 5 ражкоў. Цьвіце ў канцы ліпня.

Ужываецца, галоўным чынам, калі моцна стукае сэрца, адкуль і назоў, а таксама — як прымачка для вачэй.

Ваўчкі. Прорва.

**Ваўчкі, Прорва** (Pedicularis palustris L., надсадник, вшивая трава, мытник) — прыгожая, але нявысокая расьліна балотаў і балацістых сенажацяў, лісты дробнарасьсечаныя (пярыстыя), краскі гразна-рожавыя, сядзяць асобна па сьцябле й галінках, велічынёю да $^3/_4$ дзюйма; цьвіце ў чэрвені і трапляецца вельмі часта.

Адвар сухое расьліны п'юць, калі баліць жывот, пры лёгкіх кілах, гэмороі і пры выпадках падорванасьці; адварам таксама нішчаць вошы (адкуль і назоў „вшивая трава“, як парасейску, так і палаціне). Быдла ня есьць гэтае расьліны.

Бабін цьвет. Бабка.

**Бабін цьвет, Бабка,** завуць яшчэ і *трыпутнікам*, *трыпутнікам* (Plantago major, подорожник, попутник).

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Лісты буйныя, шырокія, блізу што круглыя, ўсе каранявыя; дробныя краскі рассаджаны густым і шчыльным „коласам“ на доўгай ножцы; гэты колас зеленаваты, даўжынёю да 2—3 вяршкоў.

Ужываецца ад глістоў. Вадзяны настой сухіх лістоў п'юць пры расслабленьні жывата; а сьвежыя разьмятыя лісты прыкладаюць да ранаў, верадоў, нарываў, асабліва пры пакусаньні „насекомымі“, і наагул — да розных язваў і хворых месцаў, каб панізіць жару.

Нізіперсьніца.

**Нізіперсьніца** (Plantago lanceolata L.) — другі *трыпутнік*, розьніцца ад ранейшага *вузкімі* і *доўгімі* лістамі і вельмі кароткім коласам белых красак, толькі каля 1 дзюйма ці 1/2 вяршка (ў 4 ці 6 разоў карацей за Plantago major — бабку). Трапляецца куды радзей за ранейшы.

Парашок сухое травы ўжываецца дзеля прысыпаньня нарываў і шнароў у коняў, а таксама і пры сыбірскай язьве.

Шпарнік. Шпарніца.

**Шпарнік, Шпарніца** (Plantago media L., подорожник средний, попутник мохнатый) — *трыпутнік* (трэці від). Самы звычайны й распаўсюджаны від з усіх трох. Розьніцца ад двух ранейшых нябуйнымі авальнымі лістамі і кароткім коласам красак, ані не даўжэйшых за 1 вяршок. Краскі *рожавыя*, вельмі дробныя, хаця-ж, усе тры апісаныя віды народам незаўсёды адрозьніваюцца і, пэўна што, аднолькава ўжываюцца адзін замест другога. Усе спатыкаюцца вельмі часта, ўсюды каля дарог, хатаў, засьмечаных месцаў, пусташаў і г. д. Нізіперсьніца прытрымліваецца берагоў рэк і рачных заліўных сенажацяў.

Унутранае ўжываньне—ад крываўкі,—жменю сухое травы з 2 чайнымі ложкамі ляннага насеньня заварваюць 2-ма шклянкамі кіпню, настойваюць і прымаюць па сталовай ложцы штогадзіны. Звонку ўжываецца, як масьць для нарываў з расьцёртага лісьцьця з салам, сольлю і хлебам.

Сінюха. Сінюшнік.

**Сінюха, Сінюшнік** (Polemonium coeruleum L.)—высокая травяністая расьліна, з вялікімі парыстымі лістамі і групаю даволі буйных *ясна-сініх* красак на версе сьцябла; цьвіце ў пачатку чэрвеня. Трапляецца ня часта.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Лічыцца перасьцерагальным лякарствам ад шаленства; ў постаці прыпаркі ўжываецца для мягчэньня і супакойваньня болю, асабліва пры напуханьні залозаў і пры вэнэрычных хваробах.

**Падарожнік, Спарышнік, Спарыш** (Polygonum aviculare L.). Прыземістая расьліна цёмна-зялёнага колеру; спатыкаецца ўсюды — каля дарог і каля хатаў. Дробныя рожавыя красачкі сядзяць па 1—2 ў рагох маленечкіх падоўжана-авальных лісткоў.

Падарожнік.

Ужываецца ад ганячкі й коклюшу. Прыпаркі травы прыкладаюць да „адтоптаных“ — спухшых ад хадзьбы — ног.

**Драсён белы** (Polygonum persicaria L., горчак), паўдзікая расьліна, што спатыкаецца каля пасеваў, канаваў, па вільготных месцах, ля прудоў, лужаў і г. д.; нявысокая (1—$1^1/_2$ фута) з вузкімі лістамі; пасярэдзіне ліста цёмная пляма. Краскі дробныя белаватыя ці рожавыя сабраны густым коласам на версе сьцябла.

Драсен белы.

Трава ўжываецца ўнутро пры гэмороі; звонку — дзеля гаеньня ранаў і верадоў. Калі баліць галава, дык сьвежую траву прыкладаюць да патыліцы.

**Дуброўка** (Potentilla tormentilla L., сурмалина, лапчатка) — вельмі пашыраная ўсюды, невялічкая лясная расьлінка з жоўтымі, паасобна сядзячымі красачкамі ($^1/_2$ дзюма ў папярэчніку) ў 4 часткі, і дробнымі цёмназялёнымі лісткамі, разрэзанымі на 3—5 зубчатых доляў; сьцёблы тонкія, карэнь тоўсты.

Дуброука.

Карэнь лічыцца вельмі лячэбным у шмат якіх выпадках: пры жаноцкіх хваробах, як вяжучае лякарства, проці беляў, крывітокаў і ганячкі; звонку ўжываецца дзеля ўзмацавальных прымачак.

**Баранчыкі, Буквіца белая** (Primula officinalis Jacg.) — вясьняная расьліна. Сьцябла ня мае; ўсе лісты доўгія, крыху кучаравыя па краёх, бледна-зялёныя, сядзяць проста каля караня, розэткаю; з сярэдзіны розэткі падымаецца доўгая красачная ножка, якая канчаецца цеснаю групаю даўгаватых трубчатых жоўта-аранжавых красак. Водзіцца па сенажацях, каля рэкаў. Цьвіце ў траўні.

Баранчыкі.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Гарбату з красак п'юць пры прастудзе, грудных хваробах, галавакруценьні; малочны адвар лістоў і караня п'юць ад сухотаў, трасцы і „дзіцячае“ хваробы. Звонку ўжываецца, як мягчыльнае.

Мядунка. **Мядунка** (Pulmonaria officinalis L., медуница, крупенки) — таксама вясьняная, але лясная расьліна; падобна да папярэдняе, але краскі рожава-фіялетавыя альбо бланкітныя, а лісты шырокія на доўгіх чарашкох; большасьць лістоў—пры карані, на сьцябле маленькія.

Трава ўжываецца ў грудных (лёгачных) хваробах і калі баліць горла; піцьцё й ванны—пры кіле (грыжы) і залатусе. Сьвежыя лісты, намачыўшы сьлінаю, прыкладаюць да ранаў і нарываў.

Ландышкі. **Ландышкі** (фальшывы назоў, па сходнасьці з сапраўдным ландышам—камвалеяй)—Pyrola rotundifolia L., полевой перец, грушанка. Лясная расьліна, падобная да камвалеі (ландыша) па доўгай кісьці белавата-зялёных красак (буйнейшых і болей раскрытых, як у камвалеі). Лісты *круглыя*, лікам 5 — 10, велічынёю (з пяць капеек, на доўгіх чарашкох (а ў камвалеі—доўга-авальныя, вострыя, толькі 2). Цьвіце шмат пазьней за камвалею, ў канцы чэрвеня, дзеля чаго і ня можа быць знойдзена ў адзін час з камвалеяй.

Адвар лісьцьця п'юць ад цынгі (?...), а сьвежыя лісты прыкладаюць да цынготных ранаў; вінны настой лістоў даюць дзецям пры ганячцы; калі баляць калены, дык абкладаюць іх цёплымі лістамі.

Казлы, Казялкі. **Казлы, Казялкі** (Ranunculus acris L., лютик едкий, полевой). Найзвычайнейшая і найбольш распаўсюджаная палявая й лугавая расьліна, якая цьвіце цэлае лета. Жоўтыя красачкі ($^1/_2$—$^3/_4$ дзюйма) у 5 глянцавітых частак; сп203нія лісты на доўгіх чарашкох, 5—надрэзныя, верхнія сядзячыя (без чарашкоў), вузкія.

Расьліна мае востры едкі сок (быдла ня есьць яе, дзеля чаго й не перашкаджае вольнаму й шырокаму распаўсюджаньню). Ужываецца наагул, як нарыўная трава (навет іншы раз дзеля пашкоджаньня вачэй, каб ухіліцца ад салдатчыны).

Конскі шчавель. **Конскі шчавель** (Rumex Acetosa L., а таксама й Rumex aquaticus, obtresifolius), кисленица, дикий щавель по-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

левой и лесной)—вельмі карысны ад каросты ў постаці масьці (ў лазьні) з сьвежага караня, стоўчанага з салам і канапляным маслам (ня змываць 3 дні). Краскі й насеньне ў парашку ўжываюць ад ганячкі.

**Лаза белая** (Salix alba L., ива белая)—драўцо з сям'і Salicineae. Галінкі бела ці жоўта-зялёныя, лісты *доўгія*, вузенькія, зьнізу касматыя, вострыя. Краскі дробныя, „коцікамі“, падобна да вярбы, цьвітуць пры распусканьні лістоў у траўні. Расьце па берагох рэк, каля водаў.

Лаза белая.

Кара гэтае лазы — найлепшае лякарства проці трасцы. Адварам травы абмываюць дрэннага гатунку раны, таксама купаюць у ім слабых дзяцей.

**Ніцая лаза** (Salix rosmarinifolia L., ива розмаринолистная)—кустойнік нявысокі з *дробнымі*, вузенькімі, *цёмна-зялёнымі* лістамі, зьнізу серабрыста-белымі. Краскі ўстроены так сама, як і ў папярэдняй (і наагул ува ўсіх лозаў); галінкі цёмныя, шэрыя ці шэра-чырванаватыя.

Ніцая лаза.

Адвар лістоў гэтае лазы п'юць ад болю галавы. Прыпаркі з развараных лістоў прыкладаюцца да асобных балячкаў ці плоскіх верадоў („ніцая скула“, чырый,—Furunculus), якія цяжка нагнойваюцца.

**Папкі** (Leabiosa arvensis L., альбо Knautia arvensis Cocalt., вдовий цвет, полевая скабіоза) — травяністая расьліна, ад $^1/_2$ да $^3/_4$ аршына вышынёю, з доўгімі цэлымі лістамі і гразна-бланкітнымі галаўкамі дробных красак, сядзячымі адзіночна на канцох сьцябла і 2—3 галінак. Цьвіце на сенажацях і сярод кустоўнікаў *у канцы ліпня*.

Папкі.

Сьвежыя лісты прыкладаюцца да ранаў; адварам сушанага караня палошчуць хворае горла. Расьліна гэта можа служыць проціатрутаю пры атручэньні *малачаём* (ці *малочніцай*, Euphorbia, гл. вышэй), спыняючы ганячку, якая пачнецца пры атручэньні.

**Зябер** (Scrophularia nodosa L.)—высокая (да $^1/_2$ арш.) травяністая расьліна, з тоўстым шышкаватым каранём, шырокімі зубчатымі лістамі (як у крапівы), сядзячымі папарна; красачкі невялікія, адзіночныя, ў відзе цёмна-

Зябер.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

чырвоных мяшочкаў, знаходзяцца ўсе ў верхняй часьці сьцябла, на маленькіх галінках. Расьце па вільготных сенажацях і кустоўніках. Цьвіце ў чэрвені і ліпні.

Карэнь лічыцца адным з лепшых лякарстваў проці шаленства. Пры пакусаньні шалёнымі жывёламі карэнь даецца ўнутро, па маленькім кавалачку тры дні, чуць-сьвет—раніцаю, г. зн. на парожні жывот.

Сытнік.

**Сытнік, Рабачкі, Адцытнік** (Sedum acre L.. очиток)—маленечкая, нізенькая, бела-зялёная расьліна, са сьцёблачкамі, якія сьцелюцца па зямлі, (1—1½ вяршка вышыні) і вельмі тоўстымі лісткамі, шчыльна сядзячымі на сьцябле, як тумбачкі; краскі ясна-жоўтыя (¼ вяршка ў папярэчніку) у 5 частачак. Атрутная расьліна, а дзеля гэтага патрабуе вялікай асьцярожнасьці пры ўжываньні ўнутро. Сьвежая трава выклікае пузыры на скуры.

Адвар травы ўжываецца пры пераменнай трасцы; парашок сухой травы—пры падучай хваробе.

Воўчыя (сабачыя) ягады..

**Воўчыя (сабачыя) ягады** (Solanum nigrum L., паслен черный)—нявысокая травяністая сьметнічная расьліна з матава-зялёнымі лістамі (як у лебяды), невялічкімі красачкамі і чорнымі ягадамі (з чаромху). Цьвіце ў ліпні.

Ягады—глістагоннае лякарства. Унутро ўжываецца вадзяны адвар, альбо настой сухога караня—ад ламаты хрыбта і рэўматызму. Звонку ўжываецца трава, як лякарства, што мягчыць і супакойвае боль.

Мядуніца.

**Мядуніца** (Spiraea Ulmaria L.) — вельмі распаўсюджаная лугавая расьліна (ца 1½ арш. выш.). Ніз сьцябла дзеравяністы, верх зялёны травяністы; лісты буйныя, надрэзаныя з абодвух бакоў на 5 — 7 буйных частак, падоўжаныя; краскі надта дробныя, моцна пахнуць, белыя ці ў 5 частачак бледна-жоўтыя, знаходзяцца ў вялізным ліку на версе сьцябла і складаюць усе разам *галіністую мяцёлку* ў ¼ аршына даўжыні (іншы раз большую ці меншую). Цьвіце ў чэрвені. Іншы раз зьмешваецца сялянамі са сходнымі расьлінамі, якія, ў гэткім выпадку, празываюцца таксама мядуніцай (напр. Thalictrum augustifolium, — гл. крыху ніжэй, пабеларуску—*жывіцельнік*).

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Сьвежы карэнь гэтае расьліны радзіцца проці шаленства, таксама й парашок сьвежых красак, высушаных на сонцы (даюць у хлебе). Сухая трава з краскамі добрае лякарства ад вадзянкі. Парашком красак альбо попелам ад іх прысыпаюць сечаныя й рэзаныя раны і асмаленыя месцы; адварам мыюць галаву, каб расьлі валасы; настой травы п‘юць, як гарбату, ад болю ў горле, грудзёх, ламаты і г. д. Карыстаюць і тады, калі ўкусіць гадзіна, і наагул зьяўляецца аднэю з найужывальнейшых, самых распаўсюджаных і карысьнейшых (?) лячэбных расьлінаў.

Бэз.

**Бэз, Буз** (Syringa vulgaris L., сирень) — вядомы ўсім садовы кустоўнік, што ўсюды разводзіцца дзеля красак і лёгка дзічэе; паходзіць з Пэрсіі і вывезены ў Эўропу ў 16 сталецьцi.

Нясьпелыя плады ўжываюцца ў трасцы. Масьць з красак, звараных у дзеравянным алеі, ўціраюць пры рэўматызьме й ламаце касьцей; сьвежае лісьцьцё прыкладаюць да хворае галавы.

Дзікая рабінка. Пізьма.

**Дзікая рабінка, пізьма, сівапізьма** (Tanacetum vulgare L., пижма)—высокая травяністая расьліна, з доўгімі пярыстымі й зубчатымі лістамі (як у рабіны, але вузейшымі і драбнейшымі) і многімі галаўкамі цёмнажоўтых красак (навет аранжавых, апэльсіннага колеру); галаўкі гэтыя знаходзяцца толькі ў верхняй часьці расьліны, плоскія, круглыя, велічынёю з ногаць на мезеным пальцы і ўсе складзены з масы драбнюсенечкіх красак. Калі разрэзаць гэткую галоўку красак ці навет раздушыць яе пальцамі, дык тады можна лёгка бачыць, што яна саўсім ня тое, што адна краска, а збор красак, прадстаўляе днячко, на якім шчыльна сядзяць надта дробныя жоўтыя стоўбікі—гэта і ёсьць сапраўдныя асобныя красачкі. Тое самае можна бачыць і ў галаўках шмат якіх расьлінаў, і тут вышэй спомненых, што складаюць адну вялікую сям‘ю складовакрасачных (Compositae), да якое адносіцца й Пізьма. Цьвіце яна ў ліпні, расьце па берагох рэк і далінаў.

Гэтая расьліна мае шырокае й разнароднае лячэбнае прытарноўваньне. Настой красак у кіпні ўсюды

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ўжываецца, як глістагоннае добрае лякарства і — пры болі ў жываце.

Жывіцельнік.

**Жывіцельнік**, таксама *мядуніца* (фальшывы назоў)— Talictrum augustifolium L., василистник.

Высокая травяністая расьліна, што крыху падобна да вышэйапісанае *Мядуніцы* сапраўднае; расьце часта разам з ёю. Адрозьніваецца, перш за ўсё, краскамі жоўтага ці цытрынна-жоўтага колеру, хоць і гэткімі самымі дробнымі, як у сапраўднае мядуніцы, але блізу што не пахнючымі. Краскі таксама знаходзяцца ўсе ў верхняй часьці сьцябла, рассаджаны мяцёлкаю, але досіць рэдкаю, саўсім ня гэткаю густою, як у тае; далей розьніцца лістамі, разрэзанымі на вельмі вузенькія й доўгія частачкі (ня шырэйшыя як у 2—3 лініі ці як таўшчыня сьцябла ўнізе, ўзятая 2 — 3 разы). Цьвіце ў чэрвені.

Сок усяе расьліны п'юць напалову з гарэлкаю пры жаўтачцы. Адвар сьцябла з лісьцьцём п'юць ад сухотаў; парашок з сухое травы з краскамі — ад крываўкі. Красачны пыл ужываецца, як дзіцячая прысыпка.

Чабор.

**Чабор** (Thymus serpyllum L., Богородицина травка)— маленечкая прыземістая расьліна, ня вышэй як 2 — 3 вяршкі. Сьцёблачкі дзеравяністыя (гэта паўкустоўнічак), ўсаджаныя дробнымі лісточкамі; краскі дробныя рожава-чырвоныя (рэдка калі белыя) сядзяць у куточках верхніх лістоў і на вяршынцы сьцябла. Вельмі шмат расьце на пяскох па ўсёй Беларусі, асабліва па хваёвых барох і пясчаных дарогах. Цьвіце ў канцы чэрвеня.

Настой красак і травы, ці гарбата, звараная ў печы ў гаршку, мае абшырнае ўжываньне: ад калацьця, болю жывата і грудзей, пры ганячцы, болі зубоў, бясоньніцы, перад родамі, і навет ад запою (гарэлачная настойка). Звонку йдзе дзеля абкураваньня, прыпаркаў і ваннаў.

Дзятлінка жоўтая.

**Дзятлінка жоўтая** (Trifolium agrarium L., клевер желтый). Усе віды канюшыны (клеверу) або *трохлістоўніку*, ці кашкі, з якіх тут апісваюцца чатыры, маюць *тройчатыя* ня буйныя лісты, падобна да фігуры крастовага туза, і вельмі невялікія даўгаватыя красачкі,

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

сабраныя ў пучкі на доўгіх ножках: асобныя красачкі адразу відаць і іх можна свабодна адрываць. Віды розьняцца паміж сабою афарбоўкаю красак і формаю лісточкаў. Ёсьць шмат пародаў і гатункаў, што разводзяцца й засяваюцца па сенажацях, але тут названы толькі тыя, што дзіка растуць і ўсюды пашыраны. Дзятлінка зьяўляецца аднэю з найлепшых кармавых траваў. Па будове красак і пладоў адносіцца за сям'і Матыльковых або Бабовых (Papilionaceae, Leguminosae), куды адносяцца: гарох, боб, фасоля, розныя дзікія гарошкі і г. д.

Жоўтая дзятлінка.

1) **Жоўтая дзятлінка** (Trifolium agrarium) расьце на пясчаным грунце, часта каля бароў, дарог, па ўзгорках і г. д. Цьвіце ў пачатку ліпня.

У адвары травы з краскамі купаюць дзяцей пры жаўтачцы, таксама пры слабым росьце; наагул вядома— як лякарства ад дзіцячых хваробаў.

Рожавая дзятлінка.

2) **Рожавая дзятлінка**, ці проста дзятлінка (Trifolium hybridum L.)—краскі рожавыя ці бледна-рожавыя. Дзікая расьліна ў пасевах, каля дарог, платоў, канаваў, па вільготных месцах.

Гарэлачны й вадзяны настой гэтага віду ўжываецца ад грудных хваробаў.

Дзятлінка чырвоная.

3) **Дзятлінка чырвоная** (Trifolium pratense L.)—самы звычайны й распаўсюджаны від канюшыны з нунцовымі буйнымі галаўкамі красак; расьце па палёх і сенажацях, усюды і часта, лепей — на глiністых грунтох; цьвіце ў чэрвені.

Вельмі ўжывальнае народнае лякарства пры розных хваробах. Адварам лістоў з сольлю змочваюць галаву, калі баліць яна.

Канюшына белая.

4) **Канюшына або дзятліна** vel **дзяцеліна белая, паўзучая** — (Trifolium repens L., клевер ползучий). Краскі белыя, сьцябло тонкае, ляжыць на зямлі. Есьць другі гатунак (від) канюшыны, таксама з вялікімі краскамі, але з простым моцным сьцяблом і галінкамі, і прыгожымі серабрыстымі лісткамі, гэта—канюшына *горная* (Trifolium montanum), вельмі роспаўсюжана па Віцебшчыне, асабліва па рацэ Дзьвіне. Ня трэба зьмешваць яе з апісванай белаю, *паузўчаю*, якая расьце па зась-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

мечаных месцах, каля дарог, канаваў, інады па выганох і сенажацях, усюды.

Ужываюць гарбату з красак ад кашлю; вадзяны настой красак разам з краскамі рабіны ўжываецца жанчынамі ад беляў.

Пырнік

**Пырнік** (Triticum repens L., пырей) — доўгая дзікая расьліна, падобная да жыта альбо пшаніцы, але бяз вусаў (з сям'і Gramineae), заўсёды зялёная. Краскі, а пасьля й зёрны сабраны наверсе ў доўгі й вузкі колас. Лісты вельмі доўгія й вузкія, як у жыце. Мае доўгі пад'земны карэнь. Спатыкаецца часта па гародах, садох, на выробленым грунце і каля хатаў. Цяжка выводзіцца бо кавалкі яго караня пад зямлёю даюць усё новыя й новыя атожылкі.

Карнявішчы могуць быць ужыты дзеля прыгатаўленьня хлеба, піва й віна. Яко-ж ужываюцца ўтрасцы, жаўтачцы, пры рэўматызьме, ламаце і пры няправільнасьці месячных ачышчэньняў у жанчын.

Падбел.

**Падбел** (Tussilago farfara L., мать и мачиха)—цікавая расьліна, якая цьвіце бяз лістоў самаю раньняю вясною, як зьлезе сьнег; а лісьцьцё выходзіць пасьля, асобна ад красак, у траўні і чэрвені. Краскі жоўтыя, з галаўкамі, як у Ксяндзовага плешу (одуванчик), стырчаць проста з зямлі на тоўстых рожава-зялёных сьцёблах (2—3 вяршкі ад зямлі), расьцьвітаюць з канца красавіка; ў сярэдзіне траўня на месцы красак зьяўляецца густа сабранае насеньне з белым пухам, якое разьлятаецца па паветры, як Ксяндзоў плеш. Лісты вялікія, шырокія, вуглавата-круглыя, на доўгіх чарашкох, якія таксама выходзяць проста з зямлі. Зьверху ліст цёмна-зялёны, гладкі і навобмацак халодны — (мачаха), а зьнізу белы, густа-пушысты і навобмацак цёплы — (маці). Любіць расьці на гліне і глiністых месцах.

Ужывальна толькі лісьцьцё гэтае расьліны. Яно ўваходзіць у склад грудное гарбаты; сокам яго лечаць каўтун і залатуху; разьмятае лісьцьцё прыкладаюць да ранаў, верадоў і нарываў; вадзяным настоем прымочваюць залатушныя высыпкі.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

**Крапіва, Страніва** (Urtica urens і Urtica dioica L.) — усім вядомая палючая травяністая расьліна ў двух відах, якія народ незаўсёды адрозьнівае.

Крапіва, Страніва.

Карэнь і насеньне зьяўляецца народным лякарствам ад глістоў і ганячкі. Сьвежая трава ўжываецца, як узбуджальнае лякарства ў паралічы й халеры; сок травы—у грудных хваробах і вадзянцы.

**Дзяванна.** Пад гэтым чыста-народным назовам вядомы два блізкія віды аднаго й таго самага роду: Verbascum Thapsus L. i Verbascum nigrum L. — (коровяк серый и коровяк черный). Абодва віды — высокія й моцныя, проста-стаячыя травяністыя расьліны, з вялікімі касматымі лістамі і буйнымі жоўтымі краскамі, шчыльна сядзячымі ўдоўж вяршынкі сьцябла, як прыбітыя да палкі. Цьвітуць у ліпні.

Дзяванна.

1) **Дзявана чорная** (Verbascum nigrum). Сьцябло *чорнае*, ня тоўстае, лісты на чарашкох *цёмна*-*зялёныя*. Расьце па гаёх і склонах берагоў.

Дзяванна чорная.

Вадзяны настой красак, іншы раз і лістоў, ужываецца ў постаці гарбаты ад кашлю і груднога болю, пры ўдусе й сухотах, таксама для прамочваньня горла пры гарачцы.

2) **Дзяванна шэрая** (Verbascum Thapsus). Сьцябло тоўстае, сьветла-шэрае, касматае; лісьцьцё доўгае, ня шырокае, без чарашкоў, сядзіць проста на сьцябле і навет працягваецца (ці зьбягае) ўніз па сьцябле, шэра-зялёнае, касматае; гэтая расьліна вышэй за папярэднюю (іншы раз да 3 арш.) і спатыкаецца па болей адкрытых і пясчаных месцах.

Дзяванна шэрая.

Мае многабочнае лячэбнае ўжываньне; краскі ўваходзяць у склад грудное гарбаты; пры пакусаньні шалёнымі жывёламі даецца парашок з лістоў, замешаны ў хлебныя клубочкі.

**Палейка, Кандрацікі** (Veronica Chamaedrys L., вероника дубровка) — нявысокая травяністая расьліна, са слабым сьцяблом, інады ляжачым ці паднятым, з зубчатымі лісткамі (велічынёю з 2-х капеечную монэту, але ня круглымі а авальнымі), сядзячымі папарна, і з прыгожымі бланкітнымі краскамі (з ногаць мезенага пальца), сядзячымі адіночна на сьцябле; краскі надрэ-

Палейка. Кандрацікі.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

заны на 4 часткі і звальваюцца цалком. Цьвіце з чэрвеня, знаходзіцца ўсюды, па гаёх, кустоўніках, сенажатках, далінах.

Сухотнік лесавы.

Вельмі сходная з ёю Veronica officinalis—**Сухотнік лесавы** (вероника лесная), што расьце ў лесе; адрозьніваецца надта дробна-зубчатымі лістамі і меней буйнымі краскамі. Абедзьве расьліны зьмешваюцца.

Прыпаркі з травы прыкладаюць да зацьвярдзеўных грудзей жанчынам (пасьля кармленьня грудзьмі) і дзеля загаеньня шчэлінаў на канцох цыцак, таксама—пры прастудзе, ламаце касьцей, болі зубоў і галавы, пры кіле (грыжы), залатусе і сухотах.

Каліна.

**Каліна** (Viburnum opulus L.)—даволі вядомы кустоўнік з групамі белых пахнючых красак.

Адвар маладых галінак і ягад п'юць ад кашлю; краскі лічацца народам за лепшае лякарства ад залатухі; ў адвары маладых галінак купаюць залатушных дзяцей.

Ластаунік.

**Ластаўнік, пташэнец, ластавень** (Vincetoxicum officinale Much альбо Cynanchum vincetoxicum R. Br.)—травяністая простастаячая расьліна (ад 1/2 да 1 арш.), з надта моцным неразрывальным сьцяблом (таўшчынёю з гусіную пярынку) і цэлымі гладкімі лістамі, як у бэзу; краскі белыя, невялікія, драбней за бэзавыя, надрэзаныя на 5 язычкоў, знаходзяцца ўсе ў верхняй часьці сьцябла, паасобку. Расьце купамі, групамі на берагох рэк, сярод берагавога кустоўніку, досіць часта ў надта вялікім ліку. Цьвіце з канца траўня; ў канцы ліпня пасьпяваюць плады—ў постаці доўгіх востраносых гурочкаў (у 1 вяршок), якія зьвісаюць уніз.

Карэнь вельмі ўжывальны ад укушэньня гадзінамі. Лісьцьцё, прыложанае да цела, выклікае жару і робіць раны. Наагул, гэта—ядлівая расьліна; з усяе жывёлы толькі адны казлы ядуць гэтую траву.

Сьцёблы па сваёй вялікай вязкасьці і моцы могуць быць выраблянымі на вяроўкі, як і каноплі.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

## V.

Бабы-павітухі. Акушэркі.

У звязку са знахарствам, навет звычайна без яго спатыкаюцца часта самавукі бабы-павітухі, якія замяняюць сабою адпаведна адукованых акушэрак (каторыя павінны ведаць усе прыёмы помачы парадухам і, калі патрэбна, выклікаць доктара) з адпаведным лякарска-акушэрскім інструмэнтарыем, каб парадуху, лёгка даступную заразе, абараніць ад яе. Гэтыя-ж бабкі найчасьцей бываюць прычынаю заражэньня парадухаў сэпсыцэміяй (радзільнай гарачкай) і часта трудныя выпадкі радоў гэтак запускаюць, што і з добрым досьледам доктару-акушэру незаўсёды магчыма памагчы.

Фэльчары.

І ня дай Божа, калі ў помач вясковым бабкам прыходзяць падчас ня ў меру сьмелыя фэльчары ці фэльчарыцы, ня скончыўшыя спэцыяльных акушэрна-фэльчарскіх школ.

Гэтак, напрыклад, увосені 1920 г. я быў закліканы ў вёску Ашмянку да парадухі, дзе ўжо пару да майго прыезду працавалі тутэйшыя бабкі і ротны фэльчар з Рукойні. Хочучы ў матцы зрабіць паварот дзіцяці ў радзіўшай першы раз, у той час, калі выпала правая ручка дзіцяці, апрача таго, што неналежна стэрылізаванымі рукамі ён мог-бы ўвясьці інфэкцыю, ды пашкодзіць палавыя органы і дзіця, вышэйспомнены мастак-фэльчар, лічачы сябе ўсебаковым практыкам, упырснуў штосьці пад скуру, каб дзіця само выскачыла, і гэтым выклікаў такі спазм маткі, што дзіця яшчэ горш завалілася, ручка абмёрла, дзіця памёрла і памёршы плод толькі ў бальніцы пры наркозе з удзелам некалькіх дактароў і акушэрак з вялікай труднасьцю быў выцягнуты, каб вырataваць парадуху.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Фэльчары.

Фэльчары бываюць: 1) клясовыя, скончыўшыя 4-х або 3-х гадовыя курсы, на якія прыймаюцца па сканчэньні ня менш як 5—6 клясаў сярэдняе школы, і 2) ротныя фэльчары, якія набіраюцца з ліку лазарэтных або ротных санітараў, досіць граматных, і, праслухаўшы адпаведныя лекцыі на фэльчарскіх курсах, ходзяць за хворымі, прыглядаюцца да іх лячэньня, да опэрацыяў і спосабаў дэзынфэкцыі. Ў часе-ж вайны курсы скарочаваюцца да 4—5 тыдняў з больш кароткімі экзаменамі на званьне фэльчара, дзеля чаго за апошнюю вайну разьвялося шмат малапрактыкованых фэльчароў, якіх пабеларуску празываюць „цырулікамі“, мяшаючы іх з парыкмахерамі.

Гэтае мэдыцынскае абдурваньне нашага цёмнага народу часта прыносіць навет сьмерць. Гэтак, напрыклад, у м. Антопалі, Кобрынскага павету Горадзеншчыны, падчас нямецкае окупацыі, бедны кравец жыд быў прыняты ў мясцовы эпідэмічны шпіталь, як майстар дзеля папраўкі хусьця і як санітар-дэзынфэктар; а праз паўгода, калі выйшлі немцы, палічыўшы сябе за фэльчара, пачаў езьдзіць па вёсках з банкамі ды самаробленымі спэцыямі і лячыць пінчукоў; у хуткім часе так разбагацеў, што купіў каня, апрануўся ляпей і навязаў стужку чырвонага крыжа. Пасадзіўшы сына за фурмана, загадаў яму, заяжджаючы ў вёску, крычаць: „доктар едзе і ўсе хваробы лечыць“, — і, праўда, залечавае, але не хваробы, а хворых.

Сестры міласэрдзя. Санітаркі — сядзелкі і санітары.

У даваенныя часы мала меншую за фэльчарскую адукацыю давалі 2 — 3-х гадовыя курсы сёстраў міласэрдзя, на якія прыймаліся асобы з патрэбнай агульнанавуковай жыцьцёвай падгатоўкай, але за ваенны час, калі патрэба ў сёстрах міласэрдзя значна павялічылася, гэтыя курсы былі скарочаны да 2-х месяцаў і навет 6-х тыдняў (у часе эпідэміяў); з гэткімі сёстрамі пасьпешна могуць конкураваць сядзелкі — санітаркі і санітары больш граматныя, прыймаемыя як ніжэйшы пэрсонал шпіталяў для больш простай работы пры даглядве за хворымі і з якіх часам, пасьля шматгадовай практыкі, выпрацоўваюцца вельмі карысныя пасобнікі ў шпітальнай працы.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Дактары.

Дактары для адтрыманьня свайго дыплёму, часьцей праз конкурс, пасьля сканчэньня сярэдняе школы з „атэстатам сьпеласьці" прынятыя на мэдыцынскі факультэт, павінны слухаць лекцыі лякарскіх навук ня менш як 5 гадоў, пасьля чаго здаюць г. зв. дзяржаўныя экзамены. На мэдыцынскім факультэце кожны кандыдат на доктарскае званьне выучвае усе хваробы, па ўсіх спэцыяльнасьцях.

Лякарскія навукі.

На мэдыцынскім факультэце ў Расеі былі прыняты для выкладаньня кандыдатам на доктарскае званьне гэткія навукі:

1. Славяназнаўства.

2. Арганічная хімія, што пазнаець рэчы і матэрыі, з якіх складаюцца расьліны, жывёлы і прадукты іхняй жыцьцядзеяльнасьці.

3. Хімія неарганічная: мінэралы (ў рошчынах і солях) і няжывыя, неарганізованыя целы прыроды.

4. Аналітычная хімія, якая разьвязавае заданьні— пазнаці склад тых ці іншых целаў прыроды.

5. Мэдыцынская хімія, якая дае веду аб хімічнай працы чалавечага цела.

6. Фізыка — навука аб зьявах, пры якіх склад рэчаў, паказаваючых іх, не зьмяняецца, а зьмяняецца толькі парадак іх, або іхніх частак.

7. Крышталёграфія—навука аб крышталях.

8. Батаніка—навука аб расьлінах усіх відаў.

9. Фармацыя—навука аб спосабах прыгатаўленьня лякарстваў, якая дзеліцца на 3 часьці:

a) Фармакогнозія—мэдыцынская батаніка.

b) Фармацэўтычная хімія.

c) Рэцэптура — спосабы дозіроўкі і прадпісаньня лякарстваў.

10. Зоолёгія—навука аб жывёлах.

11. Прыраўнаўчая анатомія — навука аб будове ўсіх арганізмаў.



З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

12. Анатомія чалавека — пазнаньне на трупах і шкялетах будовы чалавечага арганізму, віднае простым вокам.

13. Гістолёгія—больш дэтальнае пазнаньне будовы чалавечага цела праз мікраскоп, і эмбрыялёгія — навука аб разьвіцьці чалавечага зародку.

14. Патолёгічная анатомія: хваравітыя пераінакшаньні ў чалавечым целе, якія выяўляюцца падчас опэрацыяў, або на сэкцыі трупаў з патолёгічнай гістолёгіяй (пазнаньнем пад мікраскопам патолёга-анатомічных прэпаратаў).

15. Фізыялёгія — навука аб нармальнай жыцьцядзеяльнасьці чалавечага арганізму.

16. Агульная патолёгія—жыцьцядзеяльнасьць арганізму пры зьявах хваробы.

17. Бактэрыялёгія — навука аб мікроарганізмах наагул і аб выклікальніках хваробы ў дэтальнасьці.

18. Гігіена — навука аб папярэджаньні захварэньняў, захаваньні і паправуцы здароўя чалавека.

19. Дыягностыка—ўменьне пэўнага адрозьніваньня хваробаў, пазнаючы іх па органах цела стасоўна да прычынаў хваробы.

20. Агульная тэрапія—навука лячэньня хваробаў.

21. Унутраныя хваробы.

22. Заразныя хваробы.

23. Нэрвовыя і псыхічныя захварэньні.

24. Топографічная анатомія — пазнаньне супольных адносін органаў цела ў розных частках цела стасоўна да хірургічных заданьняў.

25. Тэорэтычная хірургія.

26. Опэрацыйная хірургія.

27. Жаноцкія хваробы і опэрацыі.

28. Акушэрыя.

29. Электротэрапія, рэнтгэнафотографія і радыя-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

тэрапія—навукі аб ужываньні электрычнасьці й радыю ў мэдыцыне.

30. Клімата-і бальнэотэрапія, якія знаёмяць з выкарыстаньнем для лячэньня кліматаў і цалебных водаў, уключаючы і пазнаньне курортаў.

31. Дэтальная тэрапія — навука аб лячэньні хваробаў стасоўна да іх выяўленьня (сымптоматолёгія).

32. Курс масажу і швэдзкай гімнастыкі.

33. Судовая мэдыцына й токсінолёгія (навука аб атрутах).

Толькі па сканчэньні мэдыцынскага факультэту ды ўсіх экзаменаў, калі каму з маладых дактароў ня здарыцца трапіць у вёску ды праверыць сваю веду праз усебаковыя патрэбы жыцьця, па ўсіх спэцыяльнасьцях, яны практыкуюць у месьце па якой-нібудзь асобнай спэцыяльнасьці.

Дактары-спэцыялістыя.

У гарадох, дзе параўнаўча больш дактароў, каб прамінуць непатрэбную конкурэнцыю, або заахвочваючыся пазнаньнем якой-нібудзь аднае галіны мэдыцыны, каб не займацца шырокімі ўсебаковымі заданьнямі агульнай мэдыцыны, маладыя дактары выбіраюць якую-нібудзь адну галіну за спэцыяльнасьць і завуцца дзеля гэтага спэцыялістымі: 1) па ўнутраных хваробах, 2) па хірургічных, 3) дзіцячых, 4) па жаноцкіх і акушэрных, 5) па насавых, вушных і гарлавых, 6) вочных, 7) па вэнэрычных і скурных, 8) па хваробах сэрца, 9) па нэрвовых і псыхічных, 10) на хваробах нырак; а таксама спэцыялістыя: 11) па лябораторных досьледах, 12) электрызацыі, 13) рэнтгэнізацыі і г. д.

Доктарскія прафэсары.

Спэцыялізуючыся ў пазнаньні пэўных галін мэдыцыны, дактары робяць знаходкі, пішуць навуковыя творы, за якія некаторыя вытрымліваюць публічныя экзамены (г. зв. дысэртацыі), адтрымліваюць званьне *дактароў мэдыцыны* і, займаючы месцы прафэсароў унівэрсытэту, робяцца яшчэ больш глыбокімі спэцыялістымі, паступова павялічваючы завяваньні мэдыцыны на дарозе захаваньня здароўя чалавека і палягчэньня

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

яго жыцьця. Зубныя дактары, канчаючы спэцыяльныя кароткія (2—3 гады) курсы празываюцца *дантыстымі*.

Фармацэуты.

Апрача вышэйпаданага трэба яшчэ спамянуць аб фармацэўтах, правізарах і магістрах фармацыі, праходзячых пры мэдыцынскім факультэце спэцыяльны 2-х гадовы курс фармацэўтычных навукаў, стасоўна да патрэбы правільнага прыгатаўленьня лякарстваў. Толькі фармацэўты могуць загадаваць аптэкамі й лічацца компэтэнтнымі асобамі у аптэкарскіх справах, таму што лякарствы, зробленыя імі, або пад іх кіраўніцтвам за іх асабістай адпавядальнасьцю і подпісам на рэцэпце, можна лічыць пэўнымі ў адрозьніваньне ад прыгатаўленьняў, *драгістых*, маючых аптэчныя магазыны, ці склады, якія, прадаючы свой гатовы тавар, у большасьці не фармацэўты, г. зн. не адказныя за прыгатаўленьне прадаваных імі лякарстваў і безадказна могуць падмяняць рэцэпты, гэта значыць прадпісаньні дактароў, дзеля асабістай карысьці; большасьць-жа іх толькі самавукі, не разумеючыя фармацэўтычнага складу і хімічнай дзеяльнасьці паміж часткамі прадаваемага тавару,—бясьпечна могуць прадаваць толькі гатовы тавар.

Драгістыя.

У зьвязку з вышэйпаданым ўздумаваецца вядомая расейская прыказка: „беда, коль пироги начнет печь сапожник, а сапоги точать—пирожник“.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

## VI.

Ня сьмею гэтымі ўвагамі знаёміць чытальніка, які не навучыўся мэдыцыны, з адпаведнымі дэталямі тэрапіі, але наагул, для хатняй аптэкі, дзеля першай помачы да прыезду доктара ў вёску трэба ад'значыць:

Хатняя аптэчка першай помачы.

| Агульны запас. | Лякарствы. | Доза на 1 раз. | На 24 гадз. (пару). | Увагі. |
|---|---|---|---|---|
| | **Вочныя.** | | | |
| 10,0 | 1% рошчына кокаіну . . . . . . . | 1 кропля | 3 кроплі. | У працягу пары (24 гадз.) 2—3 разы пры болі ў вачох. |
| 200,0 | Сьвінцовая прымочка . . . . . . . | 20,0 | 100,0 | Часовая прымочка, што паніжае тэмпэратуру. |
| | **Лёгачныя.** | | | |
| 10,0 | Кроплі Дацкага караля . . . . . . | 15 кроп. | да 50 кр. | Як часова адхарківаючае. |
| 5,0 | Довэраў парашок. | 0,2 | 0,5 | Як часова затрымліваючае кашаль. |
| | **Кампрэсы.** . . . . | — | 2-3 разы. | Як помач пры разьвязаньні запаленьня: вільготнае палатно крыюць кляёнкай і марляй. (Шкодна для сухотнікаў.) |
| 10 шт. | Гарчычнікі . . . | 2 | на 3 пары | Прадаюцца гатовыя. (Шкодна для сухотнікаў.) |
| 20 шт. | Банкі . . . . . . | да 50 | на 4 пары | Толькі ня крывавыя. (Шкодна для сухотнікаў.) |

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

| Агульны запас. | Лякарствы. | Доза на 1 раз. | На 24 гадз. (пару). | Увагі. |
|---|---|---|---|---|
| | **Жывотныя.** | | | |
| 10,0 | Саляны квас . . | 1 кр. | да 10 кр. | Каб прыдаць ахвоты да яды, на чарку вады хворым у лёгкай трасцы і нямаючым загі (ізжогі). |
| 50,0 | Сода ачышчаная. | 1,0 | 5,0 | Ад загі, як часова супакойваючае, але ня лечачае. |
| | **Кішачныя.** | | | |
| 20,0 | Іназемцавы кроплі. | 15 кр. | 50 кр. | Як часова супакойваючыя рэзаньне. |
| — | Кампрэс цёплы . | — | — | Цёплыя бутэлькі (небярэменным). |
| | **Ырачныя.** | | | |
| 20,0 | Мядзьвежыя вушкі . . . . . . . . . | 5,0 | 10,0 | Запарваюць, як гарбату (мачагоннае). |
| 100,0 | Пятрушка . . . | 5,0 | 15,0 | Таксама. |
| — | Малако з гарбатай. | — | — | Малочная страва найлепшая. |
| | **Мачапалавыя.** | | | |
| 5,0 | Марганцава-кіслы калі . . . . . . . | 0,1 | 1,0 на 1 літр вады. | Для паласканьня вонкава пры загразьненьні, як першая дэзынфэкцыя. |
| | **Сардэчныя.** | | | |
| 20,0 | Настойка валяр'янаэфірная . . . . . . | 15 | 2 разы | Для падмацаваньня сэрца і супакоеньня яго біцьця. |
| — | Моцная гарбата, кава, віно . . . . . | — | — | |
| | **Вушныя.** | | | |
| 10,0 | Камфорнае масла. | 1 кр. | 5 кр. | Як абарона ад ветру, на ваце ў вусе і пры коліках у ім, як часова супакойваючае. |
| 5,0 | Масла гіосьціаміна . . . . . . . . | 1 кр. | 5 кр. | |

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

| Агульны запас. | Лякарствы. | Доза на 1 раз. | На 24 гадз. (пару). | Увагі. |
|---|---|---|---|---|
| | **Проціррэўматычныя.** | | | |
| — | Асьпірын у таблетках . . . . . . . | 0,3 | 1,0 | Ляпей з сардэчнымі. |
| — | Масаж . . . . . | — | — | Расьціраць у бок сэрца. |
| | **Проці трасцы й жарапаніжальныя.** | | | |
| 5,0 | Фэнацэтын . . . . | 0,2 | 1,0 | Ляпей з сардэчнымі пры тэмпэратуры вышэй 39$^{0}$. |
| — | Абціраньні. . . . | — | 2 разы. | Вільготным ручніком з варанымі ліпавымі краскамі нанач. |
| 100,0 | Ліпавыя краскі . | 10 | 1 раз. | |
| | **Крывітворныя і ўмацоўваючыя.** | | | |
| — | Вадалячэньне, масаж, гімнастыка і кармленьне . . . . | — | — | Найляпей есьці часта, праз 2—3 гадзіны і пакрысе. |
| 500,0 | Рыбячая клустасьць . . . . . . | 1 стал. ложка. | 3 разы | На пітлёваным хлебе з сольлю. |
| | **Прыпякальныя.** | | | |
| 1 пал. | Ляпісны камень . | 1 раз на | 3 пары | Карысны ад барадавак, мазалёў і для адсьвежаньня ранаў. |
| | **Скураныя.** | | | |
| 10,0 | Ксэроформа . . | — | 1 раз | Сушыць скуру. |
| 10,0 | Цынкавая масьць. | — | 1 „ | „ „ |
| 20,0 | Гліцарына . . . . | — | 1 „ | Сушыць вільготную скуру. |
| 20,0 | Боравазэліна . . | — | 1 „ | Вільгаціць сухую скуру. |

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

| Агульны запас. | Лякарствы. | Доза на 1 раз. | На 24 гадз (пару). | Увагі. |
|---|---|---|---|---|
| | **Наркозныя.** | | | |
| 1табл | Veronal. . . . . . | 0,3 | 0,5 | Як снатворнае для нэрвовых, але яшчэ моцных хворых. |
| 15,0 | Валяр'яна - эфірныя кроплі. . . . . | 15 кр. | 2 разы | |
| | **Procігнільныя.** | | | |
| 10,0 | Іодная настойка . | — | — | Вонкавыя. |
| — | Іодаформа . . . . | — | — | Вонкавыя. |
| 100,0 | Буравая жыжка . | 3% | рошчына. | 1 гарбатняя ложачка на шклянку вады для кампрэсаў і паласканьня горла. |
| | **Дэзынфэкцыйныя.** | | | |
| 5табл | Сулемовыя таблеткі. . . . . . . | 0,5—1,0 | на 1 літр. | Трымаць у зачыненай шклянцы, — толькі як вонкавая дэзынфэкцыя для мэталу і для не-мэталу. |
| 100,0 | 3%-я карболавая вада. . . . . . . . | — | — | |
| 100,0 | 50°—70°-ы сьпірт, мыла, перагатаваньне, гладжаньне жалезам, праветраваньне на сонцы. . . . . . | — | — | |

Дозы для дзяцей.

Дозы лякарстваў для дзяцей меншыя, за вышэйазначаныя дозіроўкі для дарослых, на гэтулькі:

Для дзяцей да 1 году 1/20 дозы дарослых.
" " " 1—2 гадоў 1/10 " "
" " " 2—3 " 1/8 " "

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Для дзяцей да 4— 5 гадоў $^1/_6$ дозы дарослых.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| „ | „ | „ 6— 8 | „ | $^1/_4$ | „ | „ |
| „ | „ | „ 9—11 | „ | $^1/_3$ | „ | „ |
| „ | „ | „12—15 | „ | $^1/_2$ | „ | „ |
| „ | „ | „16—19 | „ | $^3/_4$ | „ | „ |

З 20 гадоў цэлая доза дарослых.

Пры перавязаваньні раны трэба добра глядзець за чыстатой. Нячыстая вопратка й хусьцё не павінна стыкацца з ранай; валасы, што растуць каля раны, трэба абстрыгчы і навет выгаліць.

Перавязаваньне ранаў.

Нельга забруджаць раны паўценьнем, жалезнай ватай, лякам або чым падобным да гэтага. Запаленьне раны і іншыя шкодныя пасьледзтвы ўзьнікаюць ад заражэньня.

Дзеля гэтага ўсё, што прыкладаецца да раны, павінна быць абсолютна чыстым: рукі памыты мылам, інструмэнты пераварапы ў кіпні, перавязачны матар'ял абеззаражаны кіпнем або парай. Калі рана не забруджана пяском, яе ляпей не размываць. Вада для абмываньня скуры каля раны павінна быць чыстай, крынічнай, або, яшчэ ляпей, пераваранай. Рану прыкрываюць кавалкам вымытай і сьвежавыпрасаванай старой матэрыі, або карболавай марляй. Паверх кладзецца ачышчаная гігроскопічная вата. Усё гэта забінтоўваецца стужкаю марлі, палатна ці хусткаю.

Выпаўшыя ўнутранасьці ня ўкладаюцца на месца бяз доктара,—трэба толькі накрыць іх павязкаю. Пры цяжкіх ранах, асабліва грудзей, жывата, ног, трэба пераносіць раненага ў ляжачым палажэньні.

Крывіцячэньне.

Пры выцячэньні крыві наагул ня трэба ўжываць паўценьня, труту, ляку, крывіспыняльнае ваты і інш. Частку-ж цела, сплываючую крывёю, трэба звольніць ад сьцягваючае вопраткі і палажыць як мага вышэй і спакайней. Пры б'ючым крывітоку прыціскаюць (у крайнім выпадку ў глыбіне раны), каб не забрудзіць раны, жылу, прыносячую кроў ад сэрца (артэрыю). Падчас прыцісканьня артэрыі рану шчыльна завязаць, паклаўшы пад намітку або бінт кавалачак перавязачнага матар'ялу. Пры цяжкіх ранах не пакідаць хворага без дагляду навет пасьля спыненьня крывітоку. Калі

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

цягнецца цячэньне крыві, дык трэба спыняць яго да прыезду доктара. Моцнае цячэньне крыві на руцэ або на назе спыняюць перацягам гумавым бінтом, рушніком, дзяжкаю ці абы чым падобным. Крывіток ад вырванага зуба спыняецца гарачым паласканьнем, або ў зубную лупачку шчыльна закладаваюць кульку ваты. Пры крывітоку з носу, хворага садзяць, расшпіляюць каўнер сарочкі, даюць асьцярожна ўцягаваць носам сьцюдзёную ваду (ляпей салёную) ў ноздру, з якое ідзе кроў; кладуць халодны кампрэс на нос, каршэнь і лоб; у ноздру ўстаўляюць кнот з ваты й прыціскаюць яе. Пры крывавых ванітах хворага трэ' палажыць супакойна, даваць глытаць кавалачкі лёду, а на падложачку класьці пузыр з лёдам. Пры моцным крывікарханьні даць напалову сядзячае становішча, паўложкі кухоннай солі з вадою і прахаладжальныя кампрэсы на сэрца. Пры жаноцкіх крывітоках патрэбна перш на перш супакойнае ляжаньне ў ложку.

Удары, зьвіхі, пераломы.

Пры ўдарах, зьвіхах і пераломах з пацярпеўшаю часткаю цела трэба абходзіцца асьцярожна, даўшы ёй супакойнае палажэньне. Ня робячы ніякіх спробаў упраўленьня косьці, трэба замацаваць яе, каб ня было ніякіх рухаў на хворым месцы, асабліва падчас пераноскі і перавозкі. З двух бакоў зломаных касьцей ўкладаюцца і ўмацоўваюцца цьвёрдыя пласьціны (лубкі). Калі пры пераломе ёсьць і рана, дык трэба перш за ўсё яе чыста перавязаць.

Топленік.

Пры ад'жыўленьні топленіка трэба перш за ўсё абчысьціць яго рот і гардзёлку ад набранага пяску, глею і выліць з лёгкіх ваду; дзеля гэтага трэба засунуць палец аж за каранныя зубы, расшчаміць рот і выцягнуць язык. Пасьля абчысткі рота, палажыць топленіка на плечы, падкласьці пад сярэдзіну складзёную вопратку і рабіць штучнае дыханьне: адцягаваньнем локцяў дагары і ўзад робяць штучнае ўдыханьне, — прыціскаваньнем локцяў да грудзей і жывата робяць штучнае выдыханьне. Пачародным выцягаваньнем локцяў угару і прыціскаваньнем іх удол да тулава робяць да 20 разоў на мінюту штучнае ўдыханьне і выдыханьне. Шчыкатаньне ў гардзёлцы пяром спрые-

Штучнае дыханьне.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

ад'жыўленьню топленіка ў часе штучнага дыханьня. Пасьля ад'жыўленьня топленіка, сагрэць яго цёплай адзежай і цёплым піцьцём.

Чад. Для ад'жыўленьня ўчадзеўшага — вынесьці яго на чыстае паветра, зрабіць штучнае дыханьне (як і з топленікам). Тое-ж самае трэба рабіць для ад'жыўленьня ўдушніка, вісельніка, атручанага хлёраформай, морфіем і г. д.

Штучнае дыханьне можа быць карысна і пры глыбокім самленьні. У часе штучнага дыханьня найляпей язык хворага трымаць выцягнутым.

Самленьне. Пры самленьні ў сядзячага чалавека спусьціць яго крэсла, закідваючы галаву ўзад так, каб яна зьвісала і каб быў прыліў крыві да галавы, а таксама расшпіліць каўнер і адпусьціць пояс. Пры абамленьні ляжачага чалавека можна павялічыць прыток крыві да галавы, падняўшы ногі ці спусьціўшы галаву хворага; грудзі, шыю і жывот таксама трэ' зводьніць ад цеснае вопраткі.

Сонцавы удар. Пры сонцавым удары хворага перанесьці ў цень, каўнер і пояс распусьціць, даць поўсядзячае палажэньне; на галаву халодныя кампрэсы; калі можна — клісьціры і слабячыя лякарствы,

Пакусаньне гадзінамі. Пры пакусаньні атрутнымі гадзінамі, ці шалёным сабакай, сьціснуць моцна дзяжкай руку або нагу вышэй пакусанага месца, тымчасам рану прыпячы чыстай карболаваю або саляною кісьляй. Паслаць па доктара, а ў той час можна высмоктаваць кроў пры помачы сухой шклянкі або чаркі, накрываючы імі ранку разам з запаленымі ў іх кавалачкамі прасьпіртованае ваты.

Параліч-удар. Пры раптоўнай згубе пачуцьцяў, калі раптам хлыне кроў у мозаг (параліч-удар), распусьціць дзягу і каўнер, даць узьнятае становішча тулаву; на галаву класьці лёд, на лыткі — гарчычнікі. З паваротам пачуцьця — слабячае й клісьціры. Прысутнасьць доктара.

Асмаленьне. Вопратку, якая загарэлася, ляпей за ўсё загасіць коўдрай ці да г. п. Хворага без пачуцьцяў ад'жыўляць штучным дыханьнем. Лёгка спаленыя месцы (без пузыроў) шмараваць кожныя 5 — 10 мінут бялком курачага яечка. Пры вялікіх асмаленьнях — хворага па-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

садзіць у цёплую ванну і даць цёплае піцьцё, віно, каву. На асмаленых месцах прыліпшую адзежу не аддзіраць. Пузыры пракалоць чыстай, апаленай ці абмытай сьпіртам, голкаю. Спаленыя месцы шмаруюць сьвінячым салам, боравазэлінаю ці абсыпаюць бульбяною мукою. Боль супакойваецца ад падняцьця ўгару асмаленага месца ці спусканьня ў халодную ваду. Асмаленага вапнай трэба абліваць вадой, падквашанай воцатам або дзежным квасам.

Змарожаньне

Адʻжыўленьне пры змарожаньні робіцца ў халаднаватым месцы. Цела расьціраецца кавалкам сукна, шурпатай рукавіцай ці чым падобным. Пры змарожаньні рук і ног іх расьціраюць спачатку сьнегам; сагрэтыя часткі цела густа шмаруюцца салам або маслам.

Атручэньне:

Пры атручэньні наагул трэба перш за ўсё выклікаць ваніты казытаньнем караня языка, піцьцём мыльнае, цёплае вады.

Мышʻяком.

Пры атручэньні мышʻяком, пасьля ванітаў, даць цёплае малако з вапеннай вадою, паленую магнэзію (ў аптэках па рэцэптах выдаюцца лякарствы процiў атручэньня).

Фосфарам.

Пры атручэньні фосфарам (сернікамі) даюць выклікаючае ваніты; не даваць малака, але адвар зярнят лёну і тарпатыну: 2 кроплі на 1 шклянку вады.

Нашатыром.

Атручаным нашатырным сьпіртам — даць кіслае піцьцё, воцат з вадою, ліманадам і інш.

Сьпіртам.

Пры атручэньні гарэлкай (вінным сьпіртам) даецца $^1/_4$ — $^1/_2$ гарбатняе ложачкі амоніячнае солі або 2 — 3 кроплі нашатырнага сьпірту з вадою.

Карболкай.

Пры атручэньні карболавай кісьляй даць выпіць цёплай вады напалову з воцатам і зараз-жа выклікаць ваніты. Пасьля даваць ваду з бялком, міндальнае або аліўкавае масла, малако; рошчыну глаўберавай солі; штучнае дыханьне.

Сернай і саляною кісьляй.

Пры атручэньні сернай або саляною кісьляй — піць цёплую ваду, мяшаную з мылам, паленай магнэзіяй, крэйдай; пасьля ваду з бялком; масла.

Сулемой.

Пры атручэньні сулемою—малако, бялок, паленая магнэзія, жалезныя апілкі, драўляны вугаль.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

Атручаным опіумам, морфіем даецца выклікаючае ваніты, кладуцца гарчычнікі на розныя месцы; нельга даваць спаць. Кава; штучнае дыханьне. Опіумам.

Прыймаючы пад увагу ўсё вышэйпаданае, на канчатак рэкамэндую памятаць 10 ніжэйсказаных мэдычна-гігіенічных досьледаў: Дзесяць лякарскіх прыказак.

I. Усе заразныя хваробы разьвіваюцца ад шкоды, чынімай арганізму людзей і жывёлаў трапляючымі ў іх драбнюсенькімі заразнымі мікроарганізмамі, якія могуць пранікаць у сярэдзіну нашага цела разам з заражаным паветрам (пыл, брызгі сьліны і г. д.), праз адкрытыя раны, са стравою (асабліва праз нячыстыя рукі й судзіны) і праз дробныя мошкі, казулькі (вошы, блохі, блашчыцы, камары, мухі і г. д.).

II. Нішчыць заразу: спальваньне менш вартых рэчаў, якія былі ў стычнасьці з заразнымі хворымі ці памёршымі ад хваробы, і дэзынфэкцыя іншых рэчаў і кватэры параю формаліны або серкі, параю кіпню $^1/_2$—1 гадз. (з выключэньнем паперы, скурак і г. п. рэчаў), мыцьцё з мылам і дэзынфэкцыя іншымі хімічнымі, нішчачымі заразу, спосабамі па радзе доктара.

III. Пасабляе ў змаганьні з заразаю асабістая і ўсебаковая чыстата, падтрыманьне арганізму патрэбнай стравай і адпачынкам (сон каля 7 — 8 гадз. у пару), праца безператруджэньня, піцьцё пераваранай вады (малака і г. д.) і мыцьцё рук пасьля стычнасьці з заражанымі.

IV. Галоўнае-ж: не баяцца падчас хваробаў і сьмела змагацца з хваробатворчымі ворагамі чалавечага арганізму.

V. Пры павялічаньні тэмпэратуры даглядаць за правільным ачышчаньнем жывата, карыстаючыся лепш за ўсё клісьцірамі, як слабячымі лякарствамі, якія бесьпячней пакідаць пад даглядам адпаведных спэцыялістаў мэдыцынскага пэрсоналу.

VI. Ляпей недакарміць, чымся перакарміць хворага ў трасцы і хворага катарам жывата і кішок. Часта здараецца, што хворыя самі глядзяць і добра адрозьніваюць добрую страву і больш карысную ад шкод-

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

най, трэба толькі праверыць, абдумаць і прыстасавацца да іхняга смаку.

VII. Даючы помач раненым, трэба сьцерагчыся забрудкэньня раны, ўжываючы дзеля гэтага пераварaны ў вадзе перавязачны матар'ял, як кужаль, (палатно з лёну), вату і кудзелю, калі няма ў запасе стэрыльнага пакету.

VIII. Крывіток з вялікшых жылаў магчыма спыніць, прыціскаючы іх у кірунку да сэрца.

IX. Самому ня брацца за лячэньне сваіх бліжэйшых родных і сяброў, берагучы сябе тым ад магчымых дакораў сумленьня ў выпадку пагоршаньня здароўя хворага, і найбольш строга правяраючы сябе, ў добры час запрашаць доктара; але ніколі не баяцца й не казаць хвораму аб магчымым благім выніку хваробы, каб яго не палохаць.

X. „Nihil nocere“ — старое лацінскае правіла мэдыцыны, якое кажа: „нічым ня шкодзь“, гэта знача: калі ня можаш памагчы, дык ані ня шкодзь.

З фондаў Віленскага беларускага музэю імя Івана Луцкевіча www.vilnia.com

